25 сакавіка 2016 | № 12 (477)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

На золку французскай беларусікі: Рэнэ Мартэль

стар. 23

5 ПЕНСІЙНЫ ЎЗРОСТ ПАВЫШАЦЬ НЕЛЬГА




21 СВЕТ ПАСЛЯ БРУСЭЛЯ

Еўропа, свет павінны падрыхтавацца да доўгай барацьбы з тэрарызмам. Гэта азначае актывізацыю намаганняў і значна больш высокую ступень супрацоўніцтва паміж краінамі

7–18

Літаратурная Беларусь

22 КАТЫНСКІ СПІС: АНАТОМІЯ ТРАГЕДЫІ

На адным з грэбняў, знойдзеных у Курапатах, быў надпіс па-польску: «Цяжкія хвіліны ў турме. Мінск, 25.04.1940. Думка пра вас прыводзіць мяне ў вар'яцтва. 26 IV расплакаўся. Цяжкі дзень»

# Выцiснуць з сябе раба

## Ад Плошчы Каліноўскага да плошчы Бангалор



Аксана КОЛБ




Плошча Каліноўскага, 2006 г.

Дзень Волі–2016 — якім ён увойдзе ў гісторыю? Шэрым, малалюдным, безвыніковым? А можа, дзясяткі тысяч чалавек выйдуць заявіць пра свае правы?

«Мы адзін народ!» — пад гэткім лозунгам арганізатары акцыі збіраюць удзельнікаў на Дзень Волі. Як перакананыя арганізатары, складаная эканамічная сітуацыя сёлета значна паўплывае на колькасць удзельнікаў акцыі. Магчыма.

На момант здачы нумару ў друк яшчэ не было вядома, колькі чалавек адгукнецца на заклік і прыйдзе а 18.00 да кінатэатра «Кастрычнік». Таму надзея, хаця і вельмі слабая, застаецца. Надзея на тое, што 25 сакавіка 2016 года шматтысячная грамада здолее выцiснуць з сябе раба і выйсці на пратэст.

«Ведаеш, сёння ранкам пакінуў жонцы цыдулку і прыехаў у Мінск. Вось зараз тут, выціскаю з сябе раба, па кроплі...» — сказаў мой аднакурснік Андрэй Міхальчанка 21 сакавіка 2006 года, калі мы сустрэліся з ім на Кастрычніцкай плошчы ля намётавага мястэчка. Для яго гэта быў вельмі важны крок і вельмі мужны. Ён ніколі не ўдзельнічаў ні ў якіх акцыях, але тады, у 2006-м, прыехаў на Плошчу падтрымаць пратэст. Бо больш не мог трываць, стаміўся цярпець і баяцца, паверыў, што ўсё можна змяніць.

Усе, хто тады былі на Плошчы Каліноўскага, таксама верылі. «Верым, можам, пераможам!» — асноўны лозунг тых падзей. Водгук украінскіх падзей дадаваў аптымізму. Мы верылі, што пераможам, мы прыйшлі на плошчу, нягледзячы на шматлікія папярэджанні, застрашваючыя смс і снайпераў на дахах. Шмат хто застаўся на плошчы ў намётах, шмат хто дапамагаў ежай і цёплымі рэчамі. Хтосьці — добрым словам ці, як Андрэй, сваёй прысутнасцю.

А пасля быў жорсткі разгон намётавага лагеру, быў Дзень Волі і марш на Акрэсціна, каб падтрымаць тых, каго кінулі за краты напярэдадні. На плошчы Багушэвіча нашу шматтысячную калону на чале з Аляксандрам Казуліным сустрэлі байцы спецназу часткі №3214. Паляцелі шумавыя і дымавыя гранаты. Хтосьці спрабаваў уцячы па крутых схілах вакол праезнай часткі, хтосьці спрабаваў адбівацца. Людзей хапалі, білі, кідалі ў аўтазакі. Памятаю чалавека, які ляжаў на зямлі паміж шэрагамі пратэстоўцаў і спецназу і не варушыўся. Пасля нават хадзілі чуткі, што тады, 25 сакавіка 2006 года, было некалькі забітых. Але, здаецца, яны так і засталіся чуткамі. Потым былі суды, 53 дні галадоўкі Казуліна, яго вызваленне...

У гэтыя дні шмат хто ўзгадваў Плошчу Каліноўскага. У кожнага яна была свая, са сваімі перамогамі і паразамі. Людзі дзяліліся ўспамінамі ў сацсетках. Палітыкі і эксперты спрабавалі ў чарговы раз аналізаваць тыя падзеі на круглых сталах і старонках СМІ, прыходзячы да несуцяшальных высноваў і да чарговых урокаў.

«Я ўдзячны кожнаму чалавеку, які быў на Плошчы. Сапраўды, гэта быў асабісты подзвіг. І вельмі хацелася б, каб мы ўсе разам вярнуліся хаця б да духу Плошчы Каліноўскага. Бо мы мусім быць разам», — сказаў на круглым стале, прысвечаным 10-годдзю падзей 2006 года, Вячаслаў Сіўчык.

**Беларусам сёння не хапае веры**

«Страх — вельмі эфектыўная зброя ў руках улады. Перад Плошчай у 2006 годзе генеральны пракурор, старшыня КДБ і міністр унутраных спраў краіны неаднакроць папярэджвалі па тэлебачанні, што тыя, хто выйдзе на Плошчу, будуць разглядацца як тэрарысты. Гэта не была пустая пагроза, у нас за тэрарызм можа быць і вышэйшая мера пакарання. І ўсё ж, калі нават паводле афіцыйных звестак, выйшла 34 тысячы чалавек, гэта было вельмі нечакана. Людзі сапраўды перамаглі страх. Я ведаю, што некаторыя развіталіся з сем'ямі, яны не ведалі, ці вернуцца і калі. Гэта быў пераломны момант у жыцці тысяч людзей. Так, на Плошчы не было мільёнаў, але найчасцей лёс краінаў вырашае не большасць, а меншасць, сумленная, мужная і самаарганізаваная частка грамадства», — так ацаніў падзеі тых дзён экс-кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Мілінкевіч.

Паводле яго словаў, беларусам сёння не хапае веры: у сябе, у іншых, у краіну, у тое, што Беларусь можа быць беларускай, еўрапейскай і свабоднай.

Я веру. Хто ведае, можа ўжо сёння грамадзяне Рэспублікі Беларусь нарэшце захочуць «людзьмі звацца». І выйдуць на Плошчу. І не мае значэння, як яна будзе называцца — нават калі плошча Бангалор. Галоўнае,

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БАРАНАВІЧЫ. Суд перанесены

**Суд па справе грамадскага актывіста Рыгора Грыка працягнецца 31 сакавіка.**

Справу актывіста разглядалі 22 сакавіка. У судовай позве, якую актывіст атрымаў напярэдадні, пазначалася, што ў суд ён выклікаецца ў якасці абвінавачанага па арт. 23.34 КаАП (паўторны ўдзел на працягу года ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве).

Нагадаем, на акцыю прадпрымальнікаў Рыгор Грык выйшаў у паласатай робе з плакатам са словамі Рыгора Барадуліна: «Адкінем страх, сумненне і ныццё! За Беларусь, за годнае жыццё!». Ён таксама трымаў у руках Канстытуцыю РБ і плакацік з надпісам: «SOS!».

Рыгор Грык, па ягоных словах, не мог не пайсці на мітынг, паколькі застаўся без працы і ўжо паўгода не мае сродкаў для існавання. За гэты час з лістамі аб працаўладкаванні ад Цэнтра занятасці абышоў 30 прадпрыемстваў і ўстаноў. Але атрымаў толькі роспісы кіраўнікоў з пячаткамі, што вакансій няма

Грык паведаміў суду, што 28 лютага ўбачыў у Мінску мітынгуючых прадпрымальнікаў і падышоў паслухаць. Міліцыі не бачыў, ніхто яму заўвагі не рабіў, пратаколу на яго не складалі. Суддзя Вольга Копач палічыла неабходным перанесці судовае пасяджэнне на 31 сакавіка, каб выклікаць у сведкі мінскіх міліцыянтаў, што складалі пратакол. Актывіст сваю віну не прызнаў.

**Паводле «Радыё Рацыя»**

### ВІЦЕБСК. Адказных за збіццё не знайшлі

**Віцебскі гарадскі аддзел Следчага камітэта адмовіў студэнту Паўлу Раслякову ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ў дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі па факце збіцця.**

Заява, у якой пацярпелы прасіў прыцягнуць праваахоўнікаў да вызначанай законам адказнасці, была пададзеная ім у верасні мінулага года. Увесь гэты час па справе ішла праверка.

Паводле словаў Раслякова, усё выглядала так:

1 верасня мінулага года яму патэлефанаваў чалавек, які прадставіўся супрацоўнікам міліцыі, і папрасіў прыйсці ў АУС адміністрацыі Кастрычніцкага раёна для правядзення апытання наконт крадзяжу маёмасці (сістэмнага блоку з маніторам) грамадзяніна Д. Мігунова, які пражывае ў тым самым інтэрнаце, што і Раслякоў. Падчас гутаркі ўжо ў РАУС адзін з супрацоўнікаў міліцыі сказаў, што хлопец мае толькі два варыянты: «добры» і «дрэнны». Першы меў на ўвазе прызнанне Паўлам, што менавіта ён здзейсніў крадзеж маёмасці, за што яму абяцалі прымяніць пакаранне, не звязанае з пазбаўленнем волі. Дрэнны варыянт палягаў у тым, што калі Раслякоў не прызнаецца, то яму дадуць турэмны тэрмін. У момант размовы ў кабінеце прысутнічалі трое міліцыянтаў. Пасля таго, як ён сказаў, што нічога не скраў, адзін з супрацоўнікаў ударыў яго спачатку ў вобласць левага вуха, а пасля ў вобласць грудной клеткі, па шчоках і вушах.

Пасля таго, што здарылася, у той самы дзень увечары, Павал па патрабаванні бацькоў звярнуўся ў траўмапункт, дзе былі зафіксаваныя цялесныя пашкоджанні.

У пастанове аб адмове ў распачынанні крымінальнай справы гаворыцца, што Раслякова апытвалі ў адным кабінеце з заяўнікам Мігуновым, што пасля вуснай гутаркі яго адразу адпусцілі дадому, што ніхто з супрацоўнікаў міліцыі яго не біў, і нічога, што зневажае гонар і годнасць, у яго адрас сказана не было. Паводле Мігунова, апытанне оперупаўнаважаны Грыгор'еў праводзіў у ветлівай форме, тон голасу не павышаў, паводзіў сябе карэктна, псіхалагічнага ціску ні на яго, ні на Раслякова не аказвалася, фізічная сіла да іх не ўжывалася.

Судова-медычная экспертыза, якую правялі 2 верасня, паказала, што ў Паўла маюцца сінякі на левым вуху, на грудной клетцы, якія з'явіліся ў тэрмін да сутак да агляду эксперта.

**Паводле сайта «Віцебская Вясна»**

### БАБРУЙСК. За якасную медыцыну

**Дэмакратычныя актывісты Бабруйску падалі заяўкі на пікеты за якасную медыцыну.**

Заяукі падалі абласны каардынатар аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Таісія Кабанчук, Арсень Чыгір і Аляксандра Сьянава (БХД), Валянціна Глухава (АГП) і Леанід Чугураў (Справядлівы свет).

Напярэдадні Леаніда Чугурава выклікалі на размову да галоўнага ўрача горада. «Абмяркоўвалі платную і бясплатную медыцыну. Галоўурач заверыў, што ўся медыцына ў нас бясплатная. Але калі хочаш, каб цябе лячылі лепш, то можаш заплаціць. Больш нічога сур'ёзнага ён мне не змог адказаць», — адзначыў Чугураў.

**Паводле bchd.info**

# Польшча — Беларусь

*Жанна ГЕМБІЦКАЯ*

**Упершыню за пяць гадоў Беларусь з працоўным візітам наведаў міністр замежных спраў Польшчы. 22–23 сакавіка ў нашай краіне знаходзіўся Вітальд Вашчыкоўскі.**

Праграма візіту была даволі насычанай. Кіраўнік польскага МЗС наведаў Курапаты, дзе ўсклаў вянкі да магіл ахвяраў сталінскіх рэпрэсій, візавы цэнтр Польшчы ў гандлёвым цэнтры «Галілеа». Сустрэўся з беларускім калегам Уладзімірам Макеем. Падчас сустрэчы абмяркоўваліся перш за ўсё трансгранічнае і эканамічнае супрацоўніцтва нашых краін. Размова была таксама прысвечана гістарычнаму дыялогу, адносінам ЕС — Беларусь і пытанням бяспекі ў рэгіёне.

Падчас сумеснага брыфінгу з Уладзімірам Макеем у Мінску Вітальд Вашчыкоўскі сказаў: «Я прыехаў сюды, каб правесці практычныя, канкрэтныя перамовы і не ставіць умовы для правядзення дыялогу. Тым не менш, я прадстаўляю ўрад, чые ідэі бяруць вытокі з магутнага руху «Салідарнасць», таму пытанні захавання правоў чалавека для нас — вельмі важныя. Мы, як суседзі Беларусі, гатовыя дапамагаць ва ўсіх практычных аспектах пабудовы сучаснай, функцыянальнай краіны, якая добра арганізавана, якая перадусім таксама бяспечная і незалежная».

Таксама міністр сустрэўся з прадстаўнікамі беларускіх незалежных колаў, на якой выказаў спадзеў на тое, што Польшча дапаможа Беларусі абраць цывілізаваны шлях развіцця і паспрыяе паляпшэнню іміджу Беларусі пры ўмове, што Беларусь будзе прытрымлівацца міжнародных стандартаў дэмакратыі.

Безумоўна, больш за ўсё ўвагі было да сустрэчы Вітальда Вашчыкоўскага з Аляксандрам Лукашэнкам. Лукашэнка паабяцаў Вашчыкоўскаму зрабіць так, каб дэмакратыі ў Беларусі было не менш, чым у Польшчы. Паводле слоў Лукашэнкі, Беларусь гатовая на самае шчыльнае супрацоўніцтва з Польшчай. «Нягожа нам глядзець адзін на аднаго праз плот. Мы заўсёды знаходзілі супольную мову. Хацелася б, каб так было і цяпер», — перадае словы кіраўніка Беларусі БЕЛТА.

Таксама міністр наведаў Ваўкавыск — радзіму яго маці. «Мая мама нарадзілася ў Ваўкавыску ў 1936-м годзе. Тут правяла першыя гады свайго жыцця, тут жылі і працавалі мае дзяды. Але пасля 1945 года ўсе былі перасеmenы ў Польшчу. Таму, можна сказаць, што я таксама тутэйшы!» — сказаў Вітальд Вашчыкоўскі журналістам.

Актам рэалізму назваў візіт кіраўніка МЗС Польшчы ў Беларусь былы намеснік старшыні польскага МЗС, еўрадэпутат Павал Коваль. «Польшча зрабіла разварот у палітыцы ў дачыненні да Беларусі, гэта сведчанне паразы еўрапейскай палітыкі, якая падштурхоўвала да палітычных змен у Беларусі. Сёння ЕС не мае на гэта сілаў ды сродкаў. Польшча, як сусед, мусіць з суседам дамаўляцца. Хаця б у справе польскай меншасці ў Беларусі, якая стала прычынай моцнага пагаршэння адносін у 2004–2005 гадах!» — адзначыў Коваль.

«Я не ведаю іншых спосабаў Еўропе і Польшчы ў тым ліку, уплываць на Беларусь, акрамя дыялогу. Санкцыі — гэта пазіцыя, маральная пазіцыя, але як інструмент яны не прасто не эфектыўныя, яны нават працуюць у горшы бок, бо тады менш праеўрапейскіх настрояў, менш уплыву дэмакратычнай апазіцыі і ў людзей менш веры, што за Еўропай можна некалі пайсці. Я за дыялог, але за дыялог з умовамі і крытычны, бо ёсць праблемы, і Вашчыкоўскі ўжо казаў, што ёсць праблемы з правамі чалавека, з дэмакратыяй, з выбарамі, з Саюзам палякаў, але я лічу, што менавіта дыялог можа паступова іх вырашаць. Не таму, што Лукашэнка захоча стаць дэмакратам, ён не стане ім ніколі, ён савецкі чалавек, але для грамадства адкрыццё на Еўропу, перш за ўсё на Польшчу, гэта вельмі важна», — так пракаментаваў візіт Вітальда Вашчыкоўскага лідар руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч.

Апошні раз міністр замежных спраў Польшчы наведваў Беларусь у лістападзе 2010 года. Радаслаў Сікорскі, які тады займаў гэту пасаду, прыязджаў у Мінск разам са сваім нямецкім калегам Гіда Вестэрвеле, яны сустракаліся з Аляксандрам Лукашэнкам. Гэта было незадоўга да выбараў.

# Праўда пра Курапаты

*Марат ГАРАВЫ*

**Напярэдадні Дня Волі, 24 сакавіка, у Мінску ў амбасадзе ЗША адкрылася дакументальна-мастацкая выстава «Праўда пра Курапаты. Факты, дакументы, сведчанні».**

Экспазіцыя, падрыхтаваная сябрамі грамадзянскай ініцыятывы «Эксперты ў абарону Курапатаў» і творцамі суполкі «Пагоня» Беларускага саюза мастакоў пры падтрымцы іншых структураў грамадзянскай супольнасці, упершыню дэманстравалася ў сталічным Палацы мастацтва з 14 па 17 лістапада 2015 года.

На адкрыцці экспазіцыі прысутнічаў часовы павераны ў справах ЗША ў Беларусі Скот Роланд, які і запрасіў выставу разам з яе стваральнікамі ў амерыканскую амбасаду. Апроч таго, на адкрыццё былі запрошаныя дыпламаты краінаў Еўрасаюза, Ізраіля і Украіны.

Амерыканскія дыпламаты і госці амбасады пазнаёміліся з экспазіцыяй, якая распавядае пра Курапаты — сімвал змагання за волю і незалежнасць Бацькаўшчыны. У васьмі раздзелах выставы («Эксплікацыя», «Адкрыццё», «Ушанаванне», «Абарона», «Тэрыторыя», «Даследаванне», «Каты», «Расстраляныя») дэманструюцца копіі і здымкі выяўленчых, пісьмовых і рэчавых матэрыялаў, якія сведчаць пра пакуты нацыі і мінулае Курапатаў.

На стэндах — здымкі першаадкрывальнікаў Курапатаў Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва, копія іх артыкулу ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» ад 3 чэрвеня 1988 года «Курапаты — дарога смерці» з прадмовай Васіля Быкава, матэрыялы пра першае шэсце ў Курапаты 18 чэрвеня 1988 года і шэсце на Дзяды 30 кастрычніка 1988 года, падчас якога адбыўся разагнаны міліцыяй мітынг, дзе ўпершыню ў гісторыі БССР быў публічна ўзняты бел-чырвона-белы сцяг, рэпрадукцыя фота невядомага аўтара з архіву археолага Міколы Крывальцэвіча пра гістарычную сустрэчу ў Курапатах 15 снежня 1994 года беларускіх навукоўцаў з прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам, копія здымку пчаляра з вёскі Скібічы Драгічынскага раёна на Берасцейшчыне Сільвестра Мацкевіча, якога расстрэльвалі ў Курапатах у першыя дні германа-савецкай вайны, але не забілі.

Сям'я даследчыка трагедыі ва ўрочышчы, журналіста Яўгена Гарэліка дала магчымасць упершыню дэманстраваць старонкі з яго працоўнага архіву. Са збораў Уладзіміра Кармілкіна і Георгія Ліхтаровіча ў экспазіцыю ўвайшлі рэдкія фота.

# Памяці Ганны Вольскай



Ранкам 23 сакавіка на 41-м годзе жыцця адышла ў лепшы свет Ганна Вольская, жонка вядомага беларускага музыкі Лявона Вольскага.

Яна нарадзілася 11 чэрвеня 1975 года. Скончыла Інстытут культуры. У 1995–1996 гадах працавала ў рэкламным аддзеле легендарнага «Радыё 101.2», дзе і пазнаёмілася з будучым мужам. У шлюбе ў іх нарадзілася дачка Адэля, якой 23 сакавіка споўнілася 18 гадоў.

Ганна пэўны час была дырэктарам гурту N.R.M., з'яўлялася нязменным прадзюсарам музычнага праекта «Крамбамбуля» і сольных альбомаў Лявона Вольскага, выступала суаўтаркай сцэнару, прадзюсарам і нават акторкай у некалькіх праектах для тэлеканала «Белсат» («Снежны завулак», «Назад у будучыню»). Сябра ГА «БАЖ» з 2009 года.

Шмат хто лічыць, што без Ганны не было б таго Лявона Вольскага, якога мы ўсе ведаем.

Светлая памяць светламу чалавеку! Шчырыя спачуванні родным і сваякам.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Час прадказальнага песімізму

Генадзь КЕСНЕР


Фота www.hdw.eweb4.com

**Апошнім часам што ні навіна — то хоць за галаву хапайся. Афіцыйны лідар Беларусі даў зразумець, што ад павышэння пенсійнага ўзросту нікуды не падзецца, эканамісты сцвярджаюць, што ўсе дзяржаўныя лямантны наконт несправядлівасці расцэнак на жыллёва-камунальныя паслугі застануцца толькі лямантамі. А на цывілізаваны свет накатвае чарговая хваля міжнароднага тэрарызму.**

Толькі 16 сакавіка на нарадзе па ўдасканаленні пенсійнага забеспячэння грамадзян Аляксандр Лукашэнка абяцаў, што Беларусь пакуль не пойдзе на павышэнне пенсійнага ўзросту. І вось ужо, наведваючы цукеркавую фабрыку «Камунарка», кіраўнік Беларусі падчас сустрэчы з працоўным калектывам гэтага прадпрыемства распавёў, што з'яўляецца прыхільнікам паэтапнага павышэння пенсійнага ўзросту на тры гады. «Я схіляюся да таго, што мы павінны ісці паступова і акуратна. Я прыхільнік таго, каб пенсійны ўзрост павысіць на тры гады, кожны год па палавінцы. І так мы зможам спакойна, за шэсць-сем гадоў прайсці гэтыя тры гады», — сказаў Лукашэнка. Нейкі складаны для абывацеля арыфметычны дывертысмент.

Застаецца толькі здагадвацца, што адбылося за літаральна два дні ў галаве кіраўніка дзяржавы і што змусіла яго спачатку адмаўляць павышэнне пенсійнага ўзросту, а потым казаць пра неабходнасць, хоць і паступовага, такога кроку. Відаць, зусім капец з грашамі, таму і вырашаць пытанне трэба за кошт электарату.

Як за кошт таго самага электарату трэба і вырашаць пытанні аплаты жыллёва-камунальных паслуг (ЖКП). Вядома, што крэдыторы — Міжнародны валютны фонд і Еўразійскі фонд стабілізацыі і развіцця, ад якіх беларускія ўлады спадзяюцца атрымаць крэдыты (3 і 2 мільярды долараў адпаведна), — сярод іншых умоваў ставяць і неабходнасць стопрацэнтнай аплаты грамадзянамі паслуг жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

Раней кіраўнік дзяржавы патрабаваў ад камунальнікаў павышаць расцэнкі на ЖКП не больш як на 5 долараў за год. Але ў лютым насельніцтва Беларусі схапілася за галаву, атрымаўшы жыроўкі за студзень. У гэтых паперах значыліся сумы, якія перавышалі расцэнкі за снежань 2015 года ў 40–70%, а ў некаторых выпадках на 110%. Народ пачаў наракаць, і гэта стала вядома вышэйшаму кіраўніцтву дзяржавы.

Лукашэнка добра памятае, да чаго прывялі павышэнні коштаў у 1991 годзе. Тады працоўны люд фактычна змёў камуністычную ўладу яшчэ да распаду СССР, дэмаралізаваўшы сваімі масавымі выступамі замшэлую наменклатуру, якая ўжо не змагла адстаяць сваю ўладу. Дзеючы кіраўнік у сваім рэпертуары абрынуўся на чыноўніцтва і патрабаваў нават «пасадзіць дзясятак-другі» тых, хто «ад балды» прыдумаў новыя расцэнкі на ЖКП. Загад быў выкананы — схапілі 13 чалавек, арыштавалі, а расцэнкі абяцалі пералічыць і панізіць. Аднак многія грамадзяне атрымаюць жыроўкі за люты толькі 25 сакавіка, на момант выхаду нашай газеты з друку. А аплаціць іх можна ажно да 4 красавіка. Цікава будзе паглядзець, наколькі на карысць простага чалавека будуць пералічаны тарыфы.

Не заставалася па-за ўвагаю прадстаўнікоў дэмакратычнай грамадскасці і сітуацыя вакол украінскай лётчыцы Надзеі Саўчанка. Два дні запар людзі пікетавалі расійскае пасольства ў Мінску, каб падтрымаць Надзею і патрабаваць спыніць яе пераслед. Па найноўшай завядзёнцы, праваахоўнікі не хапалі ўдзельнікаў несанкцыянаванай акцыі, але складалі на іх пратаколы аб адміністратыўных правапарушэннях. Буйнымі штрафамі, якімі «адорваюць» беларускія суды ўдзельнікаў падобных мерапрыемстваў, улады, відаць, імкнуцца папоўніць спусцелую дзяржаўную скарбонку. Дый адміністрацыйныя арышты ў святле трэнду на паляпшэнне стасункаў з Захадам сёння з'яўляюцца маветонам. Дарэчы, Саўчанка прыгаварылі да 22 год зняволення ў калоніі агульнага рэжыму. Сапраўдная ж «вайна» вакол гэтай украінскай патрыёткі, відавочна, яшчэ толькі пачынаецца.

Вось як пракаментавала «Радыё Свабода» вырак Надзеі нобелеўская лаўрэатка Святлана Алексіевіч: «Гэта ўжо не проста злачынства ўлады, гэта нейкае вар'яцтва ўлады, якая ўжо знаходзіцца ў экстазе ад сваіх магчымасцяў і ад сваёй беспакаранасці. Бо ўсім жа відавочна, што гэта палітычны працэс, які не мае пад сабой ніякіх падстаў. Што судзяць не Надзею Саўчанка, а судзяць Украіну. Украіне хочуць паказаць, свету хочуць паказаць, што, маўляў, ніхто нам не ўказ. Але ўсё гэта нагадвае нейкае вар'яцтва. Нейкую агонію. Бо палітыка ўсё ж, як бы там ні было, гэта разумныя дзеянні ў пэўнай ступені. А гэта ўсё нават не разумна. Мы ўсе захопленыя мужнасцю Надзеі, мы ўсе яе не пакінем і будзем далей за яе ўсе змагацца. І ўсёткі я спадзяюся, што мы пераможам. Ну не могуць жа яны быць мацнейшыя за ўсіх нас». Усім бы такой упэўненасці, якую выпраменьвае сусветна вядомая беларуская пісьменніца.

Але ўвага многіх людзей апошнімі днямі пераключылася зусім не на ўнутраныя праблемы. Свет скаланулі тэракты ў сталіцы Бельгіі і Еўрапейскага Саюза Бруселі, калі 22 сакавіка а 8-й раніцы паводле мясцовага часу два выбухі адбыліся ў міжнародным аэрапорце, а праз гадзіну — на станцыі метро ў так званым «Еўрапейскім квартале», дзе месцяцца будынкі Еўрапейскай камісіі і Еўрапейскага парламента, іншыя ўстановы Еўрасаюза. У выніку загінуў 31 чалавек, сотні атрымалі раненні.

Так атрымалася, што менавіта ў гэтыя дні ў Бруселі знаходзіліся прадстаўнікі шэрагу апазіцыйных партыяў і грамадскіх арганізацыяў, якія бралі ўдзел у пасяджэнні «Еўранест» — Парламенцкай асамблеі Усходняга партнёрства. Дзякуй Богу, ніхто з іх ад тэрактаў не пацярпеў.

І яшчэ. На мінулым тыдні прайшоў апошні этап Кубку свету па біятлоне. Упершыню за многія гады беларускія страляючыя лыжнікі за цэлы сезон не атрымалі ніводнай узнагароды. Вось як адбілася на нашай камандзе адсутнасць трохразовай алімпійскай чэмпіёнкі, чэмпіёнкі свету і ўладальніцы Вялікага крыштальнага кубка свету Дар'і Домрачавай, якая пасля хваробы ўзяла перапынак на год. Застаецца толькі спадзявацца, што вяртанне каралевы біятлону зноў нагадае спартовому свету пра Беларусь. Бо адной Вікторыі Азаранка гэта не так проста.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Валерый Шчукін

**Вядомаму беларускаму праваабаронцу 22 сакавіка споўнілася 74 гады.**

Валерый Аляксеевіч Шчукін — адзін з самых сталых і вядомых праваабаронцаў Беларусі. У свой час быў рэкардсменам па колькасці знаходжання на «сутках». Сам ён кажа, што раней нават вёў дзённік, дзе ўлічваў кожную ўласную ходку. А калі лічба стала трохзначнай, перастаў весці ўлік.

«Сёння мне не сорамна за тыя гады, што я пражыў, — сказаў Валерый Аляксеевіч сайту palitviazni.info. — Мне не сорамна глядзець людзям у вочы. Не сорамна ні перад калегамі, ні перад нашчадкамі, ні перад беларускім народам. Я жыў па справядлівасці і нікога не баяўся. Я ні разу па пашкадаваў аб тым, якое жыццё пражыў. Я салдат, які аддаў шмат гадоў службе на флоце, а ў цывільным жыцці папоўніў шэрагі салдат арміі справядлівасці — простых і сумленных людзей. Я бачыў сваё наканаванне ў тым, каб дапамагаць людзям. Дапамагаючы ім, адстойваючы свае і іх правы, даводзілася нечым ахвяраваць. У маім выпадку — свабодай».

«Новы Час» шчыра віншуе Валерыя Аляксеевіча Шчукіна.



## Юрый Чыж

**Кіраўніку групы кампаній «Трайпл», затрыманаму 11 сакавіка, прад'яўленае абвінавачанне.**

Юрыя Чыжа вінавацяць у здзяйсненні злачынства, прадугледжанага часткай 2 артыкула 243 Крымінальнага кодэкса Беларусі (ухіленне ад выплаты падаткаў і збораў у асабліва буйным памеры).

Мера стрымання яму засталася ранейшай — утрыманне пад вартай.

Як паведаміў на прэс-канферэнцыі 15 сакавіка старшыня КДБ Валерый Вакульчык, летам мінулага года Чыж і два яго расійскія партнёры звярнуліся ў КДБ з заявай аб супрацьпраўнай дзейнасці намесніка Чыжа Уладзіміра Япрынцава. У ходзе расследавання, паводле слоў кіраўніка КДБ, было выяўлена ўхіленне ад выплаты падаткаў у «Трайпл», да якога мае дачыненне сам Чыж. Прамыя доказы гэтаму былі атрыманы КДБ 11 сакавіка.

Паводле КДБ, нібыта ўстаноўлена, што ў 2012 годзе па загадзе Чыжа ў Маскве была створана фірма, ажыццяўленне фінансава-гаспадарчай дзейнасці якой першапачаткова не планавалася. Яе заснавальнікам стаў вышэйзгаданы грамадзянін Расіі. «Трайпл» перадаў гэтай фірме правы на свой таварны знак, а затым практычна штомесяц пераводзіў ёй буйныя сумы пад выглядам платы за карыстанне таварным знакам. Гэтыя грошы пераводзіліся ў наяўныя ў Маскве, перадаваліся касіру, а той перадаваў іх Чыжу. Такіх фірмаў, паводле слоў Вакульчыка, было досыць шмат. Шкода ацэньваецца ў мільярды рублёў.

Абвінавачванні прад'яўленыя і яшчэ пяці фігурантам па справе Чыжа.



## Вікторыя Азаранка

**Зорка беларускага тэнісу абыграла амерыканку Серэну Уільямс у фінале тэніснага турніру ў Індыян-Уэлсе.**

Для беларускі гэта чацвёртая перамога над амерыканкай і другая, здабытая ў двух сэтах, — 6:4, 6:4.

Зброяй Азаранкі ў гэтай сустрэчы была падача. У выніку ў актыў Азаранка запісала пяць эйсаў за матч, і на гэтым турніры больш у яе было толькі ў супрацьстаянні з Самантай Стосур.

Гэта перамога дапамагла Азаранка вярнуцца ў топ–10. Беларуска ўжо восьмая ў рэйтынгу найлепшых тэнісістак.

Нагадаем, што прызавы фонд турніру ў Індыян-Уэлсе складае 6 мільёнаў долараў.

# Да вялікага пратэсту яшчэ далёка

Вольга ХВОІН

**Днямі споўнілася 10 гадоў Плошчы–2006. У сацыяльных сетках людзі актыўна дзяліліся сваімі настальгічнымі ўспамінамі пра тыя пратэстныя дні. Большасць, хіба, згадвалі пра адчуванне свабоды, пра аднойчы пераадолены страх перад сістэмай і перад сабой. Некаторыя дзяліліся сваімі ўспамінамі ўжо з-за межаў Беларусі.**

Усё гэта, на сённяшні дзень, выглядае мілай мрояй, якая не мае нічога агульнага з рэчаіснасцю — стабільнай і непарушнай. Нават пад цяжарам дэвальвацый, падаткаў на пазыкі і дармаедства, скарачэннем працоўных месцаў ды многага іншага, чым у апошнія гады абрастае эканамічная мадэль Беларусі.

Тарыфы і цэны растуць, заробкі падаюць, задаволеных жыццём у Беларусі — усё менш. Улады прапанавалі новы сацыяльны кантракт: мір у абмен на маўклівую згоду. Але дзе мяжа трываласці беларускага грамадства, і ці можа незадаволенасць дзяржаўнай палітыкай трансфармавацца ў нейкую выразную форму пратэсту?

Яшчэ напрыканцы мінулага года, калі не прыйшлі рахункі ЖКГ з новымі тарыфамі, пытанне падвышэння пенсійнага ўзросту згадвалася мімаходзь, а іпэшнікі толькі чакалі новага года, які пазбавіць іх магчымасці працаваць паводле старых правілаў, узровень незадаволенасці ўладамі ў грамадстве быў высокім.

Снежаньскае апытанне НІСЭПД паказала, што 51,1% жыхароў Беларусі мяркуюць, што 2015 год быў цяжэйшым, чым папярэдні. Афіцыйная статыстыка паказала, што за адзінаццаць месяцаў 2015-га рэальныя наяўныя грашовыя даходы насельніцтва скараціліся на 5,4%. Для 55,4% рэспандэнтаў даследавання НІСЭПД змена існуючай сітуацыі ў краіне апынулася важней за яе захаванне. За захаванне цяперашняга раскладу прыхільнікі Аляксандра Лукашэнкі выказваюцца ў шэсць разоў часцей яго праціўнікаў — 61,8% супраць 11,3%.

«Яны прывыклі здавальвацца малым, таму паступовае зніжэнне рэальных даходаў не спараджае ў іх асяроддзі пратэстных настрояў і не вядзе да прыкметнага зніжэння даверу кіраўніку дзяржавы», — пішуць аналітыкі НІСЭПД.

У Беларусі цяпер назіраецца цікавая сітуацыя: узровень жыцця пагаршаецца, кухонных (ці, дакладней, віртуальных) рэвалюцыянераў быццам бы большае з кожным днём, а вулічныя акцыі пратэсту ІП, якія мелі месца ў лютым і сакавіку, сабралі мізэрную колькасць удзельнікаў.


Дзень Волі, 1996 г. Фота nn.by

Некалькі сотэнь ІП ды спачуваючых ім грамадзян выходзілі ў цэнтр Мінска з пратэстам.

Эксперт аналітычнага цэнтру «Стратэгія», палітолаг Валер Карбалевіч гаворыць, што арганізатары пратэстаў спазніліся на пару месяцаў.

«Акцыі прадпрымальнікаў мусілі вырашыць лакальнае пытанне: як працаваць далей дробным гандлярам? Гэта мала тычылася шырокага кола людзей. Дый на вуліцу пачалі заклікаць у лютым, калі прайшло паўтара месяца ад пачатку ўвядзення новых правілаў работы. За гэты час нехта сышоў, нехта знайшоў, як рабіць патрэбныя дакументы, а нехта змірыўся паводле беларускай завядзёнкі», — адзначае прагалы ў арганізацыі вулічных пратэстаў палітолаг.

Што тычыцца апазіцыйных сілаў, то нават на фоне чэзлага пратэсту ІП атрымалася арганізаваць скандальчык на тэму «хто ўзначаліць пратэст?». Нагадаю, адзін з лідараў прадпрымальнікаў Анатоль Шумчанка сумесна з апазіцыйным палітыкам Міколам Статкевічам падалі ў Мінгарвыканкам заяўку на марш прадпрымальнікаў 14 сакавіка, потым і прадстаўнікі Аб'яднанай грамадзянскай партыі падалі заяўку на сацыяльны марш у той жа дзень па тым жа маршруце. Шумчанка абвінаваціў старшыню АГП Анатоля Лябедзьку ў намеры сарваць іх акцыю. Лябедзька апраўдваўся, што хоча аб'яднаць намаганні, дадаўшы да прадпрымальнікаў незадаволеных студэнтаў, пенсіянераў і іншых. Выглядала ўсё гэта, калі адным словам, — паныла.

Увогуле, рэакцыя і грамадства, і яго апазіцыйна настроенай часткі на спробы вывесці людзей на вуліцу зразумелая: два папярэднія актыўныя і сапраўды масавыя вулічныя пратэсты ў 2006 і 2010 гадах не прынеслі чаканага выніку, пераменаў і асэнсавання, што «твой голас важны». Толькі сляды на целе ад амапаўскіх дубінак, страх, расчараванне ў лідарах апазіцыі, дэмаралізацыю.

А прагнозы эканамістаў на гэты год нічога аптымістычнага не абяцаюць. Даследчы цэнтр Інстытута прыватызацыі і менеджменту ў снежні 2015 года апублікаваў макраэканамічны прагноз на 2016 год. «ВУП у Беларусі скароціцца на 3,7%.


Плошча Каліноўскага, 2006 г.



Плошча, 19 снежня 2010 г.


Дзень Волі, 2015 г.

Гэта будзе наступствам структурных недахопаў, неспрыяльнага знешняга асяроддзя, а таксама жорсткай макраэканамічнай палітыкі. Новымі ўстойлівымі характарыстыкамі макраэканамічнага асяроддзя сталі ўнутраны попыт, што скарачаецца, і чысты экспарт, што паляпшаецца. У 2016 годзе, найбольш верагодна, рэцэсія працягнецца. Галоўная прычына гэтага — устойлівы дэпрэсіўны стан інвестыцыйнага попыту. Усё больш важным атрыбутам макраэканамічнага ландшафту будзе зніжэнне занятасці», — прадракаюць невясёлыя дні айчыннай эканоміцы эксперты.

Даследчыкі НІСЭПД першымі загаварылі пра новы сацыяльны кантракт для народа, які цяпер грунтуецца не на заробках «па 500», а на стабільнасці і спакоі, якія быццам бы гарантуе Аляксандр Лукашэнка ў абмен на падтрымку. Апеляцыя да вайны і да Беларусі, як бяспечнага месца ў сучасным свеце, цяпер адбываецца рэгулярна і, трэба прызнаць, пакуль плённа. Да вялікага пратэсту яшчэ далёка.

Не варта чакаць нейкіх сур'ёзных узрушэнняў у грамадстве і да канца вясны. Наперадзе традыцыйныя вулічныя шэсці на Дзень Волі і «Чарнобыльскі шлях», толькі заўважнай падрыхтоўкі да іх правядзення, мабілізацыйнай кампаніі з сацыяльнымі лозунгамі і заклікам паказаць уладам, дзе іх месца, апазіцыя не вядзе. А там — лета, адпачынкі, рахункі за паслугі ЖКХ зменшацца, бо ацяпляльны сезон фактычна ўжо прайшоў. Жыхары Беларусі бязмежна цярплівыя і схільныя чакаць-чакаць-чакаць...

І, хаця цяпер агульная сітуацыя ў краіне выглядае асабліва дэпрэсіўна, а апазіцыйныя сілы мала дзеяздольныя, палітолагі зноў нагадваюць пра палітычны лад дзяржавы. «Мы жывем ва ўмовах жорсткага аўтарытарнага рэжыму, апазіцыя многа гадоў выступае як пазасістэмная сіла. Яна не можа быць моцнай па вызначэнні. Калі няма парламенту, выбараў, апазіцыя не мае шанцаў паўстаць моцнай. Я б, найперш, кідаў камень ва ўмовы, у якіх яна дзейнічае, — гаворыць палітолаг Валер Карбалевіч. — Так, ёсць пытанні да дзеячаў апазіцыі, іх рашэнняў. Але, мяркую, калі б зараз аб'явілі свабодныя выбары, то апазіцыя заняла б 20–30% у парламенце. Гэта нямала, з улікам агульнай сітуацыі!»

Эканамічны крызіс не заўсёды выступае каталізатарам актыўных дзеянняў супраць улады. Людзі пачынаюць трымацца за тое нямногае, што ёсць.

«Сацыяльны выбух ва ўмовах Беларусі, нашай ментальнасці, на сённяшні дзень гэта так выглядае, магчымы хіба ў выпадку, калі будзе масавая нявыплата заробкаў цягам двух-трох месяцаў», — адзначае Карбалевіч.

То бок кардынальных зменаў праз сацыяльны выбух чакаць пакуль не выпадае. Змены ж праз трансфармацыю рэжыму Аляксандра Лукашэнкі выглядаюць занадта сумнеўнымі, каб у іх паверыць. Можна, канешне, пад выглядам чарговай лібералізацыі дзеля грошай з Захаду правесці канферэнцыю па тэме смяротнага пакарання, не разганяць малалюдныя мітынгі, што не нясуць ніякай небяспекі, і нават крыху лібералізаваць выбарчае заканадаўства да наступных выбараў, але па выніку гэта нічога не вырашае. Бо ніводзін з гэтых крокаў не паслабляе кантроль уладаў за сітуацыяй і не дае апазіцыі падняць галаву вышэй за акрэсленую планку.




**23$ штомесяц у якасці банкаўскага працэнта магла б атрымліваць прадпрымальніца з мінімальным стажам, каб назапашвала грошы ў банку. І толькі на 20$ пенсіі можна разлічваць з такім жа стажам**

# Пенсійны ўзрост павышаць нельга

Аляксей ХАРКЕВІЧ

**Каб абгрунтаваць неабходнасць павелічэння пенсійнага ўзросту, у якасці доваду найперш прыводзяць скарачэнне колькасці працаздольнага насельніцтва. Аднак ёсць, як мінімум, тры прычыны, якія дазваляюць заявіць пра тое, што павышэнне пенсійнага ўзросту з'яўляецца неабгрунтаваным рашэннем.**

### Прычына першая: дэмаграфічная

Цалкам абапіраючыся на дадзеныя Белстата, прывяду ўсяго некалькі цікавых статыстычных фактаў.

У 1955 годзе ў БССР нарадзілася 194 345 чалавек. У канцы 2014 года ў Беларусі ў 59-гадовым узросце знаходзіліся 129 916 чалавек. Калі не ўлічваць міграцыі, то атрымліваецца, што 33,2% насельніцтва не дажыло да 60-годдзя.

У 1950 годзе ў БССР нарадзілася 197 164 чалавек, у канцы 2014 года ў Беларусі ў 64-гадовым узросце было толькі 109 510 чалавек. Гэта значыць, на пачатак 2015 года не дажыло да 65-годдзя 44,5% насельніцтва.

Такім чынам, павелічэнне пенсійнага ўзросту на 5 гадоў азначае, што 11,3% насельніцтва пазбавяцца магчымасці дажыць да пенсійнага ўзросту.

### Прычына другая: кадравая

У апошнія гады ў Беларусі назіраецца паступовае зніжэнне колькасці занятага насельніцтва. За 2015 год скарачэнне колькасці работнікаў склала больш за 60 тысяч чалавек. Прычым асноўная частка скарачэнняў прыпадае на буйныя арганізацыі з дзяржаўным капіталам. Прадпрыемствы вымушаныя скарачаць колькасць работнікаў у пагоні за ростам прадукцыйнасці працы і зніжэннем сабекошту выробленай прадукцыі. Пры гэтым усплёску беспрацоўя мы не назіраем. Чаму?

Для адказу на пытанне варта зірнуць на ўзроставую структуру насельніцтва. На пачатак 2015 года ў Беларусі пражывала 83 972 54-гадовыя жанчыны і 57 700 59-гадовых мужчын. Такім чынам, у 2015 годзе пенсійнага ўзросту дасягнула 141 872 чалавекі. У 16-гадовым узросце на пачатак 2015 года было толькі 91 238 чалавек. Колькасць памерлых у працаздольным узросце ў 2014 годзе складала 24 367 чалавек. З гэтых дадзеных з пэўнай умоўнасцю (частка грамадзян сыходзіць на пенсію па выслузе, частка па інваліднасці) можна ўсталяваць, што па дэмаграфічных прычынах працаздольнае насельніцтва Беларусі за год скарацілася прыкладна на 75 тысяч чалавек. Гэта нават больш, чым фактычнае скарачэнне занятага насельніцтва.

У выніку павелічэнне пенсійнага ўзросту створыць каласальную нагрузку на беларускі рынак працы. Знайсці працу ва ўмовах эканамічнага крызісу стане неверагодна складана. Горш за ўсё давядзецца моладзі, паколькі знайсці сабе месца працы без неабходнага вопыту значна складаней. У выніку мы будзем мець масавы адток моладзі за мяжу ў пошуках працы. Многія з гэтых маладых людзей будуць страчаныя для беларускай пенсійнай сістэмы назаўсёды, паколькі нават пры ўмове вяртання ў краіну напрацоўваць мінімальны 20-гадовы працоўны стаж у іх ужо не будзе ні часу, ні жадання.

### Прычына трэцяя: эканамічная

Для тых, каму двух першых прычын недастаткова, прывяду, мабыць, самы важкі аргумент — эканамічны.

Для гэтага неабходна памятаць пра тое, што сродкі, прызначаныя для выплаты пенсій, — не падарунак ад дзяржавы. Яны пералічваюцца намі ж і нашымі працадаўцамі ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва (ФСАН) з кожнай нашай зарплаты.

Таму прапаную зірнуць на сумы, якія мы адлічваем на пенсію на працягу свайго працоўнага жыцця, і супаставіць іх з фактычнай велічынёй пенсій, якія нам выплачваюць.

Вызначыць сярэднюю велічыню пенсійных унёскаў у Беларусі не так проста. Справа ў тым, што ўнёскі на пенсійнае страхаванне пералічваюцца як самімі работнікамі, так і працадаўцамі, а велічыня ўнёскаў залежыць ад памеру заработнай платы супрацоўніка. Таму для чысціні эксперыменту будзем выкарыстоўваць унёскі на пенсійнае страхаванне, якія выплачваюцца індывідуальнымі прадпрымальнікамі.

Справа ў тым, што ІП сам вызначае памер свайго даходу, з якога ён будзе выплачваць унёскі. Аднак памер даходу не павінен быць меншы за суму мінімальных заробкаў за год. Такім чынам, ІП абавязаны выплаціць у ФСАН унёсак у памеры не менш за 35% мінімальнай заработнай платы. Пры гэтым выразна вызначана, што 29% прызначаюцца на страхавыя ўнёскі па пенсійным забеспячэнні.

У цяперашні час памер мінімальнай заработнай платы складае 2 300 000 рублёў. Такім чынам, мінімальны памер штомесячных унёскаў прадпрымальнікаў на пенсійнае страхаванне складае 667 000 рублёў. На сённяшні дзень гэта крыху больш за $ 32.

Прымаючы пад увагу, што сёння за размяшчэнне доўгатэрміновых укладаў у валюце беларускія банкі прапануюць ад 4% гадавых, разлічым, якую б суму здолелі назапасіць прадпрымальнікі, калі б страхавыя ўнёскі па пенсійным забеспячэнні размяшчалі на доўгатэрміновым валютным укладзе. Абярэм тры тыповыя сітуацыі.

#### Прадпрымальнік з 20-гадовым стажам

Разгледзім сітуацыю, пры якой прадпрымальнік-мужчына пачынае сваю дзейнасць у 21 год і працягвае яе на працягу наступных дваццаці гадоў. Такім чынам, ужо да 41 года жыцця ён напрацаваць неабходны мінімальны страхавы стаж і зможа прэтэндаваць на атрыманне пенсіі па ўзросту ў 60 гадоў.

Разлік назапашанага ўкладу са штомесячным унясеннем плацяжу па $ 32 (сённяшні памер пенсійных унёскаў) паказвае, што да заканчэння працоўнай дзейнасці прадпрымальнік змог бы назапасіць $ 11 775.

Па аналогіі з пенсіяй выкажам здагадку, што скарыстацца назапашанай сумай прадпрымальнік зможа толькі пры дасягненні 60-годдзя. Тады за астатнія 19 гадоў да надыходу пенсійнага ўзросту, сума на ўкладзе вырасла б да $ 24162.

Гэты прадпрымальнік змог бы разлічваць на мінімальны памер працоўнай пенсіі, адпаведны 20-гадоваму страхавому стажу. На сённяшні дзень яе велічыня складае ўсяго 1 584 770 рублёў. У пераліку на долары гэта менш як $ 77.

А вось зараз самае цікавае. Штомесячная сума налічаных працэнтаў па валютнаму банкаўскаму ўкладу пад 4% гадавых з назапашаных $ 24162 складае $ 80. Такім чынам, прадпрымальнік, які адлічвае ў маладосці страхавыя ўнёскі, не верне свае грошы ніколі, нават калі пражыве 200 гадоў. Фактычна з надыходам 60-гадовага ўзросту дзяржава дае яму магчымасць забіраць толькі працэнты са свайго ўкладу. Дый тое не ўсе.

#### Прадпрымальнік з максімальным 45-гадовым стажам

Разгледзім сітуацыю, пры якой прадпрымальнік-мужчына будзе ажыццяўляць выплату ўнёскаў на працягу 45 гадоў, што дасць яму магчымасць на атрыманне максімальна высокай пенсіі. На сённяшні дзень яна складае 4 384 260 рублёў, або $ 212.

За ўсю сваю працоўную кар'еру «прадпрымальнік-працаўнік» змог бы назапасіць на ўкладзе $ 48 464. Калі б ён затым вырашыў здымаць з укладу па $ 212 у месяц (памер належнай ад дзяржавы пенсіі), то гэтай сумы хапіла б яму на 36 гадоў. Прычым ён быў бы ўпэўнены, што ў выпадку, калі яму не давядзецца дажыць да гэтага шаноўнага ўзросту, банкаўскі ўклад перайшоў бы па спадчыне сваякам.

#### Прадпрымальнік з мінімальным стажам

Разгледзім сітуацыю, пры якой прадпрымальнік-жанчына пачне дзейнасць у 35 гадоў і будзе ажыццяўляць яе на працягу дзесяцігоддзя. Для жанчын дзесяцігадовы стаж зусім не малы, паколькі многія з іх жадаюць яшчэ паспець нарадзіць і выгадаваць дзяцей, атрымаць адукацыю.

За дзесяцігадовую працоўную кар'еру прадпрымальніца змагла б назапасіць на ўкладзе $ 4724. Да 55 гадоў гэтая сума за кошт назапашаных адсоткаў вырасла б да $ 7047. Штомесячная сума налічаных працэнтаў па валютнаму банкаўскаму ўкладу пад 4% гадавых з сумы $ 7047 складае $ 23.

У 55-гадовым узросце такая жанчына зможа разлічваць толькі на сацыяльную пенсію ў памеры 397 830 рублёў. На сённяшні дзень гэта менш як $ 20. Такім чынам, прадпрымальніца з 10-гадовым страхавым стажам таксама ніколі не верне свае грошы, а зможа толькі здавольвацца адсоткамі з віртуальнага ўкладу.

### Што ўсё гэта азначае?

Гэта азначае, што грамадзяне Беларусі сёння атрымліваюць пенсію значна меншую, чым маглі б. Раней гэта можна было спісаць на той факт, што вялікая частка пенсійных унёскаў пенсіянераў загадала доўга жыць разам з СССР. Але з кожным годам велічыня пенсійнага фонду, сфармаванага ў незалежнай Беларусі, павінна становіцца ўсё большай. А значыць, беларусы маюць права чакаць альбо паступовага павелічэння пенсій, альбо скарачэння памеру пенсійных унёскаў.

Але паколькі замест гэтага нам кажуць аб неабходнасці павышэння пенсійнага ўзросту, то ўзнікае простае пытанне: «А дзе ж пенсійныя ўнёскі беларусаў за апошнія 25 гадоў?» Калі іх стала не хапаць нават на цяперашні памер пенсій, то гэта азначае, што сродкі былі выкарыстаныя надзвычай неэфектыўна. Калі ж гэта не так, то павелічэнне пенсійнага ўзросту павінна суправаджацца альбо істотным ростам памеру пенсій у доларавым выражэнні, альбо сувымерным скарачэннем велічыні пенсійных унёскаў.

# Філасофія дабрыні.
## Ад катастрофы — да сада надзеі

Да 30-годдзя Чарнобыльскай трагедыі пастаянны аўтар «Новага Часу» Аляксандр Тамковіч падрыхтаваў кнігу, якую анансаваў так: «Гэтая кніга не пра бэры, бекерэлі, альбо радый са стронцыем. Яна — пра людзей. Пра тых, хто сваёй чуласцю да чужога болю дапамог выратаваць генафонд беларускай нацыі. Гэта падзяка тым, хто не пашкадаваў свайго здароўя дзеля здароўя іншых. Гэтая кніга пра філасофію дабрыні».
Мы прапануем чытачам некаторыя ўрыўкі з гэтай кнігі.

### Студэнцкі пастар

Буркхарт Хамаер нарадзіўся 13 красавіка 1941 года ў горадзе Мюнстэр на паўночным захадзе Германіі. Бацькі яго былі сацыял-дэмакратамі. У іх доме жыла жанчына, чый сын загінуў на вайне. Аднойчы яна сказала, што «гэтага Гітлера трэба павесіць...» Адзін з суседзяў пачуў і данёс. Жанчына знікла, а потым Хамаеры даведаліся, што яна ў турме.

Гэтая гісторыя, расказаная бацькамі, з дзяцінства пакінула ў свядомасці Буркхарта вялікі адбітак.

Пра сваё жыццё далей распавядае сам Буркхарт Хамаер:

«Пасля школы я паступіў ва ўніверсітэт, дзе вывучаў тэалогію і філасофію, пасля чаго стаў студэнцкім пастарам, бо вельмі шмат і шчыльна кантактаваў менавіта з моладдзю.

Для такога выбару былі сур'ёзныя падставы, і самая галоўная — у тым, што лічу: чалавек павінен быць заўсёды адкрытым у дачыненні да таго, што вышэй за яго. Вось мне і захацелася больш ведаць пра тое, што вышэй і мацней за нас. І што выходзіць за межы чалавечага ўяўлення пра свет.

Пра што мы думаем? Чаго баімся? У чым сутнасць сяброўства і варожасці? Адкуль яны паходзяць?

У 1986 годзе я выдаў кнігу з назвай «Масты ўзаемаразумення: за новыя адносіны з Савецкім Саюзам». Гэта быў надзвычай небяспечны перыяд супрацьстаяння паміж Захадам і Усходам, бо ракеты былі ў поўнай боегатоўнасці з абодвух бакоў.

У Заходняй Германіі пачаўся вялікі рух за мір.

У сваёй кнізе я напісаў, што нам абавязкова трэба з'ездзіць да тых, хто падчас вайны быў ворагам. Няхай людзі сустрэнуцца, пазнаёмяцца адзін з адным і разам скажуць: мы не жадаем вайны, мы супраць яе і не хочам больш адзін у аднаго страляць. Мы хочам міру.

Адразу пасля гэтага пагаварылі са студэнтамі і сфарміравалі групу для паездкі ў СССР. Так мы ўпершыню трапілі ў Мінск. Было гэта на мяжы 1987 і 1988 гадоў.

У адрозненне ад беларусаў, немцы шмат чыталі і чулі пра аварыю на Чарнобыльскай АЭС. Да таго ж, сярод студэнтаў было нямала будучых медыкаў, фізікаў, хімікаў. У адзін голас яны гаварылі, што здарылася нешта вельмі кепскае.

У Мінску адбыліся сустрэчы ў Таварыстве сяброўства, Камітэце Міра, Акадэміі навук. Паўсюль сустракалі нас вельмі ветліва, ахвотна размаўлялі на розныя тэмы. Нашы студэнты пачалі задаваць пытанні пра Чарнобыль.

Маўляў, мы столькі пра гэта чыталі, а што пра Чарнобыль думаюць тут? У адказ гучала афіцыйнае: мы ўсё трымаем пад кантролем...

Пасля размовы ў Акадэміі навук да нас падышоў адзін журналіст і сказаў: «Калі вы хочаце ведаць, што адбываецца ў нашай краіне на самай справе, то ідзіце ў Чырвоны касцёл на плошчы Леніна. У гэтым будынку, у пакоі пад лесвіцай, сядзяць людзі, якія дакладна скажуць, што адбылося».

Высветлілася, што там знаходзіўся будучы фонд «Дзецям Чарнобыля», які тады называўся камітэтам. Так я пазнаёміўся з Генадзем і Ірынай Грушавымі.

Што мяне тады моцна ўразіла, дык гэта рытм іх працы. Офіс нагадваў мурашнік — ходзяць людзі, вядуцца размовы, нешта друкуецца на друкарцы. Усё бурліла, віравала. Падумалася, што з такімі людзьмі я і хачу супрацоўніцтва.

Праз некаторы час, калі пачалося аздараўленне беларускіх дзяцей у Германіі, я сабраў тых, хто іх да сябе запрашаў, — і арганізаваў паездку ў Беларусь, у сем'і, адкуль былі гэтыя дзеці. Паехала каля шасцісот немцаў. Цэлы цягнік.

Дарэчы, такія паездкі ладзіліся пастаянна. І не толькі для немцаў.

Памятаю, аднойчы для бацькоў, чыя дзеці прыязджаюць з Беларусі, мы арганізавалі нават самалётны чартар. Тая паездка запомнілася, бо паліва для самалёта было аплачана толькі да Мюнстэра. Калі госці сабраліся вяртацца назад, высветлілася, што яго больш няма, а ў пілотаў няма грошай. Прыйшлося ўсё аплачваць самому.

Шмат хто, сустракаючыся з вашымі людзьмі, чуў: зрабіце што-небудзь для нашых дзяцей! І многія немцы паехалі ў Беларусь. Фонд тлумачыў ім сітуацыю ў рэгіёнах, падказваў, дзе і што канкрэтна больш патрэбна.

Галоўны прынцып працы быў наступны. У тых, хто не жыве ў Беларусі і не пацярпеў, можа быць шмат добрых ідэй, аднак вырашальным павінна быць, што патрэбна тым, каму накіраваная дапамога.

Мы не хацелі быць нейкімі вонкавымі ментарамі, якія вырашаюць, што і як трэба рабіць, таму што даем грошы. Нам хацелася бачыць у беларусах не аб'ект для дапамогі, а роўных партнёраў.


Буркхарт Хамаер

**Добра вядома, што дзейнасць фонду «Дзецям Чарнобыля» некалькі разоў прыпынялася, доўгі час была забарона на паездкі беларускіх дзяцей за мяжу**

У гэтым сэнсе фонд «Дзецям Чарнобыля» аказаўся унікальным, бо мы ўбачылі крыніцу сапраўднай інфармацыі пра тое, што больш за ўсё патрэбна беларусам. Мы зразумелі, што там сабраліся людзі, якія не збіраюцца чакаць, пакуль прыйдзе з дапамогай нейкі «добры дзядзька», а імкнуцца дапамагаць сабе самі.

Натуральна, што такі падыход спадабаўся не ўсім. Некаторыя немцы (і не толькі) не зразумелі гэтай філасофіі. Яны казалі, што ў Беларусі не могуць ведаць, што ім на самай справе трэба. Маўляў, мы ведаем лепш, што ім дапаможа насамрэч; мы даем грошы, таму і вырашаць, на што іх выдаткоўваць, будзем самі...

Менавіта гэта і стала «яблыкам разладу». Некаторыя немцы пачалі публічна выказваць сваю незадаволенасць і называць фонд «Дзецям Чарнобыля» ледзь не злачынцамі. Загучалі плёткі пра нейкі крадзеж, карупцыю, махлярства...

Каб абараніць фонд ад такога кшталту папрокаў (мякка кажучы, хлуслівых) і такіх «памочнікаў», мы вырашылі адкрыць у Германіі спецыяльны рахунак, які б адпавядаў усім нямецкім законам і для ўсіх быў цалкам празрыстым. Менавіта на гэты рахунак павінны былі ісці ўсе сродкі для ажыццяўлення беларускіх праектаў.

З гэтага моманту ўсе фінансавыя спрэчкі і дыскусіі наконт таго, ці правільна выкарыстоўваюцца грошы, спыніліся — таму што ўсё было відавочна.

У гэты ж час мы стварылі Асацыяцыю чарнобыльскіх ініцыятываў Германіі (Bundesarbeitsgemeinschaft «Den Kindern von Tschernobyl»). Я стаў яе старшынёй. У нашых шэрагах аб'ядналіся больш за 250 нямецкіх ініцыятываў. Было гэта ў 1992 годзе.

Каб інфармаваць усе нямецкія ініцыятывы пра тое, што адбываецца ў нашай Асацыяцыі і беларускім фондзе, я пачаў выпускаць адмысловы бюлетэнь. Па сутнасці, гэта быў абмен досведам і думкамі. У маім архіве захаваліся ўсе нумары гэтага бюлетэня.

У 1997 годзе была створана яшчэ адна структура — Міжнародны савет «Дзецям Чарнобыля», у які ўвайшлі прадстаўнікі 21 дзяржавы. Мне пашанцавала стаць аўтарам «Чарнобыльскай хартыі» — гэта своеасаблівы кодэкс, маніфест тых, хто займаецца ва ўсім свеце чарнобыльскім праблемамі.

Сярод асноўных тэзісаў гэтага дакумента — імкненне да міру, што стала прычынай разыходжання ў поглядах з амерыканцамі, калі пачалася іх першая вайна з Іракам.

У тым жа годзе на сваё пасяджэнне мяне запрасіла ААН. У іх праходзіла сустрэча патэнцыйных донараў — тых, хто дапамагае справіцца з чарнобыльскімі праблемамі. На гэтую сустрэчу былі запрошаныя і прадстаўнікі дзяржаваў, якія больш за ўсё пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС. Яны нічога не казалі пра Чарнобыль. Толькі прасілі грошай, а я гаварыў пра людзей, якія пакутуюць ад радыяцыі, пра іх дзяцей, пра мужных змагароў, якія дапамагаюць сабе самі.

То бок, у ААН адбывалася тое, пра што мы не раз казалі ў Германіі. Беларускія ўлады жадалі атрымліваць гуманітарную дапамогу, аднак не жадалі прызнаваць палітычны складнік трагедыі.

Як бы ў працяг гэтага ў 1997 годзе ў Беларусі быў створаны Дэпартамент па гуманітарнай дапамозе. Ён наўпрост падпарадкоўваўся прэзідэнту.

Тыя замежнікі, якія працавалі з дзяржаўнымі структурамі, для сваёй работы атрымлівалі «зялёнае святло». У іх не было ніякіх праблем, калі яны трымаліся прынцыпу не гаварыць пра тое, чаму патрэбная іх гуманітарная дапамога.

То бок, за лекі — дзякуй, а пра тое, чаму людзі хварэюць — ні слова...

Па сутнасці, беларуская ўлада, якая адчувала вялікія цяжкасці ў вырашэнні эканамічных праблем, зрабіла гэтых замежнікаў сваім памагатымі, змоўшчыкамі злачынства.

Іншымі словамі, з дапамогай аўстрыйцаў, немцаў, італьянцаў і г.д. беларуская дзяржава ўмацоўвала свой імідж, а тым замежнікам, хто працягваў супрацу з фондам, рабілася ўсё цяжэй і цяжэй.

Добра вядома, што дзейнасць фонду «Дзецям Чарнобыля» некалькі разоў прыпынялася, доўгі час была забарона на паездкі беларускіх дзяцей за мяжу.

Менавіта ў такіх умовах актыўнасць Міжнароднага савета стала надзвычай важнай, бо не толькі пачаліся спробы крыміналізаваць дзейнасць фонду, мы стварылі Міжнародную камісію, якая павінна была абвергнуць усе абвінавачванні КДБ, Савету бяспекі, следчых органаў. Так яно і адбылося.

Дзевяць чалавек з васьмі краін свету прыехалі ў Савет бяспекі Беларусі, дзе не пачулі ні аднаго доказу злачыннай дзейнасці Грушавых.

Я хачу скончыць свой расповед адным эпізодам з Бібліі. Калі да Хрыста прынеслі паралізаванага чалавека, ён не даў нейкіх казачных лекаў, не зрабіў нейкага цуда, хаця мог. Ён сказаў: «Уставай і ідзі! Ты можаш!» У гэтым і ёсць наша асноўная філасофія — людзі павінны вучыцца дапамагаць сабе самі, трымаць спіну прама і не згінацца перад тымі, хто хоча нас апусціць да ролі ахвяры».

Новы Час | 25 сакавіка 2016 | № 12 (477) | «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 3 (115)




# Літаратурная Беларусь

Выпуск №3 (115)
(сакавік)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by


## Змест



# Шлях да самасвядомасці



Алег АБЛАЖЭЙ



Малюнак www.svaboda.org

**У праблемах, з якімі сёння сутыкнулася беларуская мова, няма нічога новага. Усе мовы, якім даводзілася змагацца за месца пад сонцам, праз падобнае праходзілі, — і непрызнанне як асобнай, арыгінальнай, мовы, і змаганне з іншаземнымі ўплывамі...**

Калі я паступіў у Віленскі мастацкі інстытут і пачаў вывучаць літоўскую мову, калегі літоўцы вельмі дзівіліся, што я разумею творы Крысціёнаса Данелайціса (1714–1780), бацькі літоўскай літаратурнай мовы, лепш за іх. Сакрэт жа быў просты: мова гэтага паэта шчодра перасыпана славянізмамі. Існаванне Літвы ў сумеснай дзяржаве з Польшчай аказала вялікі ўплыў на літоўскую мову — шляхта практычна апалячылася, і літоўская мова, як і беларуская, сталася «мужыцкай». Спатрэбіліся стагоддзі ўпартай працы і дасканалення, чысткі ад польскіх ды іншых уплываў, каб літоўская мова дасягнула таго ўзроўню, на якім яна існуе цяпер.

Гэтая барацьба не спыняецца і цяпер. Напрыклад, у Вільні вы не зможаце купіць ані гамбургер, ані хот-дог, а толькі mėsainis і dešrainis. І, вядома ж, у Літве не існуе ні «рыэлтараў», ні «мерчэндайзераў», бо створаны літоўскія адпаведнікі для назову такіх прафесій. За ўсім пільна сочыць спецыяльная моўная камісія.

Гэтаксама былі чулыя на іншаземныя ўплывы і чэхі. І ў Празе вы не зможаце пайсці ў тэатр, а толькі ў divadlo.

Беларускую мову намагаюцца знішчыць не першае стагоддзе. У наш час яна перажывае бадай што найцяжэйшыя часы свайго існавання, калі палітыка русіфікацыі дала свае злавесныя плады. Вядома, як «набліжалі» яе да расейскай. У 40 — 50 гады XX ст. загадана было пісаць «піонер», «совецкі», «супружаскія адносіны». Быў амаль забаронены мяккі знак. Гэты знак стане потым сімвалам моўнага супраціву, як чаравік на сцягу сялянскіх паўстанцаў Томаса Мюнцэра.

На жаль, змагары за адраджэнне мовы не заўсёды былі вялікімі эрудытамі. Хочучы таго ці не, яны пачалі рабіць тое ж, што і расейцы, толькі на карысць іншай мовы, польскай. Як бы ў пацвярджэнне тэзы расейскіх шавіністаў, што «так называемый белорусский язык придумали поляки». Беларуская мова застракацела «варункамі», «пушкамі», «парэнчамі» ды іншымі «выкшталцонымі філіжанкамі».

Кожная развітая мова — як дасканалая мелодыя, дзе нельга беспакарана ўстаўляць чужыя ноткі, у любым выпадку гэта гучыць фальшыва. Чужыя словы выпадаюць, не ўпісваюцца. Вось, напрыклад, модна стала ўжываць замест нашага «некалькі» кальку з польскага «kilka», «колькі». Але ў беларускай мове «колькі?» — гэта пытанне, у польскай для гэтага існуе «ile?» То навошта нам самім збядняць мову? Або ўжыванне слова «паліць» у сэнсе «курыць». Беларусы ж паляць толькі ў печы, могуць паліць паперу, смецце... У палякаў той, хто курыць, называецца «palacz». А як па-беларуску той, хто не курыць, а «паліць» — «паляч?» «палец?» «Варункі» замест «умоваў». Але па-польску ёсць і «warunki», і «uwarunkowany», «абумоўлены». А як утварыць тое ж ад «варункаў» — «абварункаваны?»

Ніколі беларусы не казалі — чакаць на штосьць, на кагосьць, а толькі чакаць чагосьць, кагосьць. І не хварэлі на штосьць, а чымсьці. Гэта палякі «czekają na pociąg, chorują na grypę». Нашто мяняць наша «выдатны» на польскае «wybitny»? А як тады будзе «выдатнік»? «Выбітнік?» Чым «мажлівасць» лепшая за «магчымасць»? Чаму brakuje, калі можам сказаць па-нашаму «не стае», «не хапае?».

Але, бадай, найбольшую шкоду для беларускай мовы нясе прачытанне іншаземных слоў не так, як яны вымаўляюцца на іх радзіме, а так, як гэта вымаўляюць палякі. Ну, дзе і калі вы бачылі на Віцебшчыне, Міншчыне, Гомельшчыне і Магілёўшчыне беларуса пры здаровым розуме, які б казаў «Сыбір»? Палякі чытаюць замежныя словы вельмі своеасабліва — паводле свае граматыкі. Напрыклад, у польскай мове «Z» — гэта як наша «З». То палякі чытаюць «nazism» як «назісм». Або — у польскай мове «Ш» перадаецца як «sz», у нямецкай жа гэты гук перадаецца праз «szh». У выніку палякі дагэтуль чытаюць «szhizophrenie» як «схізофрэнія».

Англійскі «клаб», klub, у палякаў стаў «клюбам». А мы тут пры чым? (Асабліва міла гучыць — «калгасны клюб»...» Syrien — па — польску «Сырыя», бо ў польскай мове «у» — гэта «ы». А нам навошта рабіць «сыр» з далёкай краіны? Даўно заўважана: не ведаеш, як правільна пісаць «тарашкевіцай» — бяры польскі слоўнік. Fizyka, maksymalny, sylwetka, klasa, cyklop, klasyk, syrop, zala... і так далей, ледзь не палова слоўніка. Чамусь з гэтага правіла робіцца выключэнне толькі для словаў «іслам», «блог» і «Далай Лама». Бо паводле «тарашкевіцы» мусіла б быць «ісьлям», «блёг» і «Даляй Ляма». Асабліва камічна, калі «тарашкевізуюць» русізмы — «плянка». Няма такога слова — па-беларуску «планка» — папярэчына. Цікава, што беларус Максімюк з радыё «Свабода» не хоча быць «Максымюком», хоць гэтага вымагае «клясычны» правапіс, ды і ў ягоным польскім пашпарце, напэўна ж, напісана Maksymiuk. І гэта зразумела — калі б не кірыліца і не праваслаўе, беларуская дыяспара ў Польшчы даўно б растварылася дашчэнту. Ці не таму беластоцкая «Ніва» не спяшаецца пераходзіць на «тарашкевіцу», а тым больш на «лацінку»?

Так гістарычна склалася, што беларуская мова з часоў Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага — частка кірылічнай прасторы, у якой «л» большай часткай цвёрдае. Як, дарэчы, і ў суседзяў літоўцаў, хоць яны карыстаюцца «лацінкай». «ы» замест «і» характэрна толькі для польскай, а не для іншых еўрапейскіх моў — апроч украінскай.

Мяккі знак... Прыгадваецца даўняя размова на гэтую тэму з Лявонам Луцкевічам. Ён, вядома ж, прыватна карыстаўся «клясычным» правапісам, але казаў, што яму й новы ніколькі не перашкаджае правільна чытаць і вымаўляць. «Не разумею, — казаў ён, — навошта патрэбен мяккі знак паміж здвоеным «нн», ён і так, сам сабою вымаўляецца!».

Ад сябе дадам — чаму «Ганна» можна, а Жанна» — не? (пішуць «Жана»)... І ўвогуле — дзіўная рэч: чамусь беларусы з лёгкасцю запамінаюць, што The Beatles і Renault не чытаецца як «Тхе Беатлес» і «Рэнаульт», а вось калі не напішаш сЬнег, а снег, то й будуць вымаўляць с'нег...

Недзе ў чацвёртым класе мне трапілася кніжка «для школ с нерусским языком обучения». І там над кожным слова былі расстаўлены націскі. Памятаю, як тады гэта нервавала. Гэтаксама цяпер раздражняе, калі навязліва падказваюць, як я павінен вымаўляць, паводле прынцыпу «как слышыца, так і пішыца». Напрыклад: «Ты сьмяесься з клюбу ляяльных да псыхоляга клясы адаклясьнікаў». Нейкі пераважаны кісель, а не мова! Што ўжо казаць пра «наватарствы» кшталту «Гэмінгўуэй», Ўудзі Ален» — «псыхам» можна стаць... Чаму «БаЎгарыя»? Тады трэба і «БаЎканы»? Калі ўжо «Віетнам», то трэба выкінуць апостраф адусюль, і пісаць «піе», «біе», — о, як бэндзе выкшталцона!

Трэба імкнуцца не да збліжэння з той ці іншай мовай, а да самадастатковасці. У цэлым, на перспектыву, я — аптыміст. Калі мове наканавана жыць, яна мусіць самаачысціцца, рана ці позна.

Але — чым раней, тым лепш.

**www.racyja.com**




# Літконкурс «Экслібрыс» імя Антона Луцкевіча

**Саюз беларускіх пісьменнікаў абвесціў пра пачатак прыёму прац на конкурс «Экслібрыс», які сёлета носіць імя Антона Луцкевіча і прысвечаны крытыцы і літаратуразнаўству.**

Тэма конкурсу — «Сучасная беларуская літаратура XXI стагоддзя: імёны, тэндэнцыі, перспектывы (ад 2000 года — па сёння)».

Да ўдзелу запрашаюцца даследчыкі літаратуры, крытыкі і літаратурныя журналісты, якія пішуць на беларускай мове, ва ўзросце да 35 гадоў.

Конкурс праводзіцца ў дзвюх намінацыях: літаратурная крытыка (артыкулы, рэцэнзіі, водгукі, эсэ, нарысы) і літаратуразнаўства (навуковыя артыкулы, агляды).

Тэксты на конкурс можна дасылаць файламі ў фармаце .doc да 1 верасня 2016 года на адрас sbp@lit-bel.org, пазначыўшы тэмай ліста «Экслібрыс». У лісце мусіць быць наступная інфармацыя: імя, прозвішча, дата нараджэння ўдзельніка, кантакты нумар тэлефона і e-mail.

За ходам конкурсу сачыце на сайце http://lit-bel.org/.




# «Гарбузік»: цуды свету

**Пабачыў свет другі выпуск літаратурна-забаўляльнага дзіцячага альманаха «Гарбузік» бібліятэкі СБП «Кнігарня пісьменніка».**

Першы выпуск выйшаў летась, прамінулай вясной, і стаўся папулярным, сярод іншага, дзякуючы картоннаму замку, які можна было склеіць уласнаручна. Сёлета «фішкай» нумара сталася гульня-«хадзілка», распаўсюджаная сёння ў дзіцячых часопісах і аднак не дужа папулярная ў беларускіх выданнях для дзяцей. Тэма «хадзілкі», намаляванай Дзмітрыем Шылам, адпавядае агульнай задуме выпуска — «цудам свету». Але рэдакцыя альманаха на агульнавядомых спісах цудаў не спынілася: ёсць жа і ў Беларусі свае дзівосы! Хіба Крыж Еўфрасінні Полацкай для беларусаў менш важны за піраміду Хеопса? Ды і адной архітэктурай рэдкалегія таксама задаволіцца не магла. Гэткімі ж цікавымі для чытачоў тэмамі ёсць, напрыклад, звяры і птушкі, міфалагічныя істоты. Яны ж для ўсяго свету агульныя: дзе ёсць дамавік, там знойдзецца месца і для гномаў з іх застольнай песняй аўтарства Джона Толкіна (і ў перакладзе Андрэя Хадановіча). Дзе маюцца Асілкі і Жар-птушкі, там з'явіцца і зусім нястрашная Лахнэска (створаная пісьменніцай Аленай Масла і мастачкай Вольгай Раманюк).

«Кожны выпуск «Гарбузіка» ствараецца з улікам дзвюх важных рэчаў: узрост чытача і цікавая для яго тэма, — распавядае рэдактарка альманаха Вольга Мазурава. — Ад пачатку было ясна, што займальная актуальная чытанка аднолькава патрэбная як дашкалятам, так і малодшым школярам. Таму мы чаргуем выпускі: першы «Гарбузік» быў адрасаваны перадусім для дзяцей дашкольнага веку. Новы выпуск, «Цуды свету», разлічаны ўжо на крыху сталейшых чытачоў, і змест мае адпаведны.

Наступны «Гарбузік» выйдзе зноўку для малятаў. Натуральна, і тэма будзе ўзятая найперш пад іх густы ды патрэбы. Пакуль рэдакцыя абірае паміж дзвюма наступнымі тэмамі: «Поры года» ці «Літары ды лічбы». Вядома ж, нам будзе прыемна і важна пачуць галасы нашых чытачоў ды іх бацькоў з гэтай нагоды!»

Як гэта й павялося, альманах вылучаў разнапланавы паводле жанраў, рубрык, характару афармлення. У выданні было задзейнічана некалькі дзясяткаў творцаў, у тым ліку і малых чытачоў і чытачак, з іх уласнымі літаратурнымі творамі і малюнкамі.

# «І боль, і прыгажосць...»: анталогія перакладаў

**Калі б для серыі «Кнігарня пісьменніка» існавалі рэйтынгі — як кніга года ці кніга месяца, то ў апошнім выпадку найлепшай кнігай лютага сталася б анталогія перакладаў Лявона Баршчэўскага «І боль, і прыгажосць...» (зборнік пабачыў свет у выдавецтве Зміцера Коласа).**




Аўтарскія анталогіі беларускіх перакладчыкаў вядаюцца з савецкіх часоў. Першай з іх была кніга Юркі Гаўрука «Кветкі з чужых палёў» (1928), пасля якой, праўда, адбыўся вельмі вялікі перапынак, бо беларуская культура — у тым ліку перакладчыкі — зазнала маштабныя рэпрэсіі.

Пасля вайны былі выдадзеныя персанальныя анталогіі перакладчыкаў Язэпа Семяжона, зноў жа Юркі Гаўрука, Рыгора Барадуліна, Васіля Сёмухі, Уладзіміра Караткевіча, Хведара Жычкі, Эдуарда Валасевіча, а таксама рускамоўных перакладчыкаў Валянціна Тараса, Навума Кісліка, Аляксандра Дракахруста. Яны складалі асобную серыю «Кніга перакладчыка», заснаваную ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».

У XXI стагоддзі практыку персанальных перакладчыцкіх анталогій пераняла Бібліятэка СБП «Кнігарня пісьменніка». У 2013 годзе пабачыла свет калекцыя перакладаў Андрэя Хадановіча «Разам з пылам», куды ўвайшлі творы 41 аўтара з лацінскай, французскай, англійскай, нямецкай, польскай, рускай, украінскай моў, здзейсненыя цягам пятнаццаці гадоў.

Новая анталогія прадстаўляе даробак аднаго з найвядомейшых беларускіх перакладчыкаў-паліглотаў Лявона Баршчэўскага. Кніга «І боль, і прыгажосць...» улучае ў сябе больш за 250 твораў, напісаных сотняй аўтараў і аўтарак на трыццаці мовах свету. Зборнік можа выкарыстоўвацца ў якасці хрэстаматыі на занятках і семінарах па замежнай літаратуры ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах — бо імёны аўтараў пачынаюцца з Сапфо, Анакрэона, Катула праз аўтараў-трубадураў і мінезінгераў да паэтаў Рэнесансу, Барока, Класіцызму і аж да класікаў сусветнай паэзіі XX стагоддзя. Тым больш зручнай яна будзе для студэнтаў і выкладчыкаў, што побач з перакладамі падаюцца і ўсе арыгіналы.

У прадмове да кнігі Лявон Баршчэўскі распавядае, што захапіўся перакладамі яшчэ ў школе: «Першыя мае спробы перастварацць паэзію па-беларуску былі скіраваныя на нямецкамоўных паэтаў, што жылі ў савецкай імперыі... Да вершаў Гайнэ, што называецца, «саспеў» у дзясятым класе, а Гётэ, Байрана ды Міцкевіча пачаў перакладаць ужо ў студэнцкія гады. Аматарскія заняткі паэтычным перакладам, можа, і не перараслі б у нешта сур'ёзнейшае, калі б у 1984 годзе Сяржук Сокалаў-Воюш не завёз у Мінск... і не паказаў іх Мэтру — Васілю Сёмуху. Тут я атрымаў па заслугах: Сёмуха раскрытыкаваў амаль кожны радок маіх «тварэнняў»...»

# «Справа»

**Выйшаў з друку 3-ці выпуск беларуска-ўкраінскага альманаха «Справа», які выдае Таварыства ўкраінскай літаратуры пры СБП.**

У ім змешчаны мастацкія, навуковыя і публіцыстычныя творы на беларускай, украінскай, рускай мовах, а таксама на брэсцка-пінскіх гаворках.

Галоўны рэдактар «Справы» Алесь Наварыч у прадмове гаворыць пра неабходнасць і лагічнасць узмацнення беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязяў.

Прафесар Хакайдскага ўніверсітэта Матокі Намаці ў дасланым у рэдакцыю лісце высока ацэньвае працу аўтарскага калектыву «Справы» і асабліва адзначае важнае значэнне захавання аўтэнтычных гаворак.

Рубрыка «Класік» у гэтым выпуску прысвечана постаці Івана Франка, 160-годдзе якога адзначаецца сёлета. Чытачы могуць пазнаёміцца з ягонай біяграфіяй, прачытаць адно з найбольш вядомых апавяданняў класіка аб каханні і жарсці «Сойчына крыло». Андрэй Дынько ў сваім артыкуле разважае пра тое, што знакаміты пісьменнік сказаў бы пра сучасны свет, калі б мог устаць з магілы...

У рубрыцы «Пра класікаў» у гэтым выпуску змешчаныя два адметныя матэрыялы. Алесь Пашкевіч піша пра гісторыю літаратурных судачыненняў Максіма Багдановіча і Сымона Пятлюры. Украінскі гісторык і краязнаўца Леанід Лашчанка з нагоды 85-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча падрыхтаваў артыкул пра тое, як будучы беларускі класік пасля заканчэння Кіеўскага ўніверсітэта настаўнічаў у школе ў Кіеўскай вобласці, запісаў успаміны пра яго былых калег і вучняў. Увагу чытачоў напэўна прыцягнуць унікальныя фотаздымкі Караткевіча, зробленыя ў той час.

Аматары прозы і паэзіі атрымаюць асалоду ад твораў вядомых беларускіх аўтараў Юрыя Станкевіча, Паўла Севярынца, Сяргея Панізніка, а таксама ўкраінскамоўнага паэта з Кобрыншчыны Сцяпана Семенюка.

У традыцыйнай рубрыцы «Гаворкі — наш скарб» у гэтым выпуску вершы Ніны Сацук, Любові Іванюковіч, Раісы Рамашкі.

Аляксандр Ільін публікуе захапляльны матэрыял пра брэсцкага пісьменніка-неарамантыка Андрэя Крыжанеўскага, які працаваў у 30-я гады мінулага стагоддзя, і ўвогуле пра літаратурны асяродак таго часу ў Брэсце. Чытачы таксама маюць магчымасць пазнаёміцца з эсэ «Мае продкі» гэтага неардынарнага творцы.

Актыўны аўтар «Справы», паэт і краязнаўца Сцяпан Шапяцюк, які раней друкаваў у альманаху вершы на гаворцы




свайго сяла Лілікава, у гэты выпуск прадставіў успаміны пра бацьку на беларускай мове — кранальныя і вясёлыя.

Зінаіда Дудзюк у артыкуле «Пара высокага сонца» расказвае пра творчае сяброўства з вядомым украінскім пісьменнікам Валянцінам Грабоўскім. Зацікаўлены чытач знойдзе ў гэтым тэксце таксама многа малавядомых фактаў аб жыцці берасцейскай пісьменніцкай суполкі ў 80–90-х гадах мінулага стагоддзя.

Таксама у выпуску змешчаны літаратуразнаўчыя артыкулы, краязнаўчыя і гістарычныя матэрыялы.

Аздоба нумара — працы цудоўнай беларуска-ўкраінскай мастакоўскай сям'і са Слоніма Аляксандра і Тамары Сцяцэнкаў, размешчаныя на вокладцы.

**Прэс-служба Саюза беларускіх пісьменнікаў**

# Я веру ў божую любоў

30 сакавіка сустракае свой вясновы юбілей вядомая беларуская літаратарка, сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў Хрысціна Аляксееўна Лялько.

Яна закончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працавала ў Літаратурным музеі Янкі Купалы, штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісе «Беларусь». У 1995 годзе стала адным з ініцыятараў і сузаснавальнікаў двух каталіцкіх часопісаў — квартальніка «Наша вера» і месячніка «Ave Maria», з таго часу з'яўляецца галоўным рэдактарам гэтых выданняў. Першыя вершы апублікавала ў 1971-м у лідскай газеце «Уперад». Аўтар кніг прозы «Дарога пад гару», «Світанак над бярозамі» і кнігі паэзіі «На далонях любові». У яе апрацоўцы выйшаў зборнік народных казак «Хітрэй свету не будзеш». Пераклала на беларускую мову нарыс Уладзіслава Сыракомлі «Мінск», кнігі Папы Яна Паўла ІІ «Пераступіць парог надзеі», «Дар і Таямніца», «Устаньце, хадзем!», «Памяць і самасвядомасць», энцыклікі «Fides et ratio», «Ecclesia de Eucharistia», Апостальскі ліст пра Ружанец «Rosarium Virginis Mariae», творы Яна Твардоўскага і іншыя.

«Літаратурная Беларусь» выказвае спадарыні Хрысціне шчырыя пажаданні радасці, здароўя і светлай узнёсласці ды ўзгадвае некаторыя публікацыі паважанай юбіляркі...



Хрысціна ЛЯЛЬКО

**Пажыўшы на гэтым свеце, зведаўшы захапленні і расчараванні, радасць і боль, набыткі і страты, зазіраючы ў сваю душу, сёння я магу сказаць, што веру найперш у Божую любоў: у ахвярную й неспасцігальную любоў Бога да чалавека. Гэта вера здаецца мне стрыжнем, ад якога, як парасткі ад ствала, прарастаюць у душы атожылкі веры ў святло і дабро, у высокае прызначэнне чалавека, у бясконцасць жыцця, якое тут, у гэтай «даліне слёз», не заканчваецца, а пераходзіць у вечнасць, дзе нас чакае ўсё тая ж любоў справядлівага й міласэрнага Айца.**

Я веру ў Божую любоў да нас, слабых і грэшных, і так часта няварты гэтай любові. Нават тады, калі Бог дапускае выпрабаванні й цярпенні, хваробы й няшчасці, я веру, што гэта не што іншае, як ачышчальны агонь Ягонай любові, які дасканаліць душу, вызваляючы яе ад эгаізму, карыслівасці й ляноты.

Выключна з любові да нас Бог нас выхоўвае, жадаючы нам дабра, а нашай душы — збаўлення. І таму, як піша Тамаш Кемпійскі, «Жывучы й паміраючы, трымайся Хрыста і даверся Яго вернай любові, бо калі ўсё цябе пакіне, Ён адзін цябе падтрымаць можа».

Памятаю, як некалі трапілася мне кніга выдатнага гішпанскага святара і пісьменніка Рамона Куэ Рамано «Mi Cristo Roto» («Мой Хрыстус Паламаны»), якая ўразіла і запомнілася сваёю радыкальнаю трактоўкаю адносінаў Бога да чалавека. Гэты мудры гішпанец піша менавіта пра тую Божую любоў, якую бывае часам так цяжка зразумець і прыняць, пра тую любоў, калі Збаўца абдымае нас сваёю «леваю рукою».

Класічны прыклад такой выпрабавальнай любові дае нам Святое Пісанне, паказваючы цярпенні старазапаветнага Ёва...

Я веру, што менавіта з любові Бог даў кожнаму з нас ласку нарадзіцца ў гэты, а не ў іншы час, у гэтым, а не ў іншым краі, вызначыўшы тым самым кожнаму з нас місію жыць і працаваць тут і цяпер. Гэта вера дапамагае не разгубіцца, не ўпасці ў дэпрэсію, не страціць надзеі...

Я веру ў тое святло, якое чакае нас наперадзе, бо, як зазначыў Іва Андрыч, «Айчына — гэта круг сонечнага святла». Я веру, што ўсе мы ад нараджэння ўпісаны ў гэты «круг» сваім чалавечым шляхам, сваёю зямною вандроўкаю да вечнай Айчыны. І шлях гэты, несумненна, павінен быць шляхам ісціны, бо ісці па ім — гэта значыць «хацець таго, чаго хоча Бог». Зразумела, такі шлях — няпросты, але ён адзіна правільны й сапраўдны. Вытрываць на ім, не сысці, не збочыць дапамагае Божая любоў і наш бязмежны давер да яе.

**Радыё Свабода**

## Хрысціна Лялько: «Не ўяўляю, як можна жыць без веры»

**Гэтае інтэрв'ю запісвалася ў Маркаўскай сярэдняй школе Маладзечанскага раёна, куды пісьменніца і выдавец па запрашэнні літаратара і выдаўца Міхася Казлоўскага прыехала на творчую сустрэчу з вучнямі і педагогамі. У калідорах і класах школы гучыць беларуская мова, на ёй выкладаюцца ўсе прадметы. Тут працуюць неабыякавыя настаўнікі, якія не толькі даюць веды сваім вучням, але і выхоўваюць іх патрыётамі...**

Маркаўскую школу закончыла ў свой час таленавітая паэтэса і тэлежурналістка, светлы і шчыры чалавек Таццяна Сапач, жыццё якой абарвалася вельмі рана. Яе партрэт вісіць у кабінеце беларускай мовы і літаратуры, куды настаўніца Ларыса Фёдараўна Сапач і запрасіла госцю.

***— Хрысціна Аляксееўна, вас вельмі ўзрушыла, што ў гэтай школе вучылася Таццяна Сапач. Вы былі знаёмыя?***

— Мы з Таццянай некалькі разоў сустракаліся на міжнародным кінафестывалі хрысціянскага кіно «Магніфікат». Я была старшынёй журы, тройчы ў яго ўваходзіла і Таццяна. Мы шмат размаўлялі, і я адчула, наколькі светлая ў яе душа — душа сапраўднай беларускі. Памятаю, як аднойчы мы са слязамі на вачах размаўлялі пра нашых матуль, якіх ужо не было на гэтым свеце. Хіба магла я тады падумаць, што тая наша сустрэча апошняя? Ніхто з нас не ведае, колькі каму адведзена. Але мы павінны памятаць пра тое, што час кароткі і трэба яго берагчы.

***— У размове з вучнямі вы сказалі, што пісьменнік пачынаецца тады, калі боль разрывае душу і больш маўчаць немагчыма. Аб чым вы не маглі маўчаць у сваім юнацтве, калі ў 70-я гады мінулага стагоддзя ў раённай лідскай газеце «Уперад» выйшаў ваш першы верш?***

— Я нарадзілася пад Лідай на дзедавым хутары. На нашым падворку і ў садзе яшчэ і сёння шумяць дзедавы бярозы, якія заўсёды мяне чакаюць... Летам босая па гэтай зямлі прайдуся, дрэвы абдыму — і ажываю, аднаўляюся... Яшчэ да вайны дзед меў сем гектараў уласнага бярозавага лесу, які з прыходам Саветаў стаў калгасным. Калі мне было 12 гадоў, яго высеклі. І гэта — першая ў маім жыцці драма, пасля якой я пачала пісаць вершы. Затым у юнацтве напісала аповесць «Лес». З гэтага болю я нарадзілася як пісьменніца. А ў дзяцінстве, дарэчы, марыла быць лесніком, хацела быць, як казаў Аляксей Пысін, «замком» і «брамаю» для свайго лесу...

***— Аб чым не можаце маўчаць цяпер?***

— Найперш аб мове нашай. Вось і дзецям сказала: не саромейцеся размаўляць на роднай мове, чытайце беларускіх аўтараў! Я цяпер Вінцука Адважнага чытаю — быццам п'ю чыстую крынічную ваду... Трэба памятаць, што мы, а не хто іншы, адказныя за лёс роднай мовы...

***— Часопісы «Наша вера» і «Ave Maria», якія вы стварылі і рэдагуеце ўжо 20 гадоў, выходзяць на беларускай мове. Скажыце, калі ласка, на якога чытача яны разлічаны, у чым іх адрозненне?***

— Квартальнік «Наша вера» ў першую чаргу адрасуецца студэнцкай моладзі, інтэлігенцыі, усім, хто цікавіцца гісторыяй, культурай, літаратурай, сакральнай спадчынай Беларусі. «Ave Maria» выходзіць кожны месяц, займаецца евангелізацыяй, тлумачэннем праўды хрысціянскай веры, ён разлічаны на людзей практыкуючых. Я шчаслівая, што нам удалося сабраць калектыў аднадумцаў, і дзякую Богу, што вось ужо два дзесяцігоддзі выходзяць гэтыя часопісы. Акрамя іх, мы выпускаем і часопіс для дзяцей «Маленькі рыцар Беззаганнай», рэдактарам якога з'яўляецца вядомая пісьменніца Ірына Жарнасек.

***— Як вы лічыце, веруючаму чалавеку жыць лягчэй?***

— Не ўяўляю, як можна жыць без веры. Я вырасла ў веруючай сям'і, маміна малітва была са мною заўсёды. Ужо дванаццаць гадоў мамы няма на гэтым свеце, а я адчуваю яе апеку, нашу непарыўную сувязь. Тое, што было закладзена ў маленстве, вывела мяне на мой шлях. Чалавек павінен жыць па запаведзях Божых, і тады яму будзе лёгка. Гэта як з правіламі дарожнага руху: калі іх не выконваць, то аварыі не пазбегнуць. Так і ў жыцці: не будзем прытрымлівацца запаведзяў Божых — пакалечым сваё жыццё, свой лёс. І чым раней чалавек гэта зразумее, тым больш у яго шанцаў стаць шчаслівым.

***— Наша сустрэча адбываецца напярэдадні вялікага свята Нараджэння Хрыстова. Што помніцца з дзяцінства, як вы сустракалі Каляды на сваім хутары?***

— Гэта адно з самых светлых святаў — паэзія майго маленства. Чаканне першай зоркі Віфлеемскай: пакуль яна не з'явіцца на небе, сям'я не садзіцца есці куццю. Мы, дзеці, раз-пораз выбягалі на ганак, выглядалі зорку... Пах смажаных баравікоў, якімі начынялі «вушкі» з цеста. Тоненькія рознакаляровыя свечкі, прымацаваныя да яловых галінак. Сена пад абрусам, калядкі, якія спявалі разам з мамай, малітва... У нашым доме заўсёды віселі абразы, ніколі ніхто іх не здымаў. Мама вадзіла мяне ў Белагрудскі касцёл за сем кіламетраў, не баючыся нікога і нічога. І ў Вільню ў Вострую браму мы ездзілі, а да першай споведзі мама павезла мяне ў Польшчу, дзе жыла наша радня.

**Ніхто з нас не ведае, колькі каму адведзена. Але мы павінны памятаць пра тое, што час кароткі і трэба яго берагчы**

***— У вас выйшла нямала кніг у перакладзе з польскай мовы. Як удалося так добра яе вывучыць?***

— Я не лічу яе замежнай, бо чула з маленства. Мама польскую школу закончыла, навучыла мяне чытаць. Да сваякоў у Польшчу ездзілі, і гэта мова незаўважна ўвайшла ў мой ужытак. Вельмі шкадую аб тым (і вучням на сустрэчы пра гэта гаварыла), што ў школе нямецкую, на філфаку іспанскую не вывучыла так, каб яны былі не ў пасіве, а ў актыве. Мне пашчасціла два месяцы вучыць італьянскую мову ў Італіі, ва ўніверсітэце ў Перуджы, куды з усяго свету з'ехаліся людзі розных узростаў. Мару, каб і да нас з розных краінаў прыязджалі вывучаць беларускую мову — яна не менш прыгожая за італьянскую. Два месяцы я жыла ў Італіі і не магла дачакацца, каб хутчэй вырвацца з гэтай прыгажосці дамоў. Гавару шчыра, абсалютна не какетнічаю. Мне найлепш дома: Радзіма, як і маці, можа быць толькі адна...

***— Хрысціна Аляксееўна, з часу выхаду вашай першай кнігі прайшло некалькі дзесяцігоддзяў. Якая сёння ваша дарога? Магчыма, ужо лягчэйшая, з гары?***

— Раней думалася: ну вось, да 50 гадоў буду ісці пад гару, а пасля — з гары. Але аказалася, справа зусім не ва ўзросце, а ў адчуванні тваёй душы... Наш Белагрудскі касцёл стаіць на ўзвышшы, непадалёк ад яго пахаваная мая мама... Гэта частка маёй дарогі пад гару — мамін шлях, яе лёс. І мой лёс — я заўсёды выбіраю дарогу пад гару...

**Гутарыла Анжаліка Крупянькова, mgazeta.by**

# Гул перамогі



Базыль КАМАРОЎ

***

*Тва́ру не помню.*
*Помніцца толькі ўсмешка.*
*Месяцовыя сінія блікі на роўнядзі азёрнай*
*І целе вільготным, нясцерпна пажадным,*
*Ды грыва цяжкіх валасоў,*
*Якімі, аднак, ты зусім не жадала*
*Прыкрыць галізну сваіх белых грудзей.*
*І гэтыя грудзі*
*Помняць вочы мае,*
*Помняць рукі мае,*
*Помняць вусны мае.*

***

*І грукат шчытоў акаваных,*
*І грохат гарматаў гарачых,*
*І лязгат мячоў гартаваных,*
*Трэск дзідаў*
*І коней раз'ятраных ржанне,*
*Дудаў гудзенне*
*І рэха далёкай сурмы,*
*Гром перуновы*
*І пошчак пагоні нязменнай,*
*Гул перамогі на грывах узгоркаў далёкіх…*
*І ўсё гэта ў слове адзіным —*
*ГРУНВАЛЬД.*

***

*Збуцьвелы плот,*
*Падпёрты крапівой і лебядою.*
*За ім здзічэлы сад*
*Markзнагалоссем поўніцца птушыным.*
*І вёска ўся —*
*Сем душ сівых самотных —*
*На лавачцы пад бэзам размясцілася.*

***

*Мая радзіма ў тым лясным куточку,*
*Дзе ў цішыні пад хвоямі над Друццю*
*Спачылі вечным сном мае дзяды:*
*Рыгоры, Васілі, Лаўрэн, Аксён і Хведар,*
*Іх жонкі, дзеці, сёстры і браты,*
*І дзе, на жаль, няма крыжоў Карнея,*
*Півона, Мікалая, Паўлы і Сяргея,*
*Хто склаў галовы на снягах Сіблагу,*
*Пад Воршай, Кёнігсбергам і Пілау…*
*І пра каго маркоціцца радзіма,*
*Там, дзе над Друццю ноч галлё гайдае.*

***

*У Вязынцы ціха, бы людзі й не ведаюць,*
*Што тут нарадзіўся аднойчы Купала.*
*Штовечар — змярканне,*
*Штораніцы — снедаюць.*
*Ну й што, што яму тут зязюля кувала!*

*Надарыцца час апынуцца далёка*
*Ад родных мясцін, ад нізін наваколля, —*
*Душою адчуеш, што родная мова*
*І лашчыла душу,*
*І песціла дома,*
*Дзе ўранні над лесам зязюля кувала,*
*Бо там нарадзіўся аднойчы Купала.*

## Карацелькі

*На вёску едучы, спахапіўся — няма чаго пачытаць у дарозе.*
*Гляджу ў вакно, не адрываючыся. Там і проза… і паэзія… і публіцыстыка.*

***

*Апрануў дрэвы, кусты і травы, і тым самым заваструў іх галізну снег першага дня.*

***

*Родная мова*
*З вуснаў дзіцяці —*
*Замілаванне да слёз,*
*І балюча да слёз*
*(украінская сям'я на магілёўскай вуліцы).*

***

*…чтобы эти экскурсии «спрыялі», как говорят беларусы, дружбе между народами… (з пачутага па радыё).*
*А цяпер здагадайся, чытачу, дзе тут прапушчана часціна не.*

***

*Углядаюся ў фота, дзе мой прадзед з унучкай на руках пасля вяртання з ГУЛАГу.*
*Колькі мудрасці, болю і смутку ў глыбокіх вачах старога.*
*Колькі бесклапотнай гарэзлівасці на твары дзяўчынкі.*

***

*Слупы не маюць каранёў.*
*— А пні? — мысляр спытаў.*

***

*Глядзець і не бачыць,*
*Сузіраць і не рабіць высновы*
*Ці можна?..*

***

*Цішыня…*
*Дзьмухнуў на мошку, што мітусілася перад вачыма, і пачуў, як тая ляснулася аб аркуш паперы.Цішыня…*

***

*На фоне Шапэна запрацавала аўтасігналізацыя.*
*Цывілізацыя абудзіла да будзённасці і прагматызму.*

***

*У бязлюдным заснежаным мікраараёне на бязлюднай сцежцы варона дзяўбе змерзлае залацістае мандарынавае шалупінне.*
*Была позняя раніца першага дня Новага Года.*

***

*Двое п'яных, незнаёмых між сабой, пабілі трэцяга, цвярозага.*
*Прафсаюзная салідарнасць?*

***

*Пра што думае дзед, гледзячы ў кут цёмнага пакоя і трымаючы ў сваёй далоні цёплую пяшчотную ручку ўнука?*
*Што прыснілася дзіцяці, чыя ручка — такі дарагі камячок — раптам уздрыгнула ў вялікай дзедавай далоні і абудзіла старога сярод ночы?*

***

*Заплюшчу вочы*
*І пабачу лепшы час.*
*Соладка ўздыхну*
*І ў горычы прачнуся.*

***

*Гэтай ноччу мы не спалі гадзін да трох…*
*Я і камар.*

***

*Размеранае рацыянальнае жыццё з раніцы да вечара, з дня ў дзень, боязь авантурызму і неабдуманых учынкаў гарантуе бесклапотнае жыццё, але не дадае да ўспамінаў прыемнага, нават у прыкрым шарме, той прыправы, без якой не гатуецца добрая страва — чалавечае жыццё.*
*Творца заўсёды крыху авантурыст.*

***

*Асфальтавы лапік сярод старой брукаванкі.*

# Поле Жыцця



Фелікс БАТОРЫН

***

*Сабраўся я поле жыцця перайсці,*
*А сцежкі няма ні адной:*
*За ўсімі паспелі травой зарасці,*
*Узыдзе яна і за мной.*

*Ступіў бы наўпрост, ды ў траве ж гадаўя…*
*Шукаю — сцяжын не відно.*
*Стаміўся. Прысеў і агледзеўся я,*
*А поле за спінай даўно.*

***

*А ці ж закрэсліць памяць крыж,*
*Магільны камень ці зацісне?*
*Хаваюць грэшнікаў, грахі ж*
*Сярод жывых сядзяць на трызне.*

*Хаваюць праведных. Цяжкі*
*Іх шлях. Іх ближнія няўцешны.*
*А іх мізэрныя грашкі*
*Відаць выяўней, чым у грэшных.*

***

*У той далёкі незабыўны час,*
*Калі звяла дарога разам нас,*
*Звязаўшы на развілцы дзве сцяжыны,*
*Не верыў свет, што шлях у нас адзіны.*

*Смяяўся вецер з нашых валасоў,*
*А рэха — са шчаслівых галасоў,*
*А доля — з нашых сонечных надзеяў,*
*Падступнасць замяшаўшы ў ход падзеяў.*

*Смяяўся з нас насмешлівы і злы,*
*Смяяліся ваўчары і казлы,*
*А мы сабе сказалі : «Хай смяюцца!» —*
*І сёння нашы песні нам пяюцца.*

***

*Зямля… зямля… І харасство, і бруд,*
*І жыццядайны грунт, і жвір магілы,*
*Крыніца вод і мноства розных руд;*
*Зямля збірае з ног і дорыць сілы.*

*Зямля — шляхі, дарогі і сцяжынкі,*
*Таемнасць ночы і празрыстасць дня.*
*А мы — зямное сутнасці пылінкі,*
*У сонечным праменні мітусня.*

***

*З прадапошняга дня Стварэння*
*(Адпачынкам быў дзень апошні)*
*Зброю масавага знішчэння*
*За зубамі носіць з нас кожны.*

## Маргіналы

*Сумны трыпціх*

1
*Пра што вяшчае птушка — мудры крук,*
*Маглі б мы зразумець, ды не цікава.*
*Маглі б наўпрост, ды звычней нам наўкруг,*
*Пятляючы налева і направа.*

*Намнога лепш маглі б мы, а нашто?*
*Маглі б зусім інакш, а навошта?*
*Газеты нам штодня прыносіць пошта,*
*Дзеля чаго, не ведае ніхто.*

2
*Мы звыклі ганарыцца тым,*
*што маем,*
*А маем тое, што само прыйшло;*
*За сонца поўню бляклую трымаем*
*І жмурымся на дзённае святло.*

3
*На святло на дзённае*
*Думак не выносім,*
*А сваё надзённае*
*Нават і не просім.*
*Нешта недзе сцягнем,*
*Нешта так дадуць.*
*Іншага не прагнем,*
*Як выпіць і заснуць.*

## Асенняе балота

*На чаратоў рудых драты,*
*На вокнаў чорныя раты*
*Наслала неруш нематы*
*Асенняе здранцвенне.*
*У жжуравірненай дрыгве*
*Жуда таемная жыве.*
*Каго пакліча-пазаве,*
*Таму няма збавення.*

***

*Я думаў, што прарэзваюцца крылы*
*Абапал набалелага хрыбта.*
*А остэахандроз сярэдняй сілы*
*У твар з насмешкай кінуў мне: «Лухта!»*

*Я верыў, быццам доля мне такая*
*Прызначана: ляцець у сіняву, —*
*Таму падумаў, нібыта ўзлятаю, —*
*І паляцеў. Шчэ добра, што ў траву!*

*«Памёр!» — мой сябра вырашыў зацяты*
*І радасна скляпаў мне некралог,*
*Маўляў, пайшоў ад нас паэт крылаты.*
*Бо ўжо вышэй падняцца ён не мог.*

*Я ж дачакаўся, калі боль паменеў*
*І крыху рукі-ногі адышлі,*
*Падняўся, пакрактаў, расцёр калені*
*І рушыў зноў па матухне-зямлі.*

## Зімняя рыбалка

*Такі мароз, што ў берлагу замерз*
*мядзведзь.*
*Акрэплі губы — ні прысвіснуць, ні прапець.*
*Да цёмнай пелькі прымярзае паплавок.*
*Нат неба хрумсне, як наступіш незнарок.*

*Зматаем вуды ды цяпельца раскладзем.*
*За чаркай будзе для гаворкі многа тэм:*
*Былыя подзвігі, спайманыя кіты*
*Ды маладзіцы небывалай пекнаты.*

*Не быць улову сёння. Ссунем чаркі зноў.*
*Ужо змяркаецца і час ісці дамоў.*
*А дома карп фаршыраваны, цёрты хрэн*
*І палавіны мілай з'едлівы рэфрэн.*

***

*Ні серабрыстых павуцінак,*
*Ні ценькіх промняў не кране*
*Там, дзе з аброшаных галінак*
*Павіслі гронкі цішыні.*

*Дзіцячай даўняю гульнёю*
*Вярні сябе з забытых сноў:*
*Замры! зрабіся цішынёю,*
*Не спламленай няпраўдай слоў.*

# Пры святле поўні



Васіль ЖУКОВІЧ

— Белы вальс! — зычны голас масавіка прывычна абвясціў чарговы танец. — Дамы запрашаюць кавалераў.

На танцпляцоўцы ў гарадскім парку загучала, займаючы ў вечаровай летняй цішы сваю прастору, урачыста-пранізлівая музыка. Яшчэ не закружылася ў вальсе ні адна пара, як да хлопца, стройнага і чубатага, на якім зграбна сядзелі светлыя джынсы і блакітна-белая паласатая тэніска, порсткаю хадою ў туфліках на тонкіх абцасах памкнулася юная залатавалосая дзяўчына, апранутая ў сукенку з вішнёвага аксаміту. Калі наблізілася да яго, яна міла ўсміхнулася і так натуральна схіліла ў паклоне галаву, што яму, даволі пераборліваму кавалеру, нічога не заставалася, як адказаць ёй узаемнасцю.

Пятро, гэтак звалі хлопца, не часта наведваў танцпляцоўку і сам парк. Ды не таму тут ён рэдка бываў, што працаваў на будоўлі бетоншчыкам, дзе цяжкая фізічная праца забірала шмат энергіі, — маладому чалавеку, моцнаму і рухаваму, тое мала што значыла, — проста яму бракавала вольнага часу, бо ён займаўся лёгкай атлетыкай, асабліва інтэнсіўна з мінулае вясны, калі дасягнуў звання майстра спорту.

У танцах пачуваўся хлопец як рыба ў вадзе, таму патаньчыць любіў, як любіў і ўвогуле пагуляць. Аматар інтымных, хоць і рэдкіх, захапленняў, мог прыгожа і са смакам пазаляцацца да ўпадабанае дзяўчыны ці незамужняе маладзіцы: вопыт меў, бо, як толькі пасяліўся ў інтэрнаце будаўнікоў, з поспехам прайшоў «школу Грышы», так усе называлі ягонага земляка Рыгора, закаранелага халасцяка і лавеласа.

Гэтым разам Пятро ўявіў сябе ўдалым рыбаком, хоць нікуды вудачку не закідваў. «Рыбка сама падплыла...» — падумаў ён, беручы за руку юнае дзяўчо. Як толькі яго шырокая даланя легла на незнаёмы тонкі стан, праз аксамітную прыемную матэрыю ён адчуў гарачае дзявочае цела, руку сагрэла такая цеплыня, якой ён не адчуваў ніколі дагэтуль, хоць знаўся з многімі прадстаўніцамі прыгожае паловы чалавецтва. Ахоплены танцавальным азартам, Пятро пачаў моцна кружыць незнаёмку, хутка і лоўка праходзячы паміж іншымі парамі. Дзяўчына старалася вытрымаць зададзены партнёрам рытм і ад радасці, што ёй гэта ўдаецца, прыемна ўсміхалася, на нейкія моманты заплюшчваючы вочы. Аднойчы Пятро паспеў пацалаваць гуллівую ўсмешку, перш чым яна растала на вясёлых вуснах незнаёмкі, і прыхінуць да сябе гібкую і падатлівую постаць. Калі скончыўся вальс, Пятро не пакінуў партнёрку. Адышоў з ёю ўбок, вымавіў з запалам: «Дзякуй!» і, гледзячы дзяўчыне ў вочы, сказаў:

— Давай знаёміцца.

— Наташа, — прамовіла яна, падаючы руку.

Цяпер, у перапынку паміж танцамі, Пятро больш пільна ўгледзеўся ў абліччa Наташы, якая так знянацку захапіла і заінтрыгавала яго, і не знайшоў нічога такога, што б магло не спадабацца.

Уся Наташына статная пастава падкрэслівала яе жаноцкасць. Яшчэ калі яна ішла запрасіць яго на белы вальс, хлопец заўважыў, якія прыгожыя ў яе ногі. І пазней, танцуючы з ёю і твіст, і чарльстон, адчуваў: яго апаноўвае неверагодная цяга да яе і яна, гэтая цяга, мабілізуе пачуццё рашучасці і падштурхоўвае да дзеяння. Таму Пятро нядоўга няволіў сябе танцпляцоўкаю. У прыдатны момант ён сказаў красуні:

— Я хачу з табою даўжэй пабыць сам-насам. Калі ласка, прыдумай што-небудзь. Я ў інтэрнацкай пакоі не адзін. Давай пойдзем паселімся ў гатэлі, у мяне ёсць знаёмыя.

— Нам не патрэбны гатэль, — усміхнулася Наталля, узяла за руку Пятра і рынула з ім да выхаду.

Наташа ў сваёй беласнежнай пасцелі была з Пятром ласкавая, быццам з даўно любімым чалавекам, яна не саромелася прапаноўваць розныя прыёмы і бурна выяўляць сваю радасць ад паўнаты пачуцця. «Жаданы! Каханы! Любы! Любы! Лю-бы! — то гучна, то ціха вымаўляла, часта і горача дыхаючы, то заміраючы, то шчодра цалуючы яго сваімі спярша гарачымі, пасля крыху пахаладзелымі вуснамі...

Пятру і сярод ночы спаць не хацелася, ён мінулаю ноччу выспаўся авансам, як бы прадчуваючы такое неверагоднае спатканне. Праўда, прымаючы ў ваннай цёплы душ, спадзяваўся, што хваля сну ўсё-такі павінна агарнуць яго. Але ён, як і Наталля, яшчэ нядаўна быў занадта пераўзбуджаны, каб так хутка пераключыцца на адпачынак. Да таго ж на небе свяціла поўня, праламваючы святло праз незашторанае вакно на край шырокага ложка, дзе непрадказальны лёс чамусьці звёў Пятра з Наталляй. Начны госць заўважыў, што на вакне аніякіх штораў няма, бо няма і карнізаў, было падобна на тое, што кватэра ў новым доме. І ён міжволі запытаўся:

— Дзе, Наташка, гаспадары кватэры і хто яны?

—Тут жыве мая цётачка, маміна сястра, з мужам. Цяпер яны на курорце ў Трускаўцы.

Пятра менш за ўсё цікавіла цётка гэтае ўмелае партнёркі ў танцах, якая аказалася такой неардынарнаю і гарачаю, — яго цікавіла яна сама. І, гладзячы пышныя валасы, тонкую лебядзіную шыю, у меру пышныя грудзі, ён задаў сваё больш істотнае пытанне:

— Хто ты, любая Наталачка? Дзе ты вучышся?

— Студэнтка я, скончыла першы курс Інстытута лёгкай прамысловасці. Дызайнерам-мадэльерам буду, — ноткі гонару прагучалі ў ейным голасе. — А ты што скажаш пра сябе, мой непараўнальны, мая неспадзяваная знаходка і таямніца?

Пятро ўзяў Наташыны гладкія далонькі ў свае шурпатыя і коратка распавёў пра сваю працу.

Ім абаім было цікава пагаманіць.

— Я адчувала, што ты майстар, — гаварыла Наташа.

— А я, можна сказаць, беспамылкова вызначыў тваю інтэлігентную сферу дзейнасці, — казаў Пятро.

— Мабыць, і год майго нараджэння ты можаш назваць таксама беспамылкова?

— Адназначна: то была якраз тая гістарычная вяха, калі пагарэў Мікіта Хрушчоў і ўзабраўся на самую вяршыню ўладнае лесвіцы «дарагі Брэжнеў».

— Так яно і ёсць, мой маг. А я так трапна не змагу. Сам кажы, калі з'явіўся...

— О, я на белы свет з'явіўся тады, як дуба даў вялікі тыран.

Пятро прыціх. Ён чамусьці ўспомніў аднаго знаёмага дзеда-расіяніна, які коратка, з яўнаю антыпатыяй, нават зневажальна характарызаваў вядомых правадыроў: «Сталин — рябой, Хрущёв — байстук, Брежнев — размазня». Пры гэтым падумаў, што дарэмна не пацікавіўся ў расіяніна-ветэрана, чаму Леаніда Ільіча назваў размазнёй. Ад кагосьці яму пачулася ў аўтобусе больш дакладнае пра Ільіча слова: «набздычаны», і тады яму было падумалася пра тое, як народ разбіраецца ў тых, хто празмерна любіць уласную ўладу.

Наталля таксама памаўчала, яна думала пра сваё.

— Ці ведаеш ты, — нечакана запыталася яна, — наколькі Пушкін быў старэйшы за Наталлю?

— Ведаю толькі, што Ганчаровай было васямнаццаць, якраз столькі, як цяпер табе, мая радасць, — адказаў Пятро.

— Уяўляеш, Аляксандр Сяргеевіч быў на трынаццаць гадоў старэйшы за сваю абранніцу, — летуценна падкрэсліла дзяўчына.

— Уяўляю і лічу такую дыстанцыю нармальнаю.

Поўня, ідучы на захад, паціху апусцілася ніжэй і дастала сваім святлом Наталлю. Яна ляжала, уся голенькая, паверх летняга махровага пакрывала, поруч з Пятром, павернутая да яго.

Пятро замілавана разглядваў маладзенькае цела смелае юнае асобы, заварожаны красою; упершыню за шмат гадоў з'явілася перад яго вачыма такая жывая карціна. Пры месячным святле яму раптам прымроілася, што перад ім не зямная, а нябёсная істота: так у гэтым начным святле гарманічна спалучаліся залатыя валасы, белыя грудзі, рукі. Ён думаў пра тое, як слаба ў мастацтве адлюстроўваецца такое хараство. Праўда, узгадаў ён, хтосьці з маладых мастакоў стварыў карціну «У лазні», у якой напоўніцу паказана якраз непрыхаваная натуральная краса менавіта маладых прыгажунь.

Аднак у свядомасці Пятра не сумяшчалася Наташына прыгажосць з яе вопытам, таму ён, як бы загодзь просячы прабачэння, сказаў:

— Наталлечка, ты не пакрыўдзіся, калі ласка, ад майго неделікатнага пытання. Мне здаецца, ты не па гадах вопытная. Чаму так?

Наташыны пушыстыя вейкі апусціліся.

— Я ведала, што цябе гэта ўразіць, — выразна, з ноткаю крыўды ў голасе, сказала яна, — ды не баялася гэтага... Калі такі цікаўны, то слухай!

І яна распавяла сваю драматычную гісторыю — пра тое, як яе маці-адзіночка выйшла замуж у чужое сяло і як айчым прыручыў яе, малую падчарку, як падкупіў прысмакамі і прывучыў яе ў адзінаццаць гадкоў забаўляцца з ім... Праз тры гады маці даведалася пра тое і атруціла гвалтаўніка...

— А потым, — працягвала Наташа, ужо гледзячы Пятру ў вочы і не хаваючы ў сваіх вачах маланкі, — быў у мяне аднакласнік, а пасля — аднакурснік. І ўсе такія вопытныя! Уяўляеш?..

— І ты не баішся падзаляцець?.. — яшчэ больш балюча ўдарыў ён.

— З табой не баюся, таму і не засцерагаюся, — цвёрда яна прадоўжыла свой маналог. — А ўсё таму, што ты мне вельмі спадабаўся. Толькі май на ўвазе: калі што якое, я цябе знайду — і ты будзеш мой навекі вечныя! Разумееш? Ад мяне не ўцячэш і нідзе не схаваешся. Знай, я ўмею помсціць. — Задумалася і дадала: — Не горш, як мая маці...

Пятро ляжаў на спіне і глядзеў у столь. А Наталля распачала новую гісторыю. У вёсцы Н. у шавецкай майстэрні шыў і рамантаваў абутак прыгожы малады чалавек, падобны да Сяргея Ясеніна. А ў суседняй хаце жыла непрыгожая перастарка. Яна заўважыла, што ён ні з кім не гуляе, затое ў клубе на танцах так хораша грае на баяне, аж дух займае! І неяк злаўчылася падкаціцца да адмысловага шаўца і музыканта. Дзіва дзіўнае: ён не пагрэбаваў. Пэўна ж, было цёмна... Час ідзе, у старой дзевы, бы тое цеста, бруха расце... А тым часам...

— Стоп, стоп, мілая! — Пятра ўсяго перасмыкнула. Ён не мог паверыць сваім вушам. «Усё чыста супадае», — падумалася яму. Гэта ягоны старэйшы брат — шавец, баяніст, прыгажун — уліпнуў у страшную гісторыю, як у смалу. Замёршы на белай пасцелі, Пятро падумаў пра чарнату жыцця, успамінаючы перажытае ў дзяцінстве.

— Адпачні, родненькая, прадоўжыць тваю гісторыю магу я, — сказаў Наташын загадкавы госць і, не чакаючы згоды ад здзіўленай прыгажуні, пачаў свой расповед.

Хлопчыку было тады адзінаццаць гадоў, як да яго матулі на хутар прыходзіла з вёскі кабета (сама малая, а галава вялізная!) і як яна падоўгу размаўляла, паўтараючы два словы: «цуда амерыканскае». Пра што ішла гаворка, ён уведаў пазней, калі здарылася непапраўнае... Цяжарная хацела стаць законнаю жонкаю. Маці тады сказала, што яе разумее, але сына прымусіць не можа. Быў бы жывы бацька, мо было б усё інакш...

Чым бліжэй заставалася да родаў, тым больш агрэсіўнаю рабілася жанчына. Яна ўбачыла, што той, на каго яна ўсё яшчэ спадзявалася, абзавёўся нявестаю, ходзіць з ёю ў кіно і на танцы, і калі пачула ад яго, што за жонку возьме тую, дастала ў знаёмага механіка сернай кіслаты. «Зараз я яму ўстрою вясёлую жытуху!» — сказала яна, збіраючыся праз адчыненае клубнае вакно, пры якім ён граў на баяне ў часе танцаў, ліпнуць яму ў вочы ядавітай вадкасці. Яго тады людзі добрыя папярэдзілі і ўратавалі ад бяды. Пра небяспеку ён ведаў, ды не асцерагаўся. А як толькі ажаніўся, яна падпільнавала яго ўвечары, выскачыла з засады з едкаю кіслатою ў руках і ўчыніла зло.

Малога хлопчыка пабудзіў матулін плач. Старэйшы сын начаваў не дома, а ў абласной бальніцы, куды яго закінула «Хуткая дапамога». Хлапчук завітаў да брата (упершыню так далёка ездзіў), бачыў яго апухлы твар і забінтаванае вока.

— Не перажывай і маму супакой, скажы ёй, што мне пашанцавала: адным вокам буду бачыць, — суцяшаў пацярпелы малога брата.

А той малы надумаў адпомсціць кабеце, што пакалечыла яго роднага брата, і, калі падпільнаваў, што яна пайшла ў суседні хутар да сваякоў, назбіраў цэлую шапку камення і доўга-доўга дзяжурыў ля сцежкі, па якой яна павінна была вяртацца. Ды жанчыну і будучае дзіця ўратавала тое, што яна тою ноччу не вярталася, а ў сваякоў заначавала.

Наташа знянацку зарыдала, уткнуўшыся тварам у грудзі Пятра, яна зразумела: той адзінаццацігадовы хлопчык быў не хто іншы, а ён сам, Пятро, малодшы брат яе знявечанага бацькі. І вось ён тут, поруч!

— Не плач, Наталлечка! Там, дзе скончылася наша імгненнае, як святло знічкі, узаемнае захапленне, пачнецца вечная крэўная любоў. Праўда, Наталля?

— Сапраўды. Хто ж мы адно аднаму? Я — твая пляменніца па бацькавай лініі, а ты, значыць, дзядзька мой...

...Яны яшчэ доўга распавядалі адно аднаму пра сябе, пра сваіх родзічаў, пра перажытае.

### Эпілог

Тым жа летам Пятро паступіў у Мінскі інстытут фізкультуры. У часе вучобы гуляў за зборную каманду краіны, не раз біў рэспубліканскія рэкорды. Пасля стаў трэнерам. Ажаніўся з настаўніцай. З Наташаю не ліставаўся. Праз год, калі прывёз на экскурсію падапечных спартсменаў у горад свайго юнацтва, хацеў завітаць да яе, але на вакзале сустрэў земляка Грышу, які стаў таксістам, і той паведаміў, што ён год таму вазіў Наташу і яе жаніха ў дзень вяселля і што жаніх павёз яе на Валынь, адкуль сам родам.

Маці Наташына да вяселля дачкі не дажыла: два турэмныя тэрміны, асабліва другі, падкасілі здароўе.

На радзіме Пятра братавы блізняты сын і дачка канчалі школу. Слепаваты брат па-ранейшаму шыў і рамантаваў абутак. З асаблівай радасцю ён з сям'ёю сустракаў Пятра...

# Высокія берагі



Эвалдас ІГНАТАВІЧУС (Літва)

### Нябеснае цела

*у палатно крухмальнае нябёсаў*
*абрынуся наўзнакі*
*каб адмовіць*
*квітнеючым садам садому*
*маўчанню вежаў*
*памяці і*
*мове*
*ў якой*
*тысячагоддзі*
*хаваўся*
*ад цябе*

### Мова

*ёсць мова што маўчыш*
*і слепнеш як ад сонца*
*ёсць мова далячынь*
*лясоў на гарызонце*

*ёсць мой маленькі плыт*
*і чысціня рачулак*
*ёсць ціхай плыні спрыт*
*ёсць мова ёсць прытулак*

### Увысь

*са сну*
*ціхамірнага і цнатлівага*
*я падымуся*
*перамагаючы холад*

*у бляск*
*тваіх зім*
*з моцнай тугой*
*па дому*

### Нядзеля

*доўга глядзеў*
*уніз здзіўлены*
*укленчаны стварыцель*

### Высокія берагі

*трава*
*яшчэ памятае пра нас*
*запісаных чыстапісаннем*
*пра-саль-фе-джа-ваных*
*высокае неба*
*якое гойдалася тады*
*як піва*
*у трохлітровым слоіку*
*і полым*
*што лётаў у траве*
*паўтараючы: не буду піць*
*з твайго следу*
*ягнятка*

### Цвік

*цвік*
*які забіваюць*
*у дрэва*
*у цела*

*у жывых*
*і бяздушныя*
*рэчы*

*у цішыню*
*у пустэчу*
*якім*
*на сцяне*
*выдрапваюць імя*

*на які павесяць*
*стары пінжак*

*цвік*
*які забіваюць у галаву*
*гісторыю тэалогію*
*архітэктуру*

*якім злучаюць зямлю і неба*

*іржавы*
*гарбаты*
*злучальнік*

### Апошняе неба

*мы ўзыходзім*
*па крутой рыплівай лесвіцы*
*трымаючыся за рукі*

*хто нас вядзе?*
*анёлы са змучаным аблічам*

*хто нас чакае?*
*сваякі з вашчанымі тварамі*
*стары школьны доктар і*
*стары настаўнік спеваў*

*яны праверацьь наш зрок і слых*
*перад тым як раздаць свяшчэнныя пар-*
*тытуры*



### Дон Жуан

*з плячэй сваіх нібы кажух*
*ён скінуў горад годна ветру*
*і лашчыць грывы траў угрэтых*
*дзе пацалункі прыгажунь*
*усіх што ёсць сабраў за лета*

### Wake — up call

*THIS IS YOUR WAKE — UP CALL*
*паведамляе гаваркая ракавіна*
*голасам сцюардэсы*

*THIS IS YOUR CALL… — збяры*
*свае ныючыя суставы*
*свайго сумлення дакоры*
*боль і страх*
*іх нават смерць не вылекуе*

*THIS IS THE CALL*
*становяцца ў чаргу пажарнікі і юрліўцы:*
*калі адчыняць касу?*
*у дзверы прарываецца натоўп, пах поту*
*кандыцыянер не працуе:*
*мой Бог, мне неабходна*

*прачнуцца*
*адпрасаваць кашулю*
*набыць шкарпэткі*
*у Daty Free краме*
*у транзітнай зале*
*літар віскі —*
*дазвольце зайсці…*

*мая радзіма згубілася*
*паміж Хонг Конгам і Рыа дэ Жанейрам*
*як знайсці — пытаюся ў касога*
*кітайца — неабходную браму*

*адкажы — твой кіслы голас*
*працінае мой слых, які прачынаецца —*
*даўно*
*не праветраны дом, зачыненыя пакоі,*
*душныя гатэлі, цёмныя калідоры*
*магчыма яны выведуць*
*на прахалодныя вуліцы маленькага го-*
*рада*
*дзе мы здолеем…*
*THIS IS…*
*пачынае дзяжурны дыктар —*
*стары яўрэй — адкуль ён ведае*
*гэтую лічылку; памнажаць жах на віно*
*атрыманую суму дзяліць на каханне*
*распрадаць з малатка, пакінуць свій дом*
*сысці ў горы, дзе пасвяцца спакойныя*
*авечкі…*

*цемра і смага*
*рамадан…*
*у правільным кубе залітаваны*
*пачынаецца ранак*
*вось каву паставяць варыць*

*спусціцца*
*добры анёл, тэледапамога*
*мне вернуць адзенне, цела, мову —*
*яна абмывае два берагі*
*паміж імі*
*мой глухі сон*
*попел пекла, пераўтвараецца*
*у снег выраю…*

*канец рэгістрацыі*
*раздадуць*
*павязкі на вочы і*
*затычкі ў вушы —*
*расліна, дзе ты, якая абвіваеш*
*ліпкімі каранямі —*
*дай мне сілу паўстаць*
*дай мне старога з човенам*

*запалі яшчэ адно жыццё*
*на экране кампутара —*
*вярні мяне ў гульню*
*да апошняга, без магчымасці адазваць*
*фінала*

*усявышні рэжа суставы*
*сутарга зводзіць цягліцы*
*адхініце фіранкі, уключайце*
*прыёмнік «Lano z Radjem», rock'n'roll…*

*THIS IS YOUR WAKE — UP CALL*
*пырскае слінай*
*неміласэрная медсястра*

*гасподзь мой, дзе я*
*ложак, люстра, стол, тб*
*літва?*
*аусланд?*
*гатэль пяць зорак*
*роўна шэсць жнівень, год каня, с.в.*

*а дзень. які дзень?*
*якая табе розніца —*
*паднімайся і ідзі*
*калі можаш — без мацюкоў*
*не можаш — твая справа*
*сварыся, але паднімайся —*
*нібы прабіраешся па балоту*
*на працу ідзі, з падскокам*
*у ядальню, паільню —*
*але ж свет прыгожы —*
*праз каламутнае шкло —*
*маліся, размнажайся, спаражняйся*
*пакуль…*

*THIS IS WAKE — UP CALL*
*THIS IS WAKE — UP CALL*
*THIS IS WAKE — UP…*

**Пераклала з літоўскай мовы**
**Людміла Паўлікава**

# Рэбры дзён, раніц

## (Фрагмент)



Сесілія ХАНСАН (Швецыя)

**I.**

*Ты ствараеш асфальтавы круг вакол нас, я накручваю твой шалік на руку. Пасярэдзіне Шотэнтара,*
*жоўтая маланка працінае мяне. Ты — між маіх*
*плеч. Пякучы жар; застываю лужынай на зямлі.*

*Асфальт дрыжыць, вада навісла гронкамі па-над*
*трамваямі. Завязваю твой шалік пад грудзямі.*
*Вадаспад раскручвае мяне ў бок Лаудонгасэ.*

*Тэлефонная будка, я раскручваю дыск — восем*
*разоў. Рух спыніўся, машын зусім не чутно.*
*Толькі гудкі — ты адказваеш. Адкрываецца нешта. Я падаю.*

*5-ы маршрут — да твайго дому. Сцены сціскаюцца*
*вакол нас. Твая спіна ахінае мяне. І ты гладзіш*
*тыльным бокам далоні. Мяккія*
*дотыкі здымаюць з мяне скуру.*

*Я замярзаю, кусаю твае вусны. Ружовыя карункі, баваўняная бялізна. Ты разгладжваеш*
*мае складкі. Чырвоныя плямы на маёй шыі, сляды тваіх зубоў.*
*Вуха гарыць.*

*Ты ўводзіш сябе ў мяне, запаўняеш штуршкамі.*

*Мае ногі загорнутыя ў прасціну. Кропачкі ўкусаў*
*на сцягне, ты раздзіраеш мае баваўняныя мары.*

*Мяккія пальцы драпаюць скуру. Чорны волас*
*на маім сцягне. Вільгаць выходзіць вонкі, пляміць*
*бялізну, капае на прасціну.*

*Твая скура становіцца маёй, расплаўляе будучыню.*

*Хочаш снедаць? Спяшаюся скрозь раніцу, рэха твайго голасу, поўнае стрыманага цяпла.*
*Перад дзвярыма спальні я заўважаю дзірачку*
*у сваёй бялізне.*

*Адзіны кірунак: усе трамваі ідуць*
*у бок выспы Данауінзэль.*

*Выпраўляемся на роварах. Данауінзэль. Педалі*
*злучаныя з грудзямі. Цісну — рэжа, я*
*вільгатнею знутры.*

*Сляды ровара на пяску, я за тваёй спіной.*
*Віхляем між марскіх зорак. Трымаюся за цябе, я не звалюся.*

*У цяпле месяца рухаемся ў такт. Слізгаем, круцімся*
*на коўдры. Твая рука на маім плячы, скура мякчэе,*
*пячэ. Ты выдзіраеш маё рабро, удыхаючы замест*
*паветра.*

**Пераклала са шведскай мовы**
**Надзея Кандрусевіч**

# Неба адчыненае



Мар'юс БУРОКАС (Літва)

**Ля возера Святое**

*Угне*

*чакаю*
*покуль вынырне з вады*
*светлая маленькая галоўка*
*заплюшчаныя вочы*
*тварык чырвоны*
*у зморшчынах*
*нібы наноў нараджаецца*
*нібы з усіх апошніх*
*ірвецца на паверхню*
*прагнучы гэтага*
*глытка свету*

*святла*

*невядомасці*

* *

*марнасць бяссілля —*
*ён паўтараў*

*— спёка як камень*
*прыцiснула горад*

*адрубіў*
*тыя словы*
*выцягнуў сухажыллі*
*сінтаксісу*
*выдраў косткі*
*фанемаў*

*трэскаецца*
*рэчаіснасць*
*мова*
*ломіцца ў горла*
*маланкай і болем*

*— каменне спёкі*
*прыцiснула горад*

*і толькі ў яго лабірынтах*
*на бойнях і могілках*
*у моргах, касцёлах*

*яшчэ прахалодна*

*мова*
*не працуе*
*мова астыла*

*бы кропля*
*на каменнай кладцы*

**Бязносая**

*касцянымі нагамі*
*грукае па брукаванцы*
*а пятае раніцы*
*як пісалі паэты*

*у дзяцінстве з ёй размінуўся*
*ляжаў*
*у шкляной шуфлядзе*
*выкрычаўшы*
*няглыткі і цёплы*
*кавалак душы*

*нічога не чакаў*
*нічога*
*не атрымоўваў*

*толькі самота*
*казённай вываранай*
*прасцінай*

*накрывала*
*прасцяг*

*такая легенда*
*так я прыйшоў*
*думаў так*

*так і памру*
*узбярэцца*
*рапуха*
*на сэрца прыпухлае*

*жмяк*

*бязносая*
*касцянымі нагамі*
*грыміць*

*паўз ліпень*
*паўз мур*
*паўз лета*

*у Вільні*

* * *

*У ветра прасторныя лёгкія. Выдзімае*
*праз мяса і косткі. Літары*
*каторыя больш не мае.*
*Не зачарпну іх жменяй*
*як апалонікаў. Пальцы больш не занываць*
*ад вадкіх словаў. Ані адбітку*
*няма на праталінцы. Ані голасу.*
*Ніхто не сакоча на сонцы*
*не завіхаецца пад каранямі. Не веру*
*табе. Больш не веру. І толькі вецер*
*шуміць. Перад тым як упасці*
*на зямлю. Раздзірае неба*
*рагамі, ламае яліны*
*зрывае дахі. Апошнім дыханнем*
*праз мяса і косткі*
*выдзьме*
*маю душу.*

**Фатаздымкі пісьменнікаў**

*спрабаваў раскусіць вас*
*глядзеў на твары*
*але насамрэч шукаў*
*не іхнюю таямніцу*
*шукаў сваю —*
*ці нешта нас звязвае:*
*лінія, нітка, струна*
*ці да нас дакрануўся*
*той самы палец*
*ці ўчасна ўзялі тую самую*
*чорную слухаўку ці*
*працяў нас выбух святла*
*калі ведаеш:*
*табе дадзена*
*табе падымаюць заслону*
*заслужана*
*ясна, заслужана*
*гэтая пастка*
*гэтыя веды*
*залежнасць*
*салодкая нецярплівасць*
*заслужана*
*на ўсіх тварах*
*адбіты той самы сумнеў*
*здзіўленне*
*нясмелая дзёрзкасць*
*няўпэўненасць*
*фанабэрыя*

**Пераклаў з літоўскай мовы**
**Андрэй Хадановіч**

# Успаміны магната



Карліс ВЭРДЫНЬШ (Латвія)

**Я**

*Калі я кантралюю дзейнасць сваіх унутраных органаў, то гэта яшчэ не значыць, што ў мяне іх зусім няма. Як і раней, печань, лёгкія і ныркі круцяцца вакол майго сэрца, палаюць і гараць.*
*Мноства малых зорак б'ецца ўва мне бліскуча, калыхаецца, падае. І тады я хвараю. У пакоі паволі змяняюцца святло й цемра. Адчуваю — шмат малых гарадоў круціцца вакол Рыгі і пішчыць, трасецца на марозе.*
*Штохвіліну я гублю вялізную колькасць энергіі ды цеплыні. Таму ў маіх прагненнях ты маленечкімі коламі круцішся вакол мяне.*

**Малітва**

*Любы Божанька, адбяры ў мяне здольнасць бачыць рэчы з абодвух бакоў! Кожную рэч я бачу круглай, нібыта зямны шар з вялікай адлегласці, бачу і разумею — не мне ж перашкаджаць паўнавартаснаму яе існаванню.*
*Любы Божанька, павылгладжвай мае дробныя складкі з мазгоў, высячы ў іх адну, але вялізную. Такую глыбокую, каб людзі з усяго Земгальскага прадмесця прыходзілі мацаць ейныя роўныя краі.*
*І ўрэшце, любы Божанька, загадай, каб я думаў добрыя думкі, такія, якіх людзі не стамляюцца чуць ніколі — хай буду ляжаць увесь дзень на пляскатым сонечным гадзінніку, глядзець на сонца і расказваць усім, якое яно яскравае.*

**Адказ**

*Мы атрымалі ваш ліст, але, на жаль, у дадзены момант нічога не можам абяцаць. Сітуацыя вельмі складаная, але мы па-ранейшаму спадзяемся на пазітыўнае рашэнне.*
*Аднак лічым сваім абавязкам вам паведаміць, што й вашае стаўленне не спрые канструктыўнаму супрацоўніцтву. Замест таго, каб высоўваць патрабаванні, вы маглі б быць ласкавыя і падтрымаць нас — мы таксама ўсяго толькі людзі, мы працуем без ежы і сну. Дашліце бочачку піва альбо колькі катлет. Альбо нешта такое, што падыходзіць для бартэру — напрыклад, літр крыві альбо якую мэблю мірных часоў.*
*Як толькі будуць якія навіны, пастараемся вам паведаміць. На жаль, не зможам патэлефанаваць, аднак дашлем ліст, калі толькі знойдзецца нехта, каб лізнуць марку.*

**Успаміны магната**



*У школу я хадзіў толькі чатыры зімы — трэба было дапамагаць бацькам, досыць вялікі гурт братоў і сясцёр, я хутка засвоіў усе работы. З рускай мовы перакладаў дэтэктывы, з англійскай — афарызмы.*
*Бацька заўсёды ўставаў на світанку. Калі маці на сняданне клікала, ён ужо меў цэлы адрэдагаваны ліст. Брат хадзіў па снезе сем кіламетраў да тэатра, пісаў рэцэнзіі. У старэйшай сястры слабы зрок, засталася незамужняй. Яна толькі гаспадарыла ўдома, пісала для ансамбляў тэксты песняў.*
*Да сівых гадоў бацька з маці сядзелі, запрэжаныя ў карэктуры, плячо ў плячо малявалі вокладкі кніг. Калі мае біяграфіі праваднроў пачалі прыносіць някепскія грошыкі, я купіў бацькам невялікі тыпаграфскі станок. Цяпер яны могуць перавесці дых — маці піша калядныя вершы, бацька смокча люльку і мудрагеліць над загадкамі крыжаванак.*
*Я гэта ўсё друкую ў сваёй газеце: у будня дні чатыры старонкі, па суботах восем, раз у месяц літаратурны дадатак, для падпісчыкаў штогод каляндар. Браты пішуць пра палітыку, народную гаспадарку, сёстры пра моду і жаночыя справы. Па вечарах мы ўсе сядзім за вялікім сталом, і паследка чытае нам бандыцкія раманы.*

**Казка пра трох парсючкоў**

*НІФ-НІФ СЯДЗЕЎ У ВІЛЬНІ*
*Ў САЛАМЯНЫМ ДАМКУ*

*НАФ-НАФ СЯДЗЕЎ У РЫЗЕ*
*Ў ПРУТКОВЫМ ДАМКУ*

*НУФ-НУФ СЯДЗЕЎ У ТАЛІНЕ*
*Ў КАМЕННЫМ ДАМКУ*

*А ЗА РОГАМ ЧАКАЎ ВОЎК*

**Успаміны ісландскай гаспадыні**

*Усялякія добрыя рэчы зямля выварагае са сваіх глыбіняў: рыбу, фуфайкі, верталёты, а часам і па нейкім вялікім бліскучым джыпе. Тады толькі падбягай і трымай пярэднік, тэлефануй Олафуру, каб прыйшоў і дапамог аднесці. Прыйдуць дзеці са школы, кожны сабе захоча найлепшага, натуральна, паб'юцца. Разлуюцца і нам яшчэ фыркнуць. Яны ж думаюць, што нам усё з неба падае.*

**Успаміны кандыдата ў члены Саюза савецкіх пісьменнікаў Латвіі**

*Набліжаецца дэкада мастацтва ЛССР у Маскве, а ў мяне няма ніводнога новага верша на тэму сельскай гаспадаркі. Гэтым разам трэба застацца дома.*
*Дый што я магу вам, таварышы, прапанаваць — мой час мінуў на сходах у абароне справы партыі, у кансультацыях і агітацыі. Вострую крытыку цалкам прымаю, далей індывідуалізм і ідэалізм больш не саб'юць мяне з панталыку.*
*А сёмай буду на месцы, панясем нацыянальную вопратку на вакзал. Перадавайце таварышу Жданаву сардэчныя вітанні! Сам я адпраўлюся ў калгас «Будучыня», буду піць малако з цёплых каровіных саскоў.*

**Пераклала з латышскай мовы**
**Анжаліка Дубасава**

# Па Робінгудаўскім сцэнарыі



Навум САНДАМІРСКІ

**Гісторыя, якая здарылася ў пачатку 50-х, звязаная з дырэктарам сталовай Сашам Падлішэўскім.**

Тым самым Сашам, які, будучы хутчэй маленькім, чым вялікім, на многіх прымудраўся глядзець зверху ўніз. Выключэнне — вышэйшае начальства, якое без усялякіх намаганняў вяртала яго ва ўлонне субардынацыі. З адказнымі работнікамі грамадскага харчавання яго рангу такое здаралася. Аляксандр усёй сваёй паўсядзённай дзейнасцю быццам узяўся перавесці ў разрад аксіёмы той факт, што недахоп шырокіх сувязяў рэдка бывае вузкім месцам яўрэя. Што калі працуеш у гэтай спецыфічнай сэрвіснай сферы, то любы новы, выразна арыентаваны кантакт можа істотна палепшыць і агульныя вытворчыя паказчыкі, і індывідуальныя магчымасці наведвальнікаў. Таму зарплату лічыў далёка не асноўным фактарам у сваёй кормазабяспечваючай дзейнасці. Меркаваў, што яе памер, не падмацаваны пэўным манеўрам, усё ператварае ў бескарыслівасць ленінскага камуністычнага суботніка.

А яшчэ Падлішэўскі, гэты сапраўды энергічны і талковы работнік, лічыў сябе вялікім гумарыстам і майстрам розыгрышу. Калі чалавек верыць у гэта, то пераканаць яго ў адваротным проста немагчыма. Вось і стараўся пры ўсякім зручным выпадку падтрымаць рэнамэ балакі і веселуна.

У чарговы раз гэтая аказія з'явілася ў выглядзе лагоднага і флегматычнага нарыхтоўшчыка Шалома Садурскага. Гэтакага Віні-Пуха, які ўмеў спаць на хаду. Або дзікенсаўскага хлопчыка, які здзіўляе ўменнем спаць нават пры выкананні абавязкаў.

Па-мойму, з-за паталагічнай ляноты ён нават галіўся праз два дні на трэці, падтрымліваючы на тварах стан рэдкай шчаціннасці. Зрэшты, іудзей пры любой яе гушчыні заўсёды рызыкуе заставацца «жыдкабародым». Хай даруе мне магчымы чытач за слоўны пасаж у духу члена таварыства «Памяць». Але хто ж яшчэ так пасмяецца з сябе, як гэта ўмеем мы самі?

Перш чым агучыць сутнасць гісторыі, заўважу, што я чуў яе з некалькіх крыніцаў. Кожны раз трошкі па-рознаму. Мабыць, калектыўная памяць — гэта калі ўсе памятаюць аднолькава дрэнна. І ўсё, што ўзнікае пад маім пяром, — свайго роду сярэднеарыфметычны варыянт.

Дык вось, аднойчы райспажыўсаюзаўскі пасьянс лёг такім чынам, што і Садурскаму, і Падлішэўскаму мелася камандзіроўка ў вёску пад назвай Старое Сяло. І як толькі апошні даведаўся пра гэта, то ў яго няўрымслівай галаве адразу нарадзіўся сцэнар магчымага розыгрышу.

За дзень да паездкі ў іх адбыўся такі дыялог. Дакладней, аднабаковы паток, у які зрэдку ўторкваліся выклічнікі санлівага Садурскага.

— Шалом, ты ведаеш, што такое Старое Сяло?

І пакуль суразмоўца на манер страўнікавага кадаўра пераварваў пытанне, сам жа на яго і адказаў:

— Падчас вайны тут стаяў невялікі нямецкі гарнізон плюс куча паліцэйскіх. Там жа антысеміт на антысеміце і антысемітам паганяе. Не ведаю, як табе, а мне трошачкі страшна. Хто ведае, як справа можа абярнуцца. Два габрэі для адной маленькай вёскі відавочна зашмат. Грыбы грыбочкамі, ягады ягадкамі, а асцярожным быць давялзецца.

На такую сур'ёзную заўвагу амаль рэактыўныя бровы Садурскага павольна варухнуліся. А Саша між тым паслядоўна ўзмацняў эфект.

— Нас там моцна не любяць.

— А ты мне скажы, дзе нас любяць, — выдыхнуў з сябе Шалом, што для яго па эмацыйным напале было раўназначна маналогу венецыянскага купца з аднайменнай трагедыі вялікага Шэкспіра.

— Любяць нас там, дзе нас няма.

— Значыць, не любяць нідзе.

— Так, але ў Старым Сяле, куды мы з табой паедзем, не любяць асабліва. І не дай Бог, каб мы гэта заўтра адчулі.

І ўжо ў момант агучвання цвёрда ведаў, што сам жа для гэтага зробіць усё магчымае.

Больш за тое, ужо сёе-тое зрабіў, звязаўшыся па тэлефоне з мясцовым прадаўцом Сцяпанам Цукерам.

Па характару паездкі меркаваўся начлег. А гэта абавязкова вячэра з багатай выпіўкай. І ўсё павінна было па падступным сцэнарыі Падлішэўскага здарыцца якраз падчас камандзіровачнай непатаемнай вячэры.

І здарылася... У той момант, калі яркія зоркі багата абсыпалі неба, а Шалом у думках дзякаваў горкаму самагону за тыя салодкія пачуцці, якія ён выклікае і будзіць, шкло ў вокнах ад рэзкага нечаканага ўдару рассыпалася. Затым, гэтак жа палахліва, пацярпелыя вокны раскрыліся, і хтосьці нема і пагрозліва закрычаў:

— Сцяпан, гэта ў цябе тут жыды кватаруюць? Зараз мы ім, гадам, морды начысцім. Надоўга Старое Сяло запомняць.

Прама скажам, такая рэдкая для людзей якасць, як адчайная адвага, не ўваходзіла ў лік многіх безумоўных добрых якасцяў Шалома. А паколькі ўчарашняе папярэджанне Падлішэўскага пасля некалькіх чарак выветрылася, той ад нечаканасці ледзь не зваліўся з трывала збітага зэдліка. Звычайна па-індзейску чырванаваты твар мімікрыраваў, цалкам зліўшыся з колерам нядаўна пабеленай сцяны.

Куды ўжо яму было заўважыць, як дзіўна і весела заблішчалі вочы сябра сталовых і рэстаранаў. Ну, прама табе Матросаў перад кідком на варожы дзот.

— Шалом, спакойна! Я з табой, і проста так мы ім не здадзімся.

> **Два габрэі для адной маленькай вёскі відавочна зашмат. Грыбы грыбочкамі, ягады ягадкамі, а асцярожным быць давядзецца**

У лёгкага дыхання і цяжкага ўздыху адзін і той жа кісларод. Але ў гэты, мякка кажучы, няпросты для Садурскага вечар яны дыхалі па-рознаму. Яшчэ раз надрыўна крыкнуўшы: «Я з табой, Шалом!», ён кінуўся з пакоя. А ў сенцах, зноў жа па папярэдняй змове з гаспадаром Цукерам, выпацкаў сябе свіной крывёю з невялікай міскі. Якраз учора закалолі кабана, і яго ахвярная плазма стала адным з элементаў жорсткага розыгрышу.

На некалькі хвілінаў змярцвелы ад пранізлівага жаху Садурскі чуў гукі нейкай бойкі, крыкі, узаемныя пагрозы, грукаценне розных рэчаў.

І толькі пасля некаторай паўзы неяк занадта пераможна, нібы высакародны рыцар на белым кані, у дом уляцеў перапэцканы крывёю Аляксандр (так і хочацца сказаць Македонскі). Але, на жаль, гэта быў усяго толькі Падлішэўскі, які выглядаў, як Робін Гуд пасля кароткай, але жорсткай сутычкі з нарманскімі заваёўнікамі. Заступнік сірот і пакрыўджаных. А кожнае слова, якое зрывалася з яго вуснаў, зноў вяртала Шалома да жыцця. Ён рэагаваў не столькі на сэнс, колькі на інтанацыю. Яна ж была пераможнай і абнадзейлівай.

— Шалом, ты выратаваны! Цяпер яны будуць ведаць, з кім маюць справу. Што голымі рукамі нас не возьмеш — мы ўмеем сябе абараніць.

Абагульняючае «мы» менш за ўсё мела на ўвазе Шалома, а складала ў сабе абагульняючы вобраз усіх сыноў Ізраілевых. А можа, нават і дачок. У моманты афектацыі, як гэта ўжо бывала не раз, Саша Падлішэўскі думаў глабальна.

Усё, што адбываецца на гэтай грэшнай зямлі, вагаецца ад боства да ўбоства. І ў тым, хто ёсць хто ў гэты момант, загадчык мястачковай сталовай не сумняваўся.

Па рэакцыі «выратаванага» няцяжка было меркаваць, што ў гэта верыць не толькі Падлішэўскі, які раптам узнёсся ў маштабах да выратавальніка прыніжаных і абражаных.

І толькі значна пазней, выпадкова даведаўшыся пра сапраўдную падаплёку таго, што адбылося ў той жнівеньскі цёплы вечар, Падлішэўскі ў вачах Шалома набыў былыя рэальныя памеры. Яны раптам сталі вельмі зямнымі і сціплымі.

У цэлым жа на характар добрых адносінаў усё гэта істотна не паўплывала. Недзе ўсярэдзіне ў нарыхтоўшчыка драмала паблажлівая і не самая дурная душа, здольная адрозніць гульню ад злога намеру. Апошнім жа тут і не пахла. Хоць сюжэт сапраўды атрымаўся некалькі жарткаватым. Ён жа прадыктаваў і рэжысуру.

**Пераклад з рускай Алы Яцковай**

# Пра кнігу прозы «Пагоня за Музай» Людмілы Андзілеўка

**Любы твор мае сілу, калі чытач не можа адарвацца ад яе або калі стараецца адмахнуцца, бо тая ўзбуджае ў ім нейкі неспакой, страх, быццам дзьме з яе мастацкі вецер, які не гладзіць, менавіта, яго.**

Я адразу прыклеілася думкай да персанажаў згаданай у загалоўку кнігі з таго моманту, калі галоўны герой (Мужчына) «раптам рэзка падхапіўся», і «аўтобус крутануўся «на пяце». Далей адчуваю, што раблюся ўсмешкай на словах: «кар'ера... выпускніка (Пасла) узбрыкнула маладой жарobкай». Але ніжэй знаходжу ў сабе спачуванне: жыццё героя павярнулася так, што «раптам усё — пад адхон».

Сюжэт увабраў сучаснасць: Жанчына трапляе працаваць на базу Мужчыны, які займаецца бізнесам. Ён скупляе хаты, дамкі... Імкнецца зрабіць у іх рай, каб зарабляць прыбытак ад кліентаў — аматараў вясёлага адпачынку. Тут сапраўды збіраюцца разам так званыя сябры, паплечнікі з высокапастаўленага круга і розныя іншыя, здольныя аплочваць. А мару будаўніцтва кожны дзень спрабуюць ажыццявіць яго такія-сякія работнікі... Мужчына сабраў іх сюды з розных дарог, прырос да іх і яны да яго. Але «ў блот» страшэнна ідзе праца. Сённяшкладваюць нешта, будуюць. Заўтра разбураюць — усё не так атрымліваецца: псуецца, рушыцца, гніе. Ці гэта ад пітва, ці пітво ад гэтага, і лянота, абыякавасць, бяссілле. Дык чаму?..

Чытаю... смешна, ды больш сумна. Рэзрух. Няздобрая вольніца. І людзі на дне. Няма надзеі на заўтрашні дзень. Ні ў такіх наведвальнікаў, як Пасол, ні ў гэтай чарнечы разнахарактарнай. Ды ўжо, мабыць, і ў тых, хто тут во — «важныя, імпазантныя, халёныя мужчыны...у фатэлях»? Бо Жанчына ўлавіла іхнюю асцярожнасць: «вялі ледзь чутную гамонку».

Пісьменніца персанажам то спачувальныя, то з'едлівыя характарыстыкі. Малюе быт, сустрэчы, гульбы-забавы, як, напрыклад, «вышэйшыя пілатаж» над шашлыкамі, які «арганізоўвае» Міша.

Загаловак твора «Пад мастом» трапна раскрывае тут ідэйную думку. «Усе мы — пад мостам», — кажа Жанчына Сяргею. Кожны дзень (адзін за другім) выяўляе суцэльнае разбурэнне душы і ўсяго, што аператыўна спрабуе будавацца ўсімі хворымі работнікамі і самім Гаспадаром.

У творы — падрабязнасці, і яны матыўна нязменныя, што крыху тармозіць жаданне чытаць далей. Аднак жа дэталёвасць усё новая і новая, дык цягне зазірнуць: што і хто там зноў з'явіцца?..

Відавочна, што такая аповесць спісвалася «з жыцця». Аўтарка (праз Жанчыну) разглядае характары, паводзіны людзей, акалічнасці распаду гаспадаркі Мужчыны (так яна яго называе ў творы, яшчэ і — Гаспадар). Тут без напругі пяра ўсё кладзецца на паперу, то камічным, то трагічным бокам.

Іншы творчы строй у аб'яднаны загалоўкам нізцы «Пагоні за Музай», дзе вобразы збіральныя. Захапляльна пакладзены на паперу і падарожныя ўспаміны ад наведання Аўстрыі — «Warum nicht?».

Увогуле, кніга напісана смела, адметным мастацкім почыркам. Яна надзённая, напорыстая. Прываблівае сціплая вокладка: на ёй, дарэчы, малюнак самой Людмілы Андзілеўка. Жаночая кволая постаць у лёгкім адзенні, прадзімная снежным ветрам, пад чорным парасонам. Як бы прыкрылася смуткам сваім. У няспрыяльным надвор'і яе падарожжа. А трэба ісці.

Людміла Андзілеўка — лятучы эмацыйны думнік. Рашучы. Замалёўвае і пэндзалем, і пяром. Яна гарачая ў парывах выказвання. Мабыць, ад балючай праўды, ад творчых жаданняў, ад прагі адлюстравання і, часам, ад фантазіі. Але яна — за Беларусь беларускую. І мае да пяра несумленны творчы неспакой.

І з-пад пяра: тое, што так трывожыць грахоўны свет і штурхае замоўчваць прыземную хваробу.

**Марыя Баравік**

# Быць пачутым

**Кніга прозы Уладзіміра Даніленкі «Клетка для івалгі» ў перакладзе на беларускую мову… Прачытанне яе выклікала жаданне бліжэйшага знаёмства з жыццёвай і творчай біяграфіяй аўтара.**

Пісьменнік нарадзіўся на Жытоміршчыне напрыканцы 1950-х у сяле Туравец. Меў, як ён сам згадвае, з дзяцінства здольнасці апавядальніка розных гісторый і небывальшчыны і ўжо з маладосці быў пэўны, што стане літаратарам. Сям'я, вёска, яе насельнікі ды акаляючая прырода і сталі правобразамі пераважнай большасці яго твораў. Пісьменнік змяняў імёны, твары, учынкі блізкіх і знаёмых людзей — рамантызаваў ці метафарызаваў іх у стылі барока альбо ствараў для іх экзістэнцыянальныя варункі і сітуацыі — аднак для чытача пакідаў памятлівыя душэўныя і духоўныя праявы іх характараў і натуральную адпрыродную сутнасць. Па вялікім рахунку яго творы пэўным чынам з'яўляюцца міфалагізаваным мастацкім летапісам свайго роду і рэгіянальнай гісторыяй ад мінуўшчыны да сённяшніх дзён.

Выдавацца У. Даніленка пачаў даволі позна, толькі ў 1997 годзе выйшла яго першая кніжка, праўда, ужо наўслед ёй у хуткім часе пабачылі свет з дзясятак ягоных выданняў, якія былі прыхільна ўспрынятыя і чытачамі і крытыкай, а паасобныя з твораў перакладаліся на нямецкую, італьянскую, японскую, славацкую, польскую, рускую і, неадназова, беларускую мовы, а сам пісьменнік быў уганараваны шмат якімі прэміямі…

Безумоўна, пішучы пра гэтую яго кнігу, выдадзеную ў Беларусі, найперш трэба прыпыніцца і прааналізаваць аднайменны раман «Клетка для івалгі». Гэты па-мастацку яркі і вылучны на фоне іншых твор варты асобнай гаворкі. Пачатак яго як бы нічога захапляльнага не прадвяшчае. Падлетак прыязджае ў Жытомір са свайго прыгараднага сяла, каб з'есці марозіва, суправаджаючы маці ў паходах па крамах і базарах. Зрэшты ён і патрэбны толькі як сведка таго, чым маці займалася ў горадзе. А яна ў яго арыгінальная, і, маючы талент спявачкі, бы паднебная птушка, пачынала спяваць як толькі адчувала прыліў натхнення. Вось і ў Жытоміры яна раптам заспявала, ідучы па вуліцы, ды так, што яе дзіўны голас пачуў праз адчыненае вакно стары дысідэнт Мікалай Хамічэўскі, вядомы перакладчык Гамера і антычнай літаратуры. Ён кліча маці з падлеткам у хату і пачынае даводзіць і ўпэўніваць бібліятэкарку з Тураўца Аліну Іванюк, што яна мае неардынарны голас і вялікі грэх не даць яму праявіцца… Такая сюжэтная раманная закрутка. Просценькая як бы, аднак і яна ўжо інтрыгуе чытача, бо ён губляецца ў здагадках: ці то такія людзі былі насамрэч, ці то ўсётакі гэта героі, прыдуманыя аўтарам. Скажу адразу, што такое адчуванне будзе суправаджаць чытача цягам усяго рамана. Пісьменнік вельмі адмыслова закручвае сюжэт і так жыва падае чалавечыя характары, што яны набываюць рэчаісную сапраўднасць і разам з тым не страчваюць сваёй патаемнай аўтарскай вобразнасці…




**Чытач патрапляе пад гіпноз аўтарскай лінгвістыкі, і яму нічога іншага не застаецца, як застыць і рабалепна слухаць слоўны салаўіны спеў аўтарскага краснага пісьменства**

Вось як сам аўтар напрыканцы твора выспаведае ўласную задуму твора: «Мой аповед — гэта ўспаміны пяцідзесяцігадовага мужчыны пра падзеі, якія адбыліся трыццаць пяць гадоў таму, у якіх шмат дробных дэталяў забылася, а тое, што захавалася ў памяці, успрымаецца ўжо не як драма, а як біяграфіі блізкіх мне людзей, якіх ужо няма на гэтым свеце. Усе нашыя ўзлёты і падзенні — гэта частка нас саміх. З часам мяняецца нашае стаўленне да няўдач і страчаных шанцаў. Калі б мы трымалі ў сабе горыч кожнай паразы, то даўно атруціліся б жыццём, але памяць мае здольнасць сціраць усё, што нас абцяжарвае і траўмуе. І гэтая ахоўная ўласцівасць памяці дапамагае скінуць пачварны горб няшчаснага мінулага, каб не цягнуць яго ў будучыню».

Пісьменнік па-майстэрску ўмела і трапна ўводзіць у кантэкст твора новых герояў і, не баючыся творчай паразы, смела і жарстліва вымалёўвае іх вобразы і ўжо прызабытую панараму позняга савецкага часу. Хамічэўскі, захапіўшыся дарам вясковай спявачкі, хоча дапамагчы ёй выйсці на вялікую сцэну. Аднак для гэтага патрэбны рэпетытары і новыя знаёмствы. І вядома, што ў старога дысідэнта знаёмцы і таварышы таксама ў большасці сваёй іншадумцы. Так гераіня рамана патрапляе ў асяроддзе тадышняй інтэлектуальнай жытомірскай нацдэмаўшчыны… Усе яны, ад такіх трагічных арыгіналаў, як Гэнё Бакалец і Яўген Канцэвіч да паэта-сексота Аксена Вахабы, выпісаны адметна і запамінальна ва ўсіх сваіх характэрных праявах. Некаторыя героі (прадстаўнікі культуры і літаратуры ды людзі з запатрабаваным інтэлектам) маюць сваіх прататыпаў, сапраўдныя імёны, даты жыцця і смерці якіх падаюцца аўтарам у зносках… Аднак, як вядома, дысідэнцкае жыццё нават на волі заўжды было пад прыглядам органаў. Хоць самі гэбісты паказаны даволі іранічна, а часам камічна і ў пераважнасці людзьмі недалёкімі і абмежаванымі. Што не перашкаджае ім па-езуіцку знішчаць, прыкрываючыся тым ці іншым збегам абставін, апанентаў бальшавіцкай дагніваючай улады. Сама Аліна Іванюк жыве з мужам-вайскоўцам, які служыць механікам у авіяцыйным палку. Ён па сваёй натуры чалавек тэхнічны і вынаходлівы, але так захоплены сваёй справай, што не звяртае асаблівай увагі ні на адоранасць жонкі, ні на выхаванне дзяцей…

Жыццё ў ваенным гарадку інтэрнацыянальнае. Спакойнае, міралюбнае, таварыскае, шмат частых гасцяванняў і сумесных гулянак… Ды ўсё тое канчаецца вельмі раптоўна — як толькі гэбэшнікі засвечваюць Аліну ў стане дысідэнтаў, ворагаў улады, і даюць своеасаблівую каманду «фас». І тады імгненна рассыпаецца сяброўства, давер і інтэрнацыянальная спаянасць. Адразу рэзка пераменьваецца і праяўляецца імперскі характар рускіх людзей… хіба апроч аднаго чалавека, лётчыка Максіма Корсака, які выратоўвае Аліну ад бандыцкага гвалту паблізу танцавальнай пляцоўкі ў жытомірскім парку. Тэма кахання Аліны і адзінага адшчапенца з усёй гарнізоннай кампаніі зведзена ў рамане да мінімалізму, але панад драматызмам іх неафішаваных адносін у творы пастаянна гучыць тонкая знітаванасць чалавечай прыроды з усім, акаляючым яе, Боскім Тварэннем. Корсак неўзабаве здзяйсняе адчайны грамадзянскі акт, пераляцеўшы на ваенным самалёце ў Еўропу, атрымлівае там палітычны прытулак і пераязджае на пастаяннае жыхарства ў ЗША. Але і там яго дастаюць служкі карных савецкіх органаў. Ён гіне ў адмыслова падробленай аўтакатастрофе… Аліна ўнутрана і на псіхалагічным узроўні адчуўшы яго гібель, таксама страчвае сваю асобасць — голас, а разам з ім і прагу да жыцця…

Але ж які быў яе шлях да вялікай сцэны? Ды не сказаць, каб надта цярністым, бо талент, як кажуць, сам гаварыў за сябе. Голас яе, як дух (бо дар жа быў Божы), лунаў па-над усім створаным у рамане: «Мне падалося, што яна ў гэты час ператварылася ў звар'яцелага салаўя, які так азартна спявае, што не можа спыніцца. Яе голас выцёхкваў, пераліваўся, узлятаў угору, падаў і, як у клетцы, біўся ў сталінцы Адэліны Цыбульскай, напаўняў кожны закутак, выпырхнуў на Тэатральную і растварыўся ў нябеснай вышыні, а потым сарваўся з нябёсаў, упаў на зямлю, цёхнуў і замоўк».

Пісьменнік не баіцца гіпербалізацыі, празмерных эпітэтаў і напышлівай метафорыкі. Ён пяе прыўласненым мастацкім словам разам са сваёй гераіняй — дзівіць, зачароўвае і захоплівае сваёй паліфоніяй чытача. Ёсць месцы ў рамане, дзе чытач патрапляе пад гіпноз аўтарскай лінгвістыкі, і яму нічога іншага не застаецца, як застыць і рабалепна слухаць слоўны салаўіны спеў аўтарскага краснага пісьменства.

Зрэшты, як кажа сама Іванюк Гэню Бакальцу: «Калі чалавеку дадзена спяваць, маляваць або пісаць, то ён павінен рабіць гэта, каб не звар'яцець і памерці. Закладзены ад прыроды творчы інстынкт прымушае чалавека яго развіваць, каб быць у гармоніі з сабой і светам. У жывёлаў гэтага інстынкту няма. Птушкі спяваюць у шлюбны перыяд ці каб вызначыць спевам сваю тэрыторыю або падаць сігнал трывогі. Чалавек спявае, каб вярнуць свету гармонію, якая была калісьці ім страчана».

Аднак жа пасля выклікаў у органы дзяржбяспекі, пасля дзіўнай гібелі некаторых дысідэнтаў, пасля імперскасці і адчужэння з былым гарнізонным інтэрнацыяналам, пафігізмам мужа і крытычных стаўленняў дачкі, яна ўсё ж пачынае плысці па волі лёсу (Бога) — вяртаецца да сваёй Прыроды і на сваю туравецкую прыроду, дзе яна можа па-сапраўднаму выпусціць свой голас на волю, каб яго мог пачуць той, каму ён патрэбны, каго ён цешыць і суцішае ў гэтым неадназначным драматычным зямным жыцці…

Падвышаюць градус неаслабнай чытацкай увагі і роздуму і тыя, можна сказаць, самастойныя раздзелы рамана, якія маглі б быць і паасобнымі творамі, дзе аўтар звяртаецца да рэтраспекцыі і вяртае нас успамінамі Хамічэўскага, які адбываў лагерны тэрмін, да трагічных падзей сталінскіх трыццатых гадоў. Рэч пра цынізм і антычалавечнасць нкусаўцаў нават у пытаннях інтымнага парадку. Скажам, раздзел «Муштук Ягоды». Сталінскі міністр НКУС хоча стварыць сістэму канцлагераў і прыцягнуць да гэтага вядомага псіхолага Камарніцкага, якога хоча пераканаць у сваіх езуіцкіх ідэях…

Прафесар не пагаджаецца і… адпраўляецца па этапе. Ягода, паказваючы сваю поўную жывёльную сутнасць, загадвае з косці рукі забітай ім літоўскай дзяўчыны, якую ён так і не змусіў стаць сваёй палюбоўніцай, вырабіць муштук…

Устаўлены ў раман і расповед пра закаханасць начальніка лагера Ларыёна Пугаўкіна да Ганны Тэмей, жарстлівыя любоўныя лісты да якой ён змушае пісаць зняволенага Пятруся Хаджыя, з разлікам, што дзяўчына з украінскага месца Ворзель прыедзе на Калыму да Пугаўкіна. Яна і напраўду прыехала, спакусіўшыся такімі адмыслова напісанымі лістамі… і там жа знайшла смерць разам з Хаджыям…

Падобным чынам забівалі амаль усіх творчых таленавітых людзей, якія не пагаджаліся з ідэямі бальшавізма і не хвалілі сваіх поглядаў. Аднак нельга казаць, што адмысловы і майстравіты пісьменнік пакідае свайго чытача ў такім адчайным расчараванні. «У гісторыі не бывае дробязяў. Кожны амаральны ўчынак можа стаць некалі фатальным для вёскі, горада ці краіны. Гэта краіна рухаецца ў прорву, калі знішчае такіх, як вы, Аліна. Кожнае зламанае чалавечае жыццё, знішчаны талент точыць непахісныя сцены турмы, пакуль яны не разваляцца», — кажа адзін з герояў рамана дысідэнт Яўген Канцэвіч.

Яшчэ ў кніжцы «Клетка для івалгі» змешчана аповесць і пяць выбітных арыгінальных апавяданняў У. Даніленкі. Чытэльную і забаўную аповесць «Цені ў маёнтку Тарноўскіх», на першы погляд прымітыўна-праставатую, як самі чалавечыя інстынкты, але і прыцягальную нейкай унутранай загадкавай наспяваючай метафарычнай жарсцю, за якой, бы начная жаночая бялізна, зазыўна мільгаецца код нацыянальнага і фізічнага выраку чалавека. Тэкст з сексуальнай і эратычнай падкладкай і нетрадыцыйнымі метадамі псіхатэрапіі, як кажуць, для вельмі шырокай публікі. Апавяданні Уладзіміра Даніленкі вылучаюцца нечаканай фактурай і жывым сюжэтным дзействам. Тут сутнасная зямная прырода — жывая і неадушаўлёная — прагне гармоніі з чалавекам. Духоўнае жыццё імкнецца да раўнацэннасці з жыццём фізічным… На жаль, як і паўсюль, не толькі ў гэтай кнізе, але і наяве, такая мастацкая і творчая пажада цэрпіць паразу. Праўда, не канчаткова, а тую, што пакідае чалавецтву спадзеў на новыя вымогі да абсалютнага ідэалу і боскай дасканаласці… Асабліва займаюць чытацкае ўспрыманне такія тэксты, як «Заяц» і «Грыб», напісаныя, кажучы словамі М. Гумілёва, «шостым пачуццём»…

Падводзячы рысу пад вышэй напісаным, скажу, што ўкраінскі пісьменнік Уладзімір Даніленка дужа таленавіты і выбітны майстра мастацкага слова, творца нацыянальна заангажаваны, філалагічна глыбокі і псіхалагічна тонкі як лірык, з выпукла-адметным інтэлектам, з набытай праз немалы жыццёвы вопыт высокай духоўнай культурай… ну і, вядома, у гэтым канкрэтным выпадку, з прыкупам адчувальнага майстэрства беларускіх перакладчыкаў (Б. Пятровіча і В. Стралко), бо перанесці такія высокамастацкія каларытныя гамы ўкраінскага літаратурнага голаса на беларускую партытуру — праца вартая чытацкай павагі і ўдзячнасці.

**Леанід Галубовіч**

# «…Думайма, браткі-беларусы, думайма!»

**У серыі «Кнігарня пісьменніка» ў 2015 годзе выйшла новая кніга эсэістыкі Народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча «У віры быцця», у якую ўвайшлі запісы розных гадоў, кожны з якіх прасякнуты бязмежным болем за лёс роднай мовы, культуры і літаратуры.**

Кнігу Ніл Гілевіч адкрывае балючай фразай: «Для навукі беларуская мова не гадзіцца!» — А для чаго гадзіцца? — пытаецца аўтар. — …У часы Скарыны і Буднага — гадзілася, а сёння ўжо — не!.. І нагадвае «ўсім, у каго ёсць сумленне… адзін «дробязны» факт: «Калі гарэлі беларускія вёскі з жывымі людзьмі — з агню-полымя даляталі жудасныя (больш жудкіх не бывае) крыкі: «Ратуйце!» Не «спасите!», а ратуйце!».

Клопат аўтара аб тым, каб кожны беларус ведаў сваю гісторыю, яе трагічны лёс, яе духоўную і матэрыяльную культуру, мастацтва, народную творчасць. Каб кожны беларус ведаў, што мы — ліцвіны, што ВКЛ — сярэдневяковая беларуская дзяржава, у склад якой уваходзіла Жамойція (сучасная Летува) і вялікая частка Украіны; ведаў, што на ліцвінскай мове (старабеларускай) пісалі Скарына, Будны, Цяпінскі і іншыя нашы асветнікі, што менавіта старабеларуская мова была дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім, што нашу крывіцкую Вільню «людажэр Сталін у канцы 1939 года аддаў летувісам». Кожны беларус павінен ведаць пра пераможную для беларусаў-ліцвінаў і страшную для маскоўскага цара бітву пад Оршай 1514 года, што беларусамі мы сталі называцца па ўказу Кацярыны II. Вось цытата з названага ўказа, якую прыводзіць Ніл Гілевіч: «…Великое Княжество Литовское впредь именовать только Белой Русью, народ её белорусами, чем на века привяжем её к России. Замирить Белую Русь силой невозможно. Эту миссию мы возложим на русского чиновника, русского учителя, русского попа. Именно они отнимут у белоруссов не только их язык, но и саму память про самих себя» (1796).

Яшчэ ў XVII стагоддзі цар Аляксей Міхайлавіч загадаў сваім ваяводам спаліць «книги литовской печати», гэта значыць, выданні Скарыны і яго паслядоўнікаў. У 1854 годзе Расійская Акадэмія Навук праігнаравала праект беларускай граматыкі Ксаверыя Нядзвецкага. У 1930-ым адбыўся «разгром Беларускай Акадэміі навук, пасля якога яна ўжо ніколі не будзе беларускай», з болем адзначае Ніл Гілевіч. А ў ліпені 1995 года з вышыні ААН прагучала: «…Зараз у цэлым выглядзе, у адзінстве ўсіх праяўленняў беларуская нацыянальная культура, па сутнасці справы, не існуе». «І ў такой сітуацыі, — піша аўтар, — правялі пагібельны для беларускай мовы рэферэндум». Праца па прыняцці «Закона аб мовах» у 1990 годзе, клопат аўтара аб жыццядзейнасці гэтага Закона — перакрэслены.

Ніл Гілевіч гаворыць фактамі, датамі, лічбамі. Душой і сэрцам! Пры царызме, пры паляках і пры саветах з беларусаў выбівалі іх нацыянальную адметнасць: паслядоўна, мэтанакіравана — усімі сродкамі. «Шанцуе ж некаторым!..» — са скрухай ускліквае аўтар кнігі, калі ўзгадвае Прэзідэнта Францыі Жоржа Пампіду, які склаў «Анталогію французскай паэзіі», у якую прэзідэнт уключыў тыя вершы, без якіх «не мог бы жыць, калі б воляй нейкай фантазіі апынуўся на бязлюдным востраве» (запіс 1971 г.)

Ніл Гілевіч даводзіць нам, колькі шкоды нарабілі «ўвішныя невукі», такія, як Алесь Кучар («20-гадовы шпінгалет», «зялёны невук»), які замахнуўся на творчасць выдатнага майстра слова — самую вялікую надзею тагачаснай беларускай літаратуры — Кузьму Чорнага. А. Кучар у часопісе «Маладняк» (№ 1 за 1931 г.) апублікаваў артыкул «Пра адну рэакцыйную аповесць» («Лявон Бушмар»), якім запісаў Чорнага ў контррэвалюцыянеры. У іншым запісе Ніл Гілевіч адзначае, што

**З самага пачатку свайго творчага шляху Народны паэт нясе крыж абаронцы ўсяго нацыянальнага, беларускага, крыж Асветніка**

наша нацыянальнае няшчасце ў тым, што лепшых натраўлялі на лепшых. Пятро Глебка апублікаваў пра Адама Бабарэку артыкул «Нацдэмаўшчына, замаскаваная марксысцкай фразай» («Узвышша», 1931, № 2)…

З вялікай павагай успамінае Ніл Гілевіч сапраўднага рускага інтэлігента Уладзіміра Іванавіча Пічэту, прафесара, першага рэктара БДУ (1921), які горача далучыўся да беларусізацыі, абавязаў выкладчыкаў усе лекцыі чытаць па-беларуску і сам падаў прыклад. Узгадвае «знакавыя постаці» братоў Гарэцкіх, якія злу і подласці маглі супрацьпаставіць «толькі культуру, толькі сумленнасць, толькі высокасць духу, толькі маральныя пераканaнні і прынцыповасць»; узгадвае Купалу-прарока і сцяганосца беларускага нацыянальнага Адраджэння, у творчасці якога «нязмоўчна крычыць боль і гнеў знявечанай, растаптанай душы беларуса»; Цішку Гартнага (Зміцера Жылуновіча), першага кіраўніка першага Савецкага ўрада Беларусі (студзень 1919), якога ворагі Беларусі і



беларушчыны «з'елі жывога». Ніл Гілевіч прызывае: «Дык жа задумаемся, браткі! Што мы дазваляем з намі, нашай мовай і культурай, рабіць? Дзе наша нацыянальная годнасць?..»

Хвалюе Народнага паэта Беларусі і правапіс. Ён адзначае, што рэформа беларускага правапісу 1933 года «сцёрла каля 30 істотных асаблівасцяў беларускай мовы». І рабілася гэта з мэтаю, каб «знішчыць бар'ер, які аддзяляе беларускую мову ад рускай». Ніл Гілевіч не бачыць аб'ектыўных падстаў для ўвядзення ў мову «ля-лё-лю» — у жывой мове яны адсутнічаюць. Горкае засмучэнне выклікае ў аўтара скасаванае некалі каланізатарамі-паланізатарамі спрадвечнае поўнагалоссе. Гілевіч-вучоны абгрунтоўвае, чаму трэба вярнуць гарадам іх першапачатковыя назвы: Менск, Горадня, Берасце, Навагрaдак, Каралеўшчына, Амсціслаў, Мёры і інш. Гілевіч-педагог не можа заставацца раўнадушным, калі з экрана беларускага тэлебачання дыктары і каментатары штовечар паўтараюць: «Дзякую ўсіх за ўвагу…»…

Знішчэнне беларускай мовы ідзе перш за ўсё па дзяржаўнай лініі. Яна выцясняецца другою дзяржаўнаю моваю — рускаю. Адсюль збядненне мовы літаратуры, тэлебачання, радыё, газет, часопісаў. Ніл Гілевіч ні ў якім разе не пагарджае рускай моваю. Але ж, каб захаваць нацыянальную адметнасць, нам патрэбна свая мова, беларуская. Роспачны крык «прыроднага славяніна» больш за паўстагоддзя гучыць над Беларуссю: «О, пракляцце! Ва ўсіх сферах жыцця, па ўсіх лініях усё робіцца для таго, каб беларускі народ усё больш траціў сваё ўласнае этнічна-нацыянальнае аблічча…» Пры ўсім гэтым цепліць Ніл Гілевіч і надзею. І ў гэтай надзеі ён радуецца і сумуе.

З самага пачатку свайго творчага шляху Народны паэт нясе крыж абаронцы ўсяго нацыянальнага, беларускага, крыж Асветніка, на сваю Галгофу толькі з адной мэтаю: абудзіць нацыянальную самасвядомасць беларусаў.

Тэматыка кнігі «У віры быцця» шырокая, у ёй чытач можа знайсці яшчэ многа цікавага для сябе. Адно нам трэба помніць: «Памрэ мова ў вуснах народа — памрэ і народ».

«Дык думайма, браткі-беларусы, думайма!» — заклікае Ніл Гілевіч.

**Тамара Аўсяннікава**

# Кніга ўспамінаў Віктара Шведа

**У прадмове да першага тома ўспамінаў Віктара Шведа Віталь Луба назваў кнігу «цаглінкай у гісторыю беларушчыны ў Польшчы».**



Гэта том успамінаў «З Мора ў горад» (Мора — родная вёска Віктара Шведа). Ён выйшаў з друку дзякуючы Праграмнай радзе беларускага тыднёвіка «Ніва» ў Беластоку.

Віктар Швед быў знаёмы з Канстанцыяй Буйло, аўтаркай радкоў «Люблю наш край, старонку гэту…», з мастаком Пятром Сергіевічам, аўтарам знакамітых карцін «Усяслаў Полацкі», «Кастусь Каліноўскі аглядае паўстанцаў», «Скарына ў друкарні». Віктар Швед сябраваў з Марыяй Корсак, Міхасём Забэйдам-Суміцкім, Станіславам Казурам, Максімам Танкам, Уладзімірам Караткевічам і многімі-многімі іншымі вялікімі людзьмі Бацькаўшчыны.

Вельмі цікава чытаюцца першыя чатыры часткі кнігі «У адроджанай краіне», «У другую сусветную», «Час трывогі і надзей», «Мая сям'я». Лёс аднавяскоўцаў і сям'і Віктара Шведа — гэта лёсы ўсіх беларусаў, асабліва Заходняй Беларусі. Праўдзівасці ўспамінам надаюць здымкі, якімі файна аздоблена выданне.

Асобамі незвычайнай індывідуальнасці назваў Віктар Швед у кнізе Васіля Белаказовіча, Пятра Ластаўку, Кастуся Майсеню, Мар'яна Пецюкевіча, Янку Жамойціна, Янку Гуцьку і Міколу Гайдука — беларускіх дзеячаў у Польшчы. З захапленнем я прачытаў пра Пятра Ластаўку і яго прамыслова-гаспадарчую фірму «Бэтэска».

Пішучы і ўспамінаючы пра яшчэ аднаго беларускага дзеяча ў Польшчы, Кастуся Майсеню, Віктар Швед ахарактарызаваў яго найлепшымі эпітэтамі і параўнаннямі: «Кастусь Майсеня ачараваў мяне сваёй незвычайнай індывідуальнасцю. Уражваюць такія яго якасці, як працавітасць, праўдзівасць, непакорнасць, — праца для іншых, а не для сябе. Такія людзі нават у капіталізме ніколі не ўзбагацяцца матэрыяльна. Бескампрамісны змагар за беларускасць, за родную мову, за незалежнасць сваёй айчыны Беларусі…».

Успамінаючы Мар'яна Пецюкевіча, аўтар кнігі прыгадвае, як сустракаўся з ім у Торуні і як той распавядаў, што ў адным з калгасаў далёкага Ужурскага раёна Расіі працаваў пчаляром і як пчолы проста ратавалі чалавека ад ГУЛАГу, бо Мар'ян «выпускаў працавітых пчолак з вулляў, размаўляў з імі, а яны працавалі ад усходу сонца да позняга вечара»…

Ёсць у кнізе і шчымлівы раздзел «Сустрэчы з землякамі». Спынюся на адной сустрэчы, на адной асобе, якую сёння амаль не прыгадваюць у Беларусі. Гэта — таленавіты паэт, празаік, перакладчык, даследчык беларускага тэатра Яўген Міклашэўскі з вёскі Лыскі, што на Беласточчыне. З ім шчыра сябраваў Віктар Швед. А ў 1989 годзе спадар Віктар запрасіў Яўгена на Беласточчыну, бо дужа той хацеў адведаць свае родныя Лыскі. І вось Яўген Міклашэўскі на малой бацькаўшчыне. Пакінутая старая хата Міклашэўскіх дажывала свой век. «Яўген заплакаў па страчанай радзіме, і нават не хапіла ў яго сілы, каб пераступіць парог роднай хаты і заглянуць у яе нутро. Стаяў ён сумны, прытуліўшыся плячыма да магутнай бярозы, якая запамяталася малым дрэўцам на панадворку звыш паўсотні гадоў таму назад. З бярозы павіслі ўніз галінкі з лісточкамі, быццам плакалі па тым, хто калісьці пасадзіў тут яе малую…»

Цёпла і нават месцамі весела прыгадвае Віктар Швед і Аляксея Карпюка з Горадні, які таксама родам з Беласточчыны, з вёскі Страшава.

Кніга Віктара Шведа тым і цікавая, што напоўнена падобнымі жыццёвымі ўспамінамі, а да ўспамінаў далучаны і паэтычныя радкі аўтара, каб больш шчыра паказаць вобразы сваіх сяброў, многіх якіх даўно няма на гэтым свеце. Хораша піша літаратар і пра Эдварда Гойліка, Земавіта Фядэцкага, Юзэфа Рыбінскага, з радасцю ўспамінае розныя вандроўкі па Расіі, Беларусі, Англіі, Літве, Фінляндыі…

Кніга 91-гадовага Віктара Шведа «З Мора ў горад» — кніга яго жыцця. А жыццё працягваецца — дык, значыць, будуць і новыя кнігі. Сам аўтар у канцы выдання кажа, што не будзе высылаць у «Ніву» свае творы, а толькі заносіць іх. Віктар Швед па-ранейшаму ў дарозе! Дык няхай гэтая дарога вядзе яго ў беларускі тыднёвік «Ніва», і да сяброў, і да сваякоў, і да землякоў у Мора, і да роднай Беларусі яшчэ доўга-доўга!

**Сяргей Чыгрын**

# Чакаючы вясны

**Гэты (80-ы) нумар часопіса «Дзеяслоў» выйшаў у свет трохі раней звычайнага, а ўсё таму, каб заспець чарговы паэтычны фестываль «Вершы на асфальце», які ўжо пяты год праводзіцца ў гонар Міхася Стральцова. Гэтым разам свята атрымалася праўду шырокамаштабным, шматдзённым, living рознатэмным і публічна ахопным...**

Бываючы на асобных яго імпрэзах я адчуваю сталенне і традыцыйнасць фестывалю, і ў той жа час — штогоднюю неардынарнасць і абнаўленне яго ўнутраных і знешніх дэкарацый. Гэта выдатна. Мяркую, што для паэтаў розных пакаленняў гэта пэўны знак аптымістычнага стаўлення да свайго прызвання. І яшчэ гэты фестываль віртуальна нагадвае мне колішні штогоднік «Дзень паэзіі», толькі не ў помным яго друкаваным фармаце, у фармаце аўдыё-відэа... А мо знойдзецца магчымасць вярнуцца і да друкаванага варыянта... Да прыкладу, «Вершы года» ці нешта падобнае. І прэзентаваць гэты зборнік якраз падчас згаданага фестывалю...

Такія вось мроі-надумкі... Што да «Дзеяслова», то да згаданага паэтычнага свята часопіс падрыхтаваў у рубрыцы «Пераклады» творы гасцей сёлетняга фестываля: літоўцаў Мар'юса Бурокаса, Дайвы Чэпаўскайтэ, паляка Багдана Задуры (пераклады А. Хадановіча), украінак Алы Мікалаенка (пераклад У. Сцебуракі) і Любы Якімчук (пераклад А. Хадановіча).

Цяпер больш канкрэтна пра змест і паасобныя публікацыі чарговага нумара. Што я параіў бы чытачам не абмінуць і, магчыма, прачытаць у першую чаргу, дык гэта прозу Уладзіміра Някляева і Валерыя Гапеева.

Прыпавесць «Лапаціна» **Уладзіміра Някляева** — цяжкая на зачыне праз мноства нагрувашчаных імён і дзей — далей, усё болей яснеючы, вартая высокай мастацкай ацэнкі. Гэта хвалюючы (з гістарычным водсветам) расповед пра памежны час, які, бы меч, завіс над вечарам паганцаў і світанкам хрысціян, час між пакланеннямі багам і малітвамі Богу, братэрскім кровапраліццем, станаўленнем і жыццясцвярджэннем беларускасці крэўнасці... Нечакана для сябе прачытаў непадалёк у рамане Гапеева: *«Святы Юры забівае Цмока... Алегорыя, сімвал перамогі хрысціянства над паганствам, разумееш? Той змей на абразе — не нейкае стварэнне з Пекла, не д'яблава дзіця. Менавіта Цмок. І ён там увасабляе старажытную веру нашых продкаў, якая была вынішчана хрысціянствам. (...) Цмок быў незалежны, вольнай істотай».* Безумоўна, не быў бы то Някляеў, каб у творы адсутнічалі паралелі з сучаснасцю і падтэксты для чытачоў са звілістымі глуздамі. Ну і па майстэрству




— тэкст выштукаваны амаль дасканала. Да прыкладу — заключны эпізод: *«Нават цішыня, здалося, сціхла — і хвіліну стаяла вострая, як лязо мяча. «А-а-а!..» — рассек яе надвое захлёбны крык Мікалая, і адным дыхам: «Ву-вух..!» — выдыхнула гара, а Ціт кінуў меч, схапіў дзіця, прыціснуў да грудзей і, чырванеючы ў белым, подбегам рушыў ад капішча ўніз, скрозь натоўп да капліцы, дзе нехта ў жаху ад яго адступаў, а нехта на калені ставаў — ці то перад бацькам, ці то перад сынам, ахрышчаным у матчынай крыві».*

**Валерый Гапееў** прапануе пачатак рамана «Ноч Цмока». Рэч нібыта і дэтэктыўная, і займальная, і напружаная па сюжэце, а між тым, у лепшых сваіх праявах, прэтэндуе і на глыбокую філасофскую інтэрпрэтацыю. Прастрань твора — правінцыйная, раённага маштабу, але прырода яго зместу — агульнанацыянальная, беларуская. Маладыя следчы накіраваны на службу ў мясцовую пракуратуру, дзе сёння любому пуаро працы хопіць. Але як у следчага, апроч працы, ёсць і ўласнае прыватнае жыццё, так і ў кожнага здзейсненага правапарушэння і правапарушальніка, тым больш забойцы, ёсць свае ўнутраныя карані і зачаткі біяграфічнай драмы... У Гапеева, як у сталага празаіка, адчуваецца набітасць рукі, але не яе аднастайная інерцыйнасць. Талент, памножаны на карпатлівую творчую працу, дае свае пазітыўныя вынікі. Літаратурнае майстэрства відавочнае, можна нават сказаць, што яно нязмушанае, натуральнае. Добра выпісаны рознапланавыя (ад пракурора да сялянак) вобразы і характары жанчын, як партрэтна, так і псіхалагічна, цікава і, можна сказаць, зусім нечакана для вясковага жыцця незавуаліравана ўзнікае гендарнае пытанне, больш за тое, нетрадыцыйныя ўзаемаадносіны і сэксуальныя заклапочанасці. Стыль пісьма просты, але не спрошчаны, з запамінальнымі і чытэльна-выразнымі дыялогамі герояў... Аднак пры ўважлівым чытанні зрэдзьчасу натыкаешся на некаторыя нацяжкі, асабліва калі аўтару дзеля ўтрымання задуманай сюжэтнай лініі трэба амаль сілавым метадам выпроствацць у патрэбным накірунку асобныя ўчынкі і саміх герояў... Хочацца прывесці маналог «камуністкі»-пенсіянеркі Санькі, адной са сведак па справе, якую вядзе маладыя следчы: *«От, хлопча... А хіба калі я ў партыю ўступіла, дык Зміцер перастаў ведзьмаком быць? Якая яму розніца: я партыйная ці не? Ён ведзьмаком быў, ім і заставаўся. І карова мая не глядзела на мой парцейны білет, як захварэла. Лекам тым ці ёсць розніца, з чыіх рук у каравячы рот ліцца, з парцейных ці з непарцейных? Ці камуністка я, ці ў Бога веру — Богу ўсё роўна, ён быў і будзе. Так і Зміцеру: хай бы ўсё сяло парцейным стала, яго сілу, які чалавек адбярэ?»*

Сюжэт агулам такі: маладая, выхаваная, фізічна статная, дабрадушная і добрадзейная дваццацісямігадовая незамужняя дзяўчына Насця (як выявілася — лесбіянка), дачка таго ведзьмака Зміцера, якая працавала санітаркай раённай бальніцы, нечакана аказваецца забітай, а да таго ж — маці памерлага (непаўнавартаснага?) нованароджанага дзіцяці... Вакол гэтага, а яшчэ вакол следчага, яго асабістага жыцця ды будняў раённага маштабу і раскручваецца тугая спіраль сюжэта. У наступным нумары — заключная частка.

Друкуецца незавершаны тэкст **Васіля Быкава** «У тую вясну...», які прапанавала часопісу ўдава пісьменніка Ірына Міхайлаўна. Сёння ўжо не так важна, аповедам ён меўся быць ці аўтабіяграфічнымі нататкамі, важна, што ён ёсць і сам па сабе, як ёсць, можа дадаць аўтарскай фактуры да творчай спадчыны вялікага нацыянальнага творцы. Паколькізазначалася дата напісання (1989 год), дык чытач можа дамысліць, якія ў той бурапенны перабудоўчы час думкі і сумненні агорталі знанага пісьменніка — яшчэ нядаўна ён атрымаў самыя высокія рэгаліі і ўзнагароды з рук партыйных бонзаў, але тая ўлада канае на вачах, а да таго ж і сама вялікая краіна на мяжы распаду... Я так думаю, што ў той час Быкаў пачаў глыбей і вастрэй асэнсоўваць сваю духоўную і нацыянальную годнасць і асабовасць — адсюль і яго «самакапанне» ўглыб уласнай прыроды...

**Анатоль Бутэвіч** прапануе ўвазе чытачоў дзве рэфлексіі пад агульным назовам «Тунэль чалавечага жыцця». Яны вяртаюць аўтара да пачатку ўсякай здаровай філасофіі: сэнс чалавечага быцця прыцягальны, але дарэшты невытлумачальны... Аднак кожны канкрэтны чалавек «прабівае» свой тунэль да ўяўнай свабоды... Ну вось хоць бы адзін з тэзісаў: *«А яшчэ ёсць цікавы прыклад у Леанарда да Вінчы, — нагадаў субяседнік. — Сведчаць, калі ён маляваў сваю «Таемную вячэру», дык адзін і той жа чалавек быў мадэллю спачатку Хрыста, а праз некалькі гадоў — Юды».*

Публікуецца фантастычнае апавяданне **Анатоля Астапенкі** «Нэйсі». Разгадка сну як небяспека рэальнага жыцця чалавека... Трошкі санліва-вумная фантазія вучонага літаратара (кандыдата фізіка-матэматычных навук і доктара паліталогіі), аднак інтрыгоўная...

З задавальненнем прачытаў выдатную прозу італьянскага пісьменніка і драматурга **Джузэпэ Манфрыдзі** «Пейзажныя замалёўкі» (фрагменты з кнігі) у цудоўным перакладзе Аксаны Данільчык. Своеасаблівая лірыка-філасофская інсталяцыя ўласных душэўна-духоўных адчуванняў... Як піша аўтар у замалёўцы «Памаранчавы сад»: *«Сродак эфемерны, але, дзякуючы настойлівасці, чалавеку ўдаецца дасягнуць значных поспехаў у спалучэнні мастацтва пранікнення на вышэйшую прыступку сваіх фантазій, здольваючы нават закрануць надзвычайныя вяршыні віртуознасці..»* Асабліва тое тычыцца таленту самога Дж. Манфрыдзі.

Паэзія ў часопісе прадстаўлена аўтарамі розных пакаленняў. Нечакана выявіўся ў вершаваных «зімовых васьмірадкоўях» празаік **Мікола Гіль**. Рытмічныя ўзлёты яго душы шчырыя і адчайна-праведныя, як апошні выдых... Наіўна было б даваць ім адзнаку: не яны судзя часу, а час ім суддзя...

Балада «Паэтычны фэст у Друскеніках» — неардынарныя творча-справаздачныя імпрэсіі верлібрам у выкананні **Уладзімера Арлова.** Дарэчна, відаць, будзе працытаваць такі характэрны фрагмент: *«твой арганізм атручаны паэзіяй /да самых карэньчыкаў валасоў», таму «ты хочаш зрабіць палітычную заяву /цішыня не запаноўвае / прашу паэтычнага прытулку!»*

Рэдкія вершы беларускага віленчука, слыннага паэта чыстай красы **Алега Мінкіна** лірычна-песімістычныя, у іх мала жыцця і шмат настойлівага пажаду ўразумець ягоны сэнс.

Раздарожныя вершы **Валеры Дубоўскага** напоўненыя метафорыкай і сярмяжнай праўдай жыцця, нясуць у сабе неадназначныя прачытанні як аўтарскага, так і беларускага нацыянальнага выраку...

*Зноў адчуваю —*
*Пранікае боль,*
*У даўнасці, здавалася б,*
*Забыты.*
*Магчымасць,*
*Немагчымае дазволь —*
*Прайсці*
*праз немагчымыя іспыты.*

**Віктар Жыбуль,** як заўсёды, у сваім (ужо не надта арыгінальным) іранічна-фантасмагарычным стылі... Не раз даводзілася чуць: дзе шмат вершаў, там мала паэзіі. Аднак падборка «Свабода тэлепарацыі» сведчыць пра тое, што нярэдка і ў такім гармідары здараюцца іскрынкі сапраўднага мастацтва.

Нарэшце — дэбют. Рэдакцыя прапануе нізку вершаў **Дашы Бялькевіч** «Кветкі і цыгарэткі». Прачытаўшы, скажу так: пры адчайных намаганнях душы на глебе гэтых цыгарэтных вершаў, пішучы радком В. Гадулькі, абавязкова «ўзыдуць кветкі прыгажосці»... Але толькі пасля «кантузіі» аўтара рэальнымі жыццёвымі выпрабаваннямі. Вядома, калі лёс «падфарціць», як кожнаму сапраўднаму паэту.

З літаратуразнаўча-публіцыстычнай трэці часопіса найбольш уражлівым для мяне асабіста падалося ліставанне **Леаніда Дранько-Майсюка** з апальным па тым часе (1982) выдатным творцам Міхасём Стральцовым, які адбываў пакаранне (працоўна-папраўчае лячэнне па-дзяржаўнаму). Нярэдка эмацыянальна-палемічная і пры гэтым інтэлігентна-інтэлектуальная гаворка маладога паэта са «старым вераб'ём» прыварожвае і выклікае такую белую творчую зайздрасць...

Разгорнутыя згадкі **Генрыха Далідовіча** пра свайго настаўніка, калегу і паплечніка-адраджэнца Уладзіміра Дамашэвіча, мяркую, таксама будуць прачытаныя з цікавасцю, найперш, спадзяюся, маладзейшымі нашымі літаратарамі. Вось штрых да партрэта апошніх гадоў Уладзіміра Максімавіча: *«Сярэдняга росту, заўсёды хударлявы, ён некалі быў жылісты, дужы. У маладосці мог і з дзябёлымі пабарукацца. А тут зусім схуднеў, нават выпетраў, ужо не ссівеў, а пабялеў, ясныя вочы прытухлі (як потым я ўведаў, зрабіла сваё і ягоная цяжкая на старасці адзінота). І адышоў ён незаўважна, ціха... верным сынам Бацькаўшчыны, якой ён умеў служыць стойка, плённа і высакародна».*

Друкуецца гістарычны нарыс **Ірыны Масляніцынай і Міколы Багадзяжа** «Князь Усяслаў Ваўкалак» (пра князя Усяслава Полацкага). Вядомы беларускі літаратуразнаўца **Аляксей Каўка** піша пра славутага нашага адраджэнца Івана Луцкевіча, тым самым, як ён зазначае ва ўступе, каб *«нагадаць катораму з «чэсных», «элегантных» палітыкаў або «адсутнаму» («мяне няма») філосафу аб невынішчальнасці нацыянальнай ідэі беларусаў, над аспрэчаннем якой сёння абодва спаборнічаюць. Марныя патугі!»*

**Сяргей Шапран** нарэшце завершыў публікацыю даў Бог пакуль яшчэ «незавершанай аўтабіяграфіі» паэта і грамадскага дзеяча У. Някляева. **Сяргей Чыгрын** піша пра запалкавыя этыкеткі XIX стагоддзя ў сваіх нататках «Аматары агню і святла». Вядомы крытык **Ірына Шаўлякова** піша пра «побыт і норавы сеціўнай літаратурнай крытыкі». Аўтар гэтага агляду разважае пра творчасць выбітнай бельскай паэткі **Надзеі Артымовіч** з нагоды яе юбілею. **Наста Грышчук** рэцэнзуе кніжкі Людмілы Рублеўскай і Леаніда Галубовіча, выдадзеныя ў серыі бібліятэчкі часопіса «Дзеяслоў». Завяршае публікацыі рубрыка **«Дзеяпіс»** анатацыямі новых кніг, выдадзеных пад патранажам Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Чытайма!

**ЛЕГАЛ**

# Рускія класікі як «нацыянал-здраднікі»?

**Не ведаю, адкуль гэта пайшло, але пры спрэчках з замбаваным насельніцтвам, якое ўпэўненае ў асаблівай расійскай духоўнасці, ужо некалькі разоў сутыкнуўся з адсылкай да «вялікай рускай літаратуры».**




Яна, як я зразумеў, павінна красамоўна даказваць спрадвечную «правату» нашых суседзяў у супрацьстаянні з Захадам і тое, што ўсякія «заходнікі» не роўня ім. Гэта вельмі дзіўна, бо інфармацыя пра лёсы рускіх класікаў павінна прывесці да зусім іншых высноў.

### Пушкін. Пажыццёва невыязны

Задоўга да таго, як зрабіцца расійскім «нашым усё», Аляксандр Сяргеевіч за свае вершы ледзь не стаў палітвязнем — ішла гаворка пра яго высылку ў Сібір ці зняволенне ў Салавецкім манастыры. Праз заступніцтва сяброў пакаранне для паэта абралі больш мяккае: высылка на поўдзень. Па правінцыях Расійскай імперыі Пушкіну давялося патуляцца некалькі гадоў.

Вярнуцца ў сталіцу Расіі паэту ў выніку дазволілі, але з шэрагу «нядобранадзейных» не выкраслілі. Нават прапагандысцкі верш «Паклёпнікам Расіі», прысвечаны паўстанню 1830–1831 гадоў у Польшчы і Беларусі, не дапамог. Пушкіну, чалавеку еўрапейскай культуры, да канца жыцця так і не дазволілі пераступіць заходнюю мяжу імперыі, пра што ён так марыў.

### Гогаль. Сатырык, які абыйшоў цэнзуру

Мікалай Васільевіч, які меў украінскія карані, вядомы сатырычным стаўленнем да расійскага ўкладу жыцця. Яго знакаміты «Рэвізор» з вялікай цяжкасцю ўдалося выцягнуць на сцэны тэатраў: маскоўская цэнзура хацела зусім забараніць п'есу.

Пасля 27 гадоў Гогаль у асноўным жыў за мяжой: Германіі, Італіі, Францыі і г.д.

### Тургенеў. Заходнік супраць славянафілаў

Пасля смерці Гогаля Іван Сяргеевіч напісаў некралог. Цэнзура палічыла, што «пра такога пісьменніка злачынна адклікацца гэтак захоплена». Калі артыкул усё ж быў надрукаваны, Тургенева на месяц арыштавалі, а затым на два гады выслалі ў вёску.

У спрэчцы славянафілаў і заходнікаў Тургенеў займаў пазіцыі апошніх. У рамане «Дым» ён уклаў у вусны аднаго з герояў наступную думку: «Наведаў я сёлетняй вясной Крыштальны палац каля Лондана; у гэтым палацы змяшчаецца, як вам вядома, нешта накшталт выставы ўсяго, чаго дасягнула людская вынаходлівасць — энцыклапедыя чалавецтва; і падумаў я ў той час: калі б такі выйшаў загад, што разам са знікненнем якога-небудзь народа з твару зямлі неадкладна павінна было б знікнуць з Крыштальнага палаца ўсё тое, што той народ прыдумаў, — наша матухна, Русь праваслаўная, правалілця б магла ў тартарары, і ніводнага цвічка... не патрывожыла б, родная: усё б спакойна засталося на сваім месцы, бо нават самавар, і лапці, і дуга, і пуга — гэтыя нашыя знакамітыя прадукты — не намі выдуманыя».

Тургенеў падоўгу жыў у Еўропе і памёр пад Парыжам.

### Талстой. Адлучаны ад праваслаўнай царквы

Леў Мікалаевіч вядомы не толькі сваімі мастацкімі творамі, але і публіцыстычнымі, і філасофскімі працамі. Вось урывак з яго тэкста «Патрыятызм і ўрад», які актуальны і сёння: «Патрыятызм у самым простым, ясным і несумненным значэнні сваім ёсць не што іншае для кіраўнікоў, як прылада для дасягнення ўладалюбных і карыслівых мэтаў, а для падначаленых ім — адрачэнне ад чалавечай годнасці, розуму, сумлення і рабскае падпарадкаванне сябе тым, хто ва ўладзе».

Ну і амаль усім вядома стаўленне Льва Талстога да рускай праваслаўнай царквы, якая, на яго думку, змяніла сэнс хрысціянскага вучэння. За крамольныя думкі пісьменнік быў афіцыйна адлучаны ад царквы.

***

Калі б у Расіі прыслухаліся да сваіх класікаў літаратуры, то мы сёння суседнічалі б з іншай краінай, з якой хацелася б браць прыклад. Але сёння лёгка выказаць наступную здагадку: калі б вышэйназваныя пісьменнікі жылі ў сучаснай Расіі, то перажывалі б за свае погляды ганенні і былі б запісаны ў «пятую калону». Ці, як выказаўся Уладзімір Пуцін, у «нацыянал-здраднікі».

**Руслан Гарбачоў**

# Прэмія Аляксандра Салжаніцына

**Эсэіст, паэт, перакладчык, адзін з лепшых спецыялістаў па англамоўнай літаратуры Рыгор Кружкоў стаў лаўрэатам прэміі Аляксандра Салжаніцына.**



Пра гэта паведаміла ўдава пісьменніка, прэзідэнт Фонда Салжаніцына Наталля Салжаніцына. «Прэмія Салжаніцына прысуджаецца Г. Кружкову за энергію паэтычнага слова, здольнага спазнаць сусвет Шэкспіра; за філалагічнае мысленне, якое высвечвае духоўныя сэнсы міжмоўных і міжкультурных сувязяў», — адзначыла Н. Салжаніцына.

Цырымонія ўручэння прэміі адбудзецца 21 красавіка ў Доме рускага замежжа імя Салжаніцына ў Маскве.

# Прэмія імя Валянціна Катаева

**Прэмія імя Валянціна Катаева за 2015 год (заснавана часопісам «Юнацтва») прысуджана Барысу Яўсееву за філасофска-сатырычны раман «Афірскі шпак» (восенню мінулага года ўвайшоў у шорт-ліст прэміі «Ясная Паляна»).**



Сюжэт «Афірскага шпака» займальны, ён развіваецца як у XVIII, так і ў XXI стагоддзі. Расійскі падданы, авантурыст Іван Трывога, які задумаў заснаваць на востраве Барнэа Афірскае царства, па загадзе Кацярыны II змешчаны ў папраўчы дом. Там ён вучыць шпака чалавечай мове. Неўзабаве Трывогу атрымалася пераправіць птушку ў Маскву да загадкавай раскольніцы часоў, якая знаходзіцца ў знакамітым Галасавым яры. У ім на доўгія гады зніклі, а потым, праз дзясяткі і нават сотні гадоў зноў з'яўляліся як асобныя людзі, так і цэлыя воінскія падраздзяленні. Обер-сакратар Апошняй экспедыцыі Шашкоўскі пасылае злавіць шпака, які выкрывае недапушчальныя дзёрзкасці. Следчы трапляюць у Галасавы яр ды знікаюць там на дзвесце з лішнім гадоў. З'яўляюцца яны ў Маскве толькі вясной 2014 года...

# Індзейцы-чэрокі і Джоан Роўлінг

**Новыя апавяданні Джоан Роўлінг пра свет Гары Потэра выклікалі крытыку з боку карэнных амерыканцаў.**

Паводле іх слоў, згадка індзейцаў у зборніку «Магія ў Паўночнай Амерыцы» некарэктная і непаважлівая, бо пісьменніца звязвае іх старажытныя вераванні з вядзьмарствам.

У лістападзе 2016 года ў пракат выйдзе фільм «Фантастычныя звяры і месца іх пражывання», дзеянне ў якім таксама разгортваецца ў Паўночнай Амерыцы, але за 70 гадоў да паказаных падзей з серыі пра Гары Потэра. Роўлінг сама напісала сцэнар да карціны.

«Духоўнасць і рэлігія індзейцаў-чэрокі — гэта не тое ж самае, што фантазіі Роўлінг пра чараўнікоў. Вераванні карэнных народаў да гэтага часу жывыя, практыкуюцца і абараняюцца», — растлумачыў доктар навук Універсітэта Браўна Эдрыян Кін, выхадзец з чэрокі. Ён адзначыў, што малыя амерыканскія народы — рэальныя і паўнавартасныя, далёкія ад шаманства і дзікасці, а «маладыя людзі, прачытаўшы кнігу, падумаюць, што індзейцы належаць да таго ж выдуманага свету, што і Гары Потэр?».



Фота Bill Haber / AP

Іншыя прадстаўнікі карэнных амерыканцаў выказалі абурэнне ў сацыяльных сетках.

Пісьменніца пакуль не пракаментавала сітуацыю.

# Апошняя кніга Умбэрта Эка

**Апошняя кніга Умбэрта Эка «Pape Satan aleppe» будзе апублікаваная ў Італіі ў траўні. Пра гэта распавяла ў інтэрв'ю ANSA кіраўнік выдавецкага дома La nave di Teseo Элізабэта Згарбі.**



У кнігу ўвойдуць эсэ Эка і расшыфроўкі яго нядаўніх публічных выступаў. Як падкрэсліла Э. Згарбі, пісьменнік, які памёр 19 лютага, паспеў скончыць, адрэдагаваць і здаць у выдавецтва поўны тэкст «Pape Satan aleppe». Акрамя таго, La nave di Teseo плануе перавыдаць дзесяць папярэдніх твораў нонфікшн У. Эка.

У назве сваёй апошняй кнігі «Pape Satan aleppe» У. Эка працытаваў «Боскую камедыю» Дантэ Аліг'еры: з радкоў Pape Satan, pape Satan aleppe пачынаецца сёмая песня першай часткі («Пекла») паэмы. Існуюць розныя версіі трактоўкі і перакладу гэтага радка. Сучасныя літаратуразнаўцы мяркуюць, што Дантэ меў на ўвазе загавор сатаны.

# «Вайна і мір» — бестсэлер у Вялікабрытаніі

«Вайна і мір» Льва Талстога ўпершыню трапіла ў брытанскія спісы бестсэлераў пасля таго, як канал «Бі-бі-сі» паказаў новы серыял па матывах рамана.

За тыдзень у Вялікабрытаніі прадаецца каля 4 000 асобнікаў самага папулярнага выдання «Вайны і міру» і яшчэ каля 2 500 копій пяці іншых выданняў твора Л. Талстога. Гэты вынік дазволіў кнізе заняць 50-е месца ў спісе нацыянальных бестсэлераў па інфармацыі «Nielsen BookScan». Раней, па дадзеных праведзенага на тэрыторыі краіны апытання, Л. Талстога чыталі толькі 4 адсоткі рэспандэнтаў.

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Паводле аўстралійскай сістэмы

Алег НОВІКАЎ

**Перахопліваць уцекачоў на мяжы ЕС і адпраўляць іх у трэцюю крану (Турцыю), якая згодная іх інтэрнаваць у адпаведныя цэнтры. Такі рэцэпт рашэння міграцыйнага крызісу прапанаваны Брусэлем. Па сутнасці, гэта — копія аўстралійскай міграцыйнай палітыкі.**



Фота www.sydneycriminallawyers.com.au

Аўстралія, як вядома, — краіна, якую стварылі іміграны. Таму, на першы погляд, сама пастаноўка пытання (бязлітасная барацьба з мігрантамі, якія імкнуцца ў Аўстралію) падаецца трошкі абсурднай. Аднак факт застаецца фактам. Задача аўстралійскага міграцыйнага ведамства — зрабіць так, каб ніводны нелегал увогуле не перакрочыў мяжу.

На думку аўстралійскіх чыноўнікаў, такі катэгарычны падыход цалкам лагічны з пункту гледжання псіхалогіі. Асобы, якія адпраўляюцца за тысячу кіламетраў у пошуках новай радзімы, дасягнуўшы канчатковай кропкі маршруту, ужо ніколі не вернуцца назад, што б ты ні рабіў. Акрамя таго, сам факт, што камусьці ўдалося прарвацца ў запаветную краіну, запускае механізм нелегальнай міграцыі. Знаходзяцца людзі, якія натхняюцца поспехам. І тут жа з'яўляюцца крымінальныя структуры, гатовыя надаць жадаючым паслугі, звязаныя з нелегальным трафікам.

Прынцыпы аўстралійскай міграцыйнай палітыкі былі перагледжаныя прыкладна 12–15 гадоў таму, калі, пасля інтэрвенцыі войскаў NATO ў Афганістан і Ірак, у краіну накіравалася безліч імігрантаў з зонаў канфліктаў. Плацдармам ім была суседняя Інданезія, адкуль Аўстралію атакавала цэлая флатылія караблёў, нагружаных нелегаламі.

**5,5**

**тысячы нелегалаў прыняла ў 2001 годзе Аўстралія. У 2007-м у краіну прыбылі толькі паўтары сотні імігрантаў-нелегалаў**

Менавіта тады ўрад запусціў план «Pacific Solution» па стварэнні так званых «міграцыйных зон за межамі краіны». Паводле аўтараў ідэі, мігранты мусілі знаходзіцца ў гэтых цэнтрах, пакуль кампетэнтныя чыноўнікі вырашаюць, ці пускаць іх у Аўстралію.

Зоны, куды накіроўвалі ўсіх затрыманых нелегалаў, месціліся на забытых Богам і людзьмі ціхаакіянскіх выспах. Прычым, некаторыя з тых выспаў не знаходзіліся пад суверэнітэтам Канберы. Пагадзіліся (за адпаведную плату) размясціць у сябе міграцыйныя зоны суседнія Папуа — Новая Гвінея і Наўру. Па еўрапейскіх мерках, папрасілі яны за гэта не так шмат. Напрыклад, 20-месячны кантракт з Дэпартаментам міграцыі і памежнай аховай для запуску міграцыйнага цэнтра ў Наўру абышоўся ў $1,2 мільярда.

«Pacific Solution» фармальна стартаваў у 2001 годзе, і з некаторымі карэктывамі працягваецца дасюль. Нелегалы апынуліся вельмі кемлівыя. У 2001 годзе, калі ўрад толькі прыняў «Pacific Solution», у Аўстралію прыплылі каля 5,5 тысячы нелегалаў, а ў 2007-м іх было ўсяго паўтары сотні. Некаторыя міграцыйныя зоны давялося нават закрыць за непатрэбнасцю.

Але дасюль у Аўстраліі працягваюцца спрэчкі наконт эфектыўнасці такой практыкі. Апаненты «Pacific Solution» звяртаюць увагу на незразумелы прававы статус рэзідэнтаў міграцыйных зон, кепскія ўмовы пражывання. Не дзіўна, што час ад часу ў міграцыйных зонах выбухалі беспарадкі. Сітуацыя там, натуральна, не падабаецца міжнароднай грамадскасці, якая пастаянна робіць Канберы заўвагі, у тым ліку праз структуры ААН. У час пагоні за караблямі з нелегаламі аўстралійскія памежнікі заходзяць у тэрытарыяльныя воды Інданезіі, што стварае напружанасць паміж дзяржавамі.

Ёсць і іншы пункт погляду. Пасля запуску «Pacific Solution» колькасць караблёў з нелегаламі вельмі хутка скарацілася на трацін у. За апошнія гады статыстыка нелегальных спроб трапіць у Аўстралію водным шляхам увогуле вымяраецца адзінкамі. Што тычыцца адсутнасці камфорту ў міграцыйных цэнтрах, то ў аўстралійскіх чыноўнікаў ёсць жалезны контраргумент: любы міграцыйны цэнтр лепш, чым тое, што дзве тысячы чалавек штогод танулі на шляху ў Аўстралію да таго, як пачаў працаваць «Pacific Solution».

Яшчэ адзін аргумент за міграцыйныя цэнтры ў замежжы — адсутнасць ім канструктыўнай альтэрнатывы. Левая апазіцыя, хаця ахвотна крытыкавала міграцыйную палітыку правых кабінетаў, дарваўшыся да ўлады ў 2008 годзе, нічога адпаведнага прапанаваць не здолела. Як толькі лейбарысты адмовіліся ад палітыкі папярэднікаў, колькасць толькі зарэгістраваных уцекачоў у Аўстраліі вырасла за год з 161 (2008 г.) да 2800 (2009 г.). Каб захаваць твар, урад прапанаваў перанесці міграцыйныя цэнтры ў Інданезію або Малайзію, дзе ўмовы пражывання нелегалаў, маўляў, будуць лепшыя. Пасля таго, як гэтыя намеры не далі вынікаў, лейбарысцкі ўрад ціха вярнуўся да старой, так званай «афшорнай» працы з нелегальнай міграцыяй, што дазволіла стабілізаваць сітуацыю.

Аднак дэбаты вакол «Pacific Solution» і яго позніх варыяцый не закончаныя, у тым ліку таму, што за апошнія часы маршрут трафіку нелегалаў з Азіі змяніўся. Цяпер яны надаюць перавагу міграцыі ў Еўропу, куды, дзякуючы сірыйскаму міграцыйнаму крызісу, аказалася трапіць дастаткова лёгка. Крытыкі «Pacific Solution» лічаць, што колькаснае скарачэнне мігрантаў, якія намагаюцца трапіць у Аўстралію, выклікана менавіта згаданай з'явай, а не жахам перад перспектывай трапіць у міграцыйны цэнтр на нейкай забытай Богам выспе. Тым больш, што трацiна жыхароў тых цэнтраў у выніку атрымліваюць часовыя візы для жыцця і працы ў Аўстраліі.

Цяпер еўрапейская прэса спрабуе адказаць на пытанне: ці можна імпартаваць аўстралійскую мадэль? Высновы ў большасці выпадкаў песімістычныя. Не толькі таму, што маштабы праблемы проста непараўнальныя. На піку нелегальнай міграцыі Аўстралія ўтрымлівала ў розных міграцыйных зонах 123 тысячы чалавек. У выпадку з Еўропай плануецца размясціць на тэрыторыі Турцыі каля 2,5 мільёна асобаў. Куды больш палохае грамадскасць тое, што Еўропа ў такім выпадку становіцца закладнікам рэжыму Эрдагана, якому ўласцівыя моцныя аўтарытарныя і клерыкальныя трэнды. Ці наважыцца ЕС у будучым крытыкаваць турэцкую Феміду, якая зараз вядзе дзве тысячы (!) крымінальных спраў па артыкулу «замах на гонар турэцкага прэзідэнта»? А прынцыпы Турцыі ў Шэнген (бонус за размяшчэнне мігрантаў), на думку шмат каго, толькі выкліча новы бум мігрантаў. Сярод спецыялістаў няма сумневаў, што на чорным рынку адразу з'явяцца турэцкія пашпарты, з якімі тыя ж сірыйцы спакойна накіруюцца ў еўрапейскія метраполіі.

Аднак не факт, што ахопленыя панікай за лёс еўраінтэграцыі Брусэль прыслухаецца да такіх аргументаў, і не дасць зялёная святло аўстралійскай мадэлі.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Тэндэнцыя вываду за мяжу капіталу, зробленага на блізкасці да ўлады, стала праяўляцца ў Беларусі апошнія некалькі гадоў. Эксперты мяркуюць, што беларускія прадпрымальнікі цудоўна разумелі, наколькі нестабільная і ненадзейная беларуская эканамічная мадэль, разлічвалі паспець збегчы з грашыма, але пралічыліся… Мясцовыя журналісты ўжо паспелі назваць гэтыя гучныя пасадкі «стрыжкай авечак», укладаючы ў змест гэтага выразу ў тым ліку і тое, што жыцці саміх бізнесменаў у дадзенай сітуацыі нікому не патрэбныя: у прадпрымальнікаў забяруць грошы і неўзабаве адпусцяць.

**«Независмая газета» (Расія)**

На працягу ўсяго 2015 года з рэзкай крытыкай заяваў пра прыналежнасць Беларусі да «рускага свету» выступаў прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка. Выкарыстанне рыторыкі «рускага свету» стала контрпрадуктыўным для ўзаемаадносін Масквы з Мінскам. Тыя часткі беларускага, як і ўкраінскага, грамадства, якія імкнуцца да рускай культуры ці ж проста з'яўляюцца яго неад'емнай часткай, апынуліся між двух агнёў.

**РБК (Украіна)**

ЕС трэба прадэманстраваць, што гэты праект («Усходнее партнёрства») нагогул не праваліўся. Таму так шмат значэння надаецца бязвізаваму ўезду, таму ЕС імкнецца захаваць нейкія каналы ўзаемадзеяння і гатовы тут ісці на такія саступкі, на якія не ішоў, напрыклад, у выпадку з Украінай. ЕС гатовы мяняць сваю пазіцыю ў дачыненні да Беларусі. Тым больш, што Беларусь, дзякуючы ўдалым дыпламатычным рашэнням Лукашэнкі з нагоды ўкраінскага крызісу, апынулася патрэбнай ЕС. У дадзеным выпадку Еўрапейскі саюз імкнецца захаваць і тут, і Арменія, і Беларусь могуць шмат атрымаць.

**«Евразия Daily» (Расія)**

Падзеі 10-гадовай даўніны ў Беларусі сёння ўспамінаюць у асноўным іх удзельнікі. Прэзідэнцкія выбары 2006 года не прывялі да змены рэжыму, а называць героямі сваіх сучаснікаў — удзельнікаў пратэстных акцый — не прынята, нават калі яны апынуліся маральнымі пераможцамі ў няроўнай барацьбе. «Васільковая рэвалюцыя» ў Беларусі не ўдалася. Але адчайны супраціў тых дзён застанецца ў найноўшай гісторыі краіны сімвалам мужнасці і выклікам жорсткай дзяржаўнай машыне.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Так атрымліваецца, што ў Беларусі з яе таталітарным рэжымам рэйтынг спрыяльнасці ўмоў вядзення бізнесу Doing Business лепшы, чым ва Украіне — краіне з рынкавай гаспадаркай. Сапраўды, так бывае. Беларусь — адзін з прыкладаў, калі ўлада, у дадзеным выпадку прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, хоча добра выглядаць перад еўрапейскімі краінамі, а таксама перад прэзідэнтам Расіі Уладзімірам Пуціным. Казахстан, Расія і Беларусь спаборнічаюць адзін з адным, імкнучыся палепшыць свае паказчыкі.

**«Новое время» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ТАДЖЫКІСТАН. Прыйшоў час для «Рахмоназнаўства»

У ВНУ Таджыкістана з'явіўся новы прадмет. Студэнтам некалькіх факультэтаў Таджыкскага нацыянальнага ўніверсітэта (ТНУ) увялі курс «Эмамалі Рахмон — архітэктар новай дзяржавы». Курс уключае 32 гадзіны лекцый, якія павінны пазнаёміць студэнтаў са зместам публіцыстычных твораў цяперашняга прэзідэнта краіны і асноўнымі этапамі яго біяграфіі. Мінадукацыі нават не хавае, што гэта пачатак стварэння комплекснага курсу «Рахмоназнаўства». Важна адзначыць, што эксперымент у ТНУ праходзіць на фоне шэрагу іншых акцый у гонар Бацькі Нацыі (так афіцыйна паводле закону называюць Эмамалі Рахмона). Далей за ўсё ў гэтым пайшлі жанчыны аднаго з райцэнтраў. Яны запісваюцца ў чаргу за кавалкам спецыяльнай тканіны, якую ў краінах Цэнтральнай Азіі сцелюць пад ногі дарагім гасцям у знак павагі. У дадзеным выпадку гаворка пра тканіну, па якой ішоў прэзідэнт падчас наведвання рэгіёну. Дзясяткі жанчын захацелі атрымаць кавалак гэтай тканіны, каб, па іх словах, «з надзеяй заслаць яе пад ногі сваіх дзяцей». Прэса адзінадушная ў ацэнках — у Таджыкістане імкліва ствараецца культ асобы Рахмона. А патрэбна гэта для таго, каб было прасцей растлумачыць народу, чаму наступным прэзідэнтам Таджыкістана будзе Рустам Рахмон — сын Эмамалі.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### КУБА. Хто быў на выспе да Абамы?

Візіт Барака Абамы на Кубу выклікаў інтарэс да гісторыі амерыкана-кубінскіх адносін, у тым ліку да папярэдніх візітаў прэзідэнтаў ЗША ў Гавану. Да таго, як 20 сакавіка Абама прыляцеў на Кубу, апошні і адзіны раз візіт такога ўзроўню меў месца ў далёкім 1928 годзе. У студзені таго года Гавану наведаў амерыканскі прэзідэнт Калвін Кулідж. Увогуле, Кулідж завітаў на Кубу, каб наведаць пасяджэнне Канферэнцыі амерыканскіх дзяржаваў, аднак паралельна мерапрыемству разам з жонкай наведаў свайго кубінскага калегу Херарда Мачада. Той візіт выглядае поўным кантрастам з сустрэчай Абама — Кастра, паколькі Куба на той час фактычна была амерыканскім пратэктаратам. Застаецца дадаць, што сучаснікам кубінскі візіт Куліджа запомніўся кур'ёзнымі сцэнамі падчас банкету ў гонар госця з Белага дому. На прыёме падавалі алкаголь, які ў той час быў забаронены ў Штатах у рамках так званага «сухога закона». Як прадстаўнік краіны, дзе моцныя напоі былі нелегальныя, прэзідэнт ЗША быў вымушаны не толькі адмаўляцца ад кілішкаў, якія яму прапаноўвалі афіцыянты. Яму таксама даводзілася бегаць ад іх па залу, каб журналісты раптам не сфатаграфавалі госця побач з пляшкай рому, што магло стаць кампраматам.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### УКРАІНА. Таксама ў чаканні лацінкі

Мы ўжо пісалі пра тое, што пастанова казахскага ўраду пра пераход правапісу на лацінку выклікала вялікі інтарэс ва Украіне. І, як следства, ужо з'явіліся першыя палітычныя заклікі да лацінізацыі ўкраінскага пісьма. Так, лідар ліберальнай партыі «5.10» Генадзь Балашоў прапанаваў перавесці ўкраінскую і рускую мовы ва Украіне на лацінку. На думку Балашова, такая мера наблізіць еўрапейскую будучыню Украіны. «Нашы дзеці змогуць цясней зблізіцца з тэхналогіямі, двайныя клавіятуры застануцца ў мінулым, а англійская мова будзе лепш засвойвацца», — сцвярджае Балашоў. На яго думку, «лацінка» таксама здольная забяспечыць рост заможнасці ўкраінцаў, дзякуючы папулярызацыі праз лацінку англійскай мовы. Балашова падтрымаў вядомы культурна-палітычны актывіст Алесь Лоній. Трэба сказаць, што ідэі лацінізацыі ўкраінскага правапісу сустрэлі неадназначную ацэнку, у тым ліку сярод празаходніх палітыкаў. У любым выпадку, дэбаты на гэтую тэму ва Украіне пачаліся.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ПУЭРТА-РЫКА. Канфуз караля

Скандалам адзначыўся VII Міжнародны кангрэс іспанскай мовы (CILE), які адбыўся на мінулым тыдні ў Пуэрта-Рыка. Адчыняў мерапрыемства сам іспанскі кароль Філіп VI. У той час, як ён чытаў урачыстую прамову, за яго спіной на вялікім экране з'явілася імя выступоўцы: «Яго вялікасць Філіп VI». Пры гэтым слова «вялікасць» было напісаная з памылкай — «su magestad», замест «su Majestad», што выклікала смех сярод прысутных. Трэба даць належнае манарху, які таксама ўсміхнуўся, калі пабачыў той надпіс. Праўда, прэса іспанскамоўных краін усё роўна дружна пасмяялася з Філіпа. Часткова гэта была помста за тое, што ў сваёй прамове ён ні разу не ўзгадаў пытанне Пуэрта-Рыка — выспа, захопленага ЗША ў Іспаніі ў напрыканцы ХІХ стагоддзя, якому ў Вашынгтоне дасюль адмаўляюцца даць правы на самастойнасць (афіцыйны статус Пуэрта-Рыка – дзяржава, якая вольна далучылася да ЗША). Раней з-за падвешанага статусу выспы аматары іспанскай культуры і мовы прынцыпова адмаўляліся праводзіць тут кангрэсы.

**Паводле іспанскай прэсы**




Фота www.taz.de

Вільфрэд Шарнагл выдаў кнігу «Баварыя здольная сама»

# Сепаратызм у скураных шортах

Алег НОВІКАЎ

**Адным з наступстваў іміграцыйнага крызісу ў Германіі стаў рэнесанс баварскага сепаратызму, які можа стаць ідэалогіяй цэнтральнага ўраду.**

Калі ў 2012 годзе Вільфрэд Шарнагл выдаў кнігу «Баварыя здольная сама» пра неабходнасць стварэння баварскай дзяржавы, яе ўспрынялі ў большай ступені як своеасаблівую правакацыю. Падставай шукаць прыхаваны сэнс было таксама тое, што аўтар — не нейкі маргінал-графаман, а былы рэдактар тыднёвіка «Bayernkurier» — органа Сацыяльна-хрысціянскага саюза (CSU), вядучай рэгіянальнай партыі.

Было не зразумела, што прымусіла такога саліднага рэдактара падацца ў палітычныя фантасты. Каму патрэбна тая незалежнасць, калі Баварыя — самы заможны край у ФРГ, дзе ў дадатак аўтахтонная палітычная сцэна. Напрыклад, Саюз хрысціянскіх дэмакратаў у Баварыі не працуе, а нішу кансерватараў займае асобная партыя — Сацыяльна-хрысціянскі саюз. Нарэшце, на гарызонце няма ніводнай прыкметы пагрозы баварскай ідэнтычнасці, мясцовай культурнай традыцыі. Кароткія скураныя шорты — сімвал Баварыі — дасюль у трэндзе мясцовай моды.

Не прайшло і пяці гадоў пасля выхаду кнігі «Баварыя здольная сама», як стаўленне да твору Вільфрэда Шарнагла кардынальна змянілася. Яго тэзісы ўсё часцей успрымаюцца як сур'ёзны маніфест. Прычына таму — не толькі эканамічны крызіс, які абуджае ў падаткаплацельшчыкаў на месцах прыроднае жаданне як мага менш плаціць у цэнтральны бюджэт.

Працуе на руку незалежнікам таксама гістарычная спадчына. Як адміністратыўная адзінка з элементамі суверэнітэту Баварыя існавала практычна да 1918-га, а апошнія спробы рэанімацыі баварскай дзяржаўнасці фіксуюцца ў сярэдзіне 1940-х гадоў. Пакуль прыкладна ў 1946-м саюзнікі, што акупавалі Германію, не знайшлі кансенсус на базе ідэі стварэння федэральнай рэспублікі, баварскія незалежнікі не пакідалі ідэю аб самастойнасці. Заснаваная імі ў той час Баварская партыя аж да канца 1950-х гадоў мела масавую падтрымку, збіраючы да 15 працэнтаў галасоў выбаршчыкаў.

Новая рэдакцыя баварскага сепаратызму, аднак, звязаная не з Баварскай партыяй, а з Сацыяльна-хрысцінскім саюзам (CSU), кіраўніцтва якога прыкладна пяць гадоў таму пачало шукаць новыя стратэгічныя пазіцыянавання. У тым ліку было вырашана паспрабаваць эксплуатаваць і набіраючую папулярнасць на фоне навінаў з Шатландыі і Каталоніі тэму незалежнасці. «Еўропе патрэбна больш Шатландый», — казаў тады намеснік старшыні CSU Пітэр Гаўвайлер.

Берлінская эліта дастаткова спакойна ўспрымала «незалежніцкую» рыторыку CSU, падазраючы, што за ёй стаіць выключна прагматычны разлік паліттэхнолагаў. «Рэгіяналізм, які патрабуе больш федэральнай аўтаноміі альбо гатовы фліртаваць з лозунгамі нацыянальнай дзяржавы, здольны забяспечыць новую стратэгічную перспектыву», — адзначала «Frankfurter Allgemrine Zeitung» у 2014 годзе. У незалежніцкую перспектыву слаба верылася таксама таму, што да цяперашняй Баварыі ў свой час штучна далучылі Франконію, дзе таксама ёсць свае сепаратысты. Выхад на сур'ёзны ўзровень тэмы пра баварскі суверэнітэт значыў бы рэанімацыю франконскага пытання, а гэта — канфлікт, які нікому не патрэбны.

Аднак нечакана, дзякуючы іміграцыйнаму крызісу, сепаратызм ад CSU атрымаў новае вымярэнне. Паколькі партыя Хорста Зеехофера адразу катэгарычна выступіла супраць плану Меркель па прыёму імігрантаў, сюды дадаліся правыя, папулярныя зараз у грамадстве тэмы. За кошт крытыкі палітыкі цэнтра па пытанні нелегалаў, Зеехофер атрымаў каласальны рэсурс нізавой падтрымкі (сёння за яго партыю гатовыя галасаваць 48 працэнтаў баварцаў, што гарантуе абсалютную большасць у ландтагу).

Таму Хорст Зеехофер можа дазволіць сабе тое, што, напэўна, не дазваляў сам Ёзэф Штраўс — легендарны лідар CSU 1970-х гадоў, агрэсіўны нораў якога дазваляў яму на роўных размаўляць з цэнтрам. Зеехофер фактычна адрадзіў баварскі МЗС. Так, увосень усе сталі сведкамі рэзанансных замежных вяжаў баварскага прэм'ера. Прычым да дзяржаўных лідараў, пра якіх спікеры берлінскага ўраду кажуць выключна ў негатыўным тоне. Спачатку Хорст Зеехофер наведаў Расію, каб паціснуць руку Уладзіміру Пуціну. А нядаўна яго бачылі ў Венгрыі ў абдымках Віктара Орбана.

Пасля зямельных выбараў 13 сакавіка, на якіх партыя Меркель значна прасела, разборкі з Берлінам увайшлі ў новую фазу. На думку Зеехофера, працяг цяперашняй іміграцыйнай палітыкі закончыцца для кааліцыі CDU-CSU катастрофай на выбарах у бундэстаг у наступным годзе. Ён нават не выключае выхаду CSU з кааліцыі з Меркель, калі яна не вызначыцца з пытаннем: «або паўмесяц, або крыж». Першым крокам у гэтым накірунку павінна быць адмова Берліна ад запланаванай лібералізацыі візавага рэжыму ЕС з Турцыяй, якая пагадзілася прымаць сірыйскіх мігрантаў.

Інтрыгу наконт развязкі канфлікту паміж Мюнхенам і Баварыяй пакуль цяжка прадказаць таксама з улікам незвычайнага фактара — пасля 13 сакавіка сярод кансерватараў Меркель з'явілася шмат аматараў Зеехофера. Так што сепаратызм у скураных шортах можа набыць самыя непрадказальныя траекторыі.

# Свет пасля Брусэля

Алег НОВІКАЎ

**Змена тактыкі барацьбы з тэрорам, уздым правага папулізму, магчымы выхад Брытаніі з ЕС, новыя правілы на транспарце — асноўныя перамены, якія сусветная прэса прагназуе пасля апошніх тэрактаў у Брусэлі.**


Фота www.ria.ru

Нягледзячы на ўвесь маштаб трагедыі ў Брусэлі, лейтматыў каментараў заходняй прэсы — не помста, а заклікі да перагляду працы сіл бяспекі. Хуткая неабдуманая рэакцыя на апошнія выбухі, на думку шмат каго, была б фатальнай памылкай. Як піша нямецкая «Der Welt», «пасля Брусэлю Еўропе патрэбныя «салідарнасць, ціхі пафас і халодная стратэгія».

Неабходнасць карэкціроўкі схемы барацьбы з ісламскім тэрарызмам прадыктавана ў тым ліку праваламі службаў бяспекі ў Парыжы і ў Брусэлі. СІМ асабліва шакуюць абставіны апошняга тэракту. Цяжка зразумець, як бельгійскія паліцэйскія праспалі тэрарыстаў пасля лістападаўскіх парыжскіх тэрактаў, калі была выяўлена прапіска мясцовага ісламісцкага падполля — квартал Маленбек у Брусэлі. Тое, што паліцыя не здолела выявіць і лакалізаваць экстрэмістаў, дало падставу іспанскаму выданню «Politico» нават назваць Бельгію «Failed State» — тэрмін, які ўжываецца для абазначэння дзяржавы, якая не можа падтрымліваць сваё існаванне як жыццяздольная палітычная адзінка.

А вось брытанская «The Guardian», наадварот, лічыць, што гісторыя з Маленбекам дазваляе спадзявацца на лепшае. «Нягледзячы на глабальнае бачанне экстрэмісцкіх ідэалогій і «міжнародны статус» такіх груповак, як «Ісламская дзяржава» і «Аль-Каіда», такая дзейнасць мае выключна лакальны характар». На думку выдання, спецслужбам трэба факусна працаваць з нядобранадзейнымі раёнамі. Нямецкая «Der Bild» згодная з такім тэзісам. Як піша газета, «неабходны інструментарый працы з мясцовымі камунамі, якія б маглі інфармаваць пра лакальную дзейнасць экстрэмістаў». Маскоўскі «Взгляд» падзяляе аптымізм, адзначаючы: «Калі тэрарыстычная пагроза ў Еўропе зводзіцца да дзеянняў «спячых груповак», гэта ў цэлым добрая навіна». Аднак пры гэтым «Взгляд» баіцца, што «такія тэракты могуць быць закліка্ны адцягнуць увагу ад больш амбіцыйнай задумы».

А вось польская «Polityka», аналізуючы ўрокі Брусэля, заклікае заняцца інтэрнэтам. «Імігранты не з'яўляюцца крыніцай тэрарызму, яны могуць быць выкарыстаны ў якасці інструмента. Жыль Кепель (вядомы спецыяліст па ісламскаму экстрэмізму) даводзіць, што за апошняе дзесяцігоддзе змяніліся спосабы вярбоўкі за кошт інтэрнэту. Тэрарызм — метад, які выкарыстоўваецца пэўнымі суб'ектамі, якія рэалізуюць канкрэтную палітыку. Эфектыўнасць у барацьбе з ім залежыць ад здольнасці правільна ідэнтыфікаваць гэтыя аб'екты», — піша выданне за Бугам.

**Еўропа, свет павінны падрыхтавацца да доўгай барацьбы з тэрарызмам. Гэта азначае актывізацыю намаганняў і значна больш высокую ступень супрацоўніцтва паміж краінамі**

Хаця брусэльскія тэрарысты былі рэзідэнтамі Бельгіі, усе прызнаюць іх сувязь з «Ісламскай дзяржавай». Таму амерыканскае агенцтва «Stratfor» лічыць, што пасля Брусэля пачнуцца новыя пастаўкі зброі для іракскіх вайскоўцаў і курдаў, каб іх рукамі знішчыць «Ісламскую дзяржаву». Новае ўсведамленне пагрозы тэрарызму сярод дзяржаў-чальцоў ЕС перанясе ўвагу на знешнія межы гэтага блока краін, магчыма з вялікім паглыбленнем супрацоўніцтва з Турцыяй.

Праўда, тое ж выданне прызнае, што развіваць кааперацыю з Турцыяй будзе цяжка ў кантэксце ўздыму правага папулізму, які амаль усім аглядальнікам падаецца непазбежным.

«Апошнія тэрарыстычныя напады могуць таксама распаліць антымусульманскія настроі ў Еўропе і змяніць падыход краін ЕС адносна прадастаўлення Турцыі бязвізавага рэжыму — ключавая ўмова Анкары для супрацоўніцтва ў пытаннях мігрантаў», — піша «Wall Stree Journal».

Брытанская «Financial Times» лічыць, што тэстам патэнцыялу правага папулізму пасля Брусэля стануць хуткія праймерыз у ЗША і паказчыкі Дональда Трампа, які па свежых слядах Брусэля выдаў новую порцыю антыіміграцыйных абяцанняў аж да адмены некаторых катэгорый кароткатэрміновых віз. На думку выдання, міма тэмы Брусэля не пройдуць і брытанскія еўрафобы ў рамках падрыхтоўкі да чэрвеньскага рэферэндуму аб выхадзе Вялікабрытаніі са складу ЕС. Будуць эксплуатаваць брусэльскія выбухі еўрафобы Францыі напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў у Францыі ў 2017 годзе.

Паўплывае Брусэль і на расклады ва Усходняй Еўропе. Прынамсі, расійская прэса вельмі спадзяецца, што актуальнасць адзінага антытэрарыстычнага фронту падштурхне Захад наладзіць дыялог з Масквой, ціхенька ахвяраваўшы Украінай. Магчыма, не дарма ва ўкраінскім афіцыёзе і ў мясцовай прэсе ў сваю чаргу сцвярджаюць, што за актам у Брусэлі тырчаць вушы ФСБ. Адзін з аргументаў на карысць такой версіі — выбухі адцягнулі ўвагу ад прысуду Надзеі Саўчанка.

Чым бы ні закончыліся кансультацыі па лініі Вашынгтон—Еўропа—Масква, вайна з тэрарызмам працягнецца і, як усе прызнаюць, зацягнецца яна надоўга. «Брусэль, Еўропа, свет павінны падрыхтавацца да доўгай барацьбы з тэрарызмам. Гэта азначае актывізацыю намаганняў і значна больш высокую ступень супрацоўніцтва паміж краінамі, якія знаходзяцца пад пагрозай. Гэта азначае мужнасць і стойкасць перад тварам пагрозы, для ліквідацыі якой спатрэбіцца шмат гадоў», — падкрэслівае «The New York Times».

Чакаюць змены і сістэму бяспекі ў Еўропе. Як піша нямецкая «Suddeutsche Zeitung», рэжым бяспекі ў тэрміналах еўрапейскіх аэрапортаў пасля Брусэля будзе больш жорсткім. Калі раней асноўная мэта заключалася ў тым, каб не пусціць тэрарыстаў на борт самалёта, то цяпер службы бяспекі будуць намагацца паставіць фільтр на падыходах да канкрэтнага комплексу будынкаў. Наконт увядзення новых правіл ужо ва ўсю ідзе барацьба паміж сілавікамі і авіяперавозчыкамі, якія кажуць, што такая мера можа выклікаць мегахаос. Калі верыць «Suddeutsche Zeitung», у якасці кампрамісу ёсць думка ўвесці спецыяльныя шлюзы для пасажыраў на падыходзе да аэрапортаў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Марын Ле Пэн



Старшыня французскай партыі «Нацыянальны фронт» стала героем сапраўднай містэрыі. Прыбыўшы з візітам у франкамоўную канадскую правінцыю Квебек, яна паціснула руку нейкаму хлопцу ў натоўпе, які сустракаў яе ў аэрапорце. Літаральна адразу хлопцу стала вельмі кепска. Пасля таго, як небараку даставілі ў шпіталь, у яго знайшлі невядомую медыцыне хваробу, якую самі ўрачы апісваюць як нешта адначасова падобнае на ліхаманку Эбола і сіфіліс. У шпіталі пакуль не могуць растлумачыць, як захварэў пацыент, аднак дапускаюць, што мікроб мог трапіць у лёгкія хлопца падчас кантакту з французскім палітыкам. Сам тынейджар таксама дапускае, што ён падхапіў хваробу ў выніку размовы з Марын Ле Пэн. Так ці інакш, улады Квебеку прынялі незвычайнае рашэнне — заклікалі квебекцаў трымацца далей ад Марын Ле Пэн і іншых сяброў дэлегацыі «Нацыянальнага фронту» падчас іх візіту ў канадскую правінцыю. Усе, хто сустракаў Ле Пэн у аэрапорце, ужо на ўсялякі выпадак таксама ізаляваныя. Праўда, гэта не астудзіла інтарэс да палітыка, асабліва пасля таго, як стала вядома пра тэракты ў Брусэлі. Увогуле, падчас туру па Квебеку Марын Ле Пэн асуджае цяперашнюю міграцыйную палітыку канадскага ўраду, які пагадзіўся прыняць 25 тысяч бежанцаў з Сірыі і Іраку.

### Ахмед Аль Зенд



Цяпер ужо былы міністр юстыцыі Егіпту стаў ахвярай свайго доўгага языка. Даючы інтэрв'ю ў прамым эфіры на тэлебачанні, ён рашуча заявіў, што гатовы арыштаваць кожнага чалавека, калі той парушыў закон, нават самога прарока Мухамеда. Сказаўшы гэтую фразу, міністр зразумеў, што ляпнуў не тое, і адразу папрасіў прабачэння. Аднак было ўжо позна. Літаральна праз некалькі хвілін усе сацыяльныя сеткі Егіпту былі запоўнены заклікамі асудзіць міністра. На думку мусульман, у дадзеным выпадку меў месца замах на гонар прарока. У выніку егіпецкі прэм'ер-міністр вырашыў не правакаваць вернікаў і выдаў пастанову пра звальненне падначаленага чыноўніка. Праўда, пакуль эмоцыі вакол міністра юстыцыі не спадаюць. Раз'юшаныя клерыкалы лічаць, што простай адстаўкі занадта мала, і парабоюць як мінімум суда над экс-міністрам. Прэса лічыць, што справа дасягнула такога маштабу з-за партыі «Браты-мусульмане». Гэта ісламісцкая арганізацыя знаходзіцца на нелегальным становішчы пасля вайсковага перавароту ў 2013-м. Не будучы ў стане ўдзельнічаць у выбарах, яна нагадвае пра сваё існаванне вось такімі кампаніямі. Акрамя таго, у партыі асабісты зуб на Ахмеда пасля таго, як у студзені ён заклікаў да масавых забойстваў фундаменталістаў.

### Георгій Маргвелашвілі

Прэзідэнт Грузіі асабіста заступіўся за Маю Панджыкідзэ, лідара партыі «Свабодныя дэмакраты», былога міністра. 11 сакавіка на YouTube з'явілася відэа інтымнай сустрэчы невядомага мужчыны і падобнай на Панджыкідзэ жанчыны. Натуральна, стужка выклікала скандал, асабліва з улікам таго, што ў краіне стартуе выбарчая кампанія ў парламент, і «Свабодныя дэмакраты» маюць някепскія шансы. У тым ліку для таго, каб выбары не ператварыліся ў дуэль кампраматаў, Маргвелашвілі заклікаў грузін асуджаць не Панджыкідзэ, а тых, хто здымае падобныя фільмы. Паводле яго слоў, грузінскі ўрад зробіць усё магчымае, каб адшукаць тых, хто апублікаваў гэтыя запісы. Генеральная пракуратура Грузіі ўжо распачала крымінальную справу па факце з'яўлення відэаролікаў, а паліцыя вядзе следства. Калі злачынцаў не знойдуць, грузінскую палітыку напэўна чакаюць новыя скандалы, здольныя парадваць нармальны ход выбараў. На днях у інтэрнэце з'явілася новае відэа — з пагрозамі працягнуць эратычны серыял. У наступных выпусках невядомыя абяцаюць распавесці пра інтымнае жыццё іншых грузінскіх палітыкаў. У інтэрнэце ходзіць версія, што падобныя фільмы здымаліся спецслужбамі Саакашвілі.




Дакументы і рэчы супрацоўніка НКУС


Польскія вайсковыя гузікі, знойдзеныя на месцы расстрэлу


Палкавы знак, знойдзены на месцы расстрэлу польскага афіцэра

# Катынскі спіс: анатомія трагедыі

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**У выніку далучэння Заходняй Беларусі да БССР у верасні 1939 года ў руках савецкіх спецорганаў апынулася не толькі значная колькасць афіцэраў Войска Польскага, але шмат паліцыянтаў, супрацоўнікаў польскага дзяржаўнага апарату і грамадзянскіх асоб. Арышты не спыняліся на працягу ўсіх так званых «першых саветаў» (з 17 верасня 1939-га па 22 чэрвеня 1941 года).**


Верасень 1939 года. Польскія паліцыянты і мірныя жыхары адступаюць на Усход Польшчы

Частка арыштаваных папаўняла шэрагі зняволеных ГУЛАГу, а іх сем'і дэпартаваліся. Іншыя па рашэнні Палітбюро ад 5 сакавіка 1940 года былі прысуджаныя да расстрэлу і пакараныя ў Катыні, Асташкаве, Медным, Харкаве, Кіеве, Мінску, а таксама ў турмах Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі.

У 1994 годзе Службай бяспекі Украіны быў знойдзены і перададзены Польшчы так званы «Украінскі катынскі спіс» — дакумент, у якім указваліся прозвішчы 3435 польскіх грамадзян, расстраляных НКУС на тэрыторыі УССР. Большасць польскіх і беларускіх даследчыкаў сталінскіх злачынстваў лічаць, што павінен быць і аналагічны «Беларускі катынскі спіс».

У дакладной запісцы Старшыні КДБ СССР Аляксандра Шалепіна ад 3 сакавіка 1959 года ў прыватнасці адзначалася, што ў распараджэнні чэкістаў на той час знаходзіліся ўліковыя справы на 7305 польскіх грамадзян, расстраляных у лагерах і турмах Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі. Калі адмінусаваць ад гэтага ліку колькасць людзей з «Украінскага катынскага спісу», то атрымліваецца, што на тэрыторыі БССР было расстраляна 3870 грамадзян Другой Рэчы Паспалітай. Узгадаем імёны некаторых з іх.


Ян Вярэніч з сям'ёй, Лунінец, 1930-я гады

## Згінулі без вестак

У канцы верасня 1939 года ў Лунінцы савецкімі спецыяльнымі органамі быў арыштаваны паручнік Войска Польскага Ян Вярэніч. Да Другой сусветнай вайны ён праходзіў службу ў 50-м пяхотным палку крэсавых стральцоў імя палкоўніка Францішка Нула. Падчас Вераснёўскай кампаніі 1939 года афіцэр удзельнічаў у баях з вермахтам у раёне Модліна, а пазней яму ўдалося вярнуцца дадому. Пра тое, што было далей, мы можам даведацца з успамінаў былога жыхара Лунінца Рамана Берлінскага:

— У 1935–1939 гадах я працаваў настаўнікам у столінскім павеце Палескага ваяводства. 23 сакавіка 1939 года мяне мабілізавалі ў войска. Пасля разбіцця нашай часткі я зноў апынуўся на Палессі. Там мне ўдалося ўстанавіць кантакт з сям'ёй Скуратаў у Вічыне ля Лунінца. Пазней я ажаніўся з Нінай Скурат. Яшчэ да вайны тут я пазнаёміўся з паручнікам Янам Вярэнічам, мужам сястры маёй жонкі. У канцы верасня 1939 года яго арыштавалі НКУС, і ён знаходзіўся, як і шмат іншых польскіх афіцэраў, у будынку былой гміны ў Лунінцы. Мы наведвалі вязніцу, каб перадаць арыштаванаму сваяку ежу. Супрацоўнік НКУС пацвердзіў, што паручнік Вярэніч сапраўды ёсць сярод зняволеных, і забраў перадачу. На пытанне, за што арыштавалі гэтага чалавека, нкусавец адказаў: «За тое, што быў польскім афіцэрам». У гэты час з будынку даносіліся крыкі і стогны арыштаваных. Калі праз нейкі час мы зноў прынеслі перадачу, то вартаўнік сказаў, што такога зняволенага няма, і ён вывезены.

Як мы ведаем, 22 сакавіка 1940 года Лаўрэнцій Берыя падпісаў загад № 00350 «Аб разгрузцы турмаў НКУС УССР і БССР», у якім, у прыватнасці, прадпісвалася з турмаў заходніх абласцей Беларускай ССР перавезці ў Мінскую турму 3000 арыштаваных. Хутчэй за ўсё, паручнік з Лунінца быў адным з тых, каго накіравалі ў распараджэнне НКУС у Мінску.

Уладзімір Лунь працаваў супрацоўнікам польскай Дзяржаўнай паліцыі ў Ракаве. У лістападзе 1939 года да яго ў дом пагрукалі нкусаўцы. Былога паліцыянта трымалі ў турмах Маладзечна, Вільні, Чэрвеня. У адпаведнасці з дакументамі 226-га палка 15-й брыгады канвойных войскаў НКУС СССР, у маі 1940 года былы ракаўскі служыцель закону быў этапаваны ў Мінск. З гэтага моманту яго сляды губляюцца. Сям'я Уладзіміра Луня вясной 1940 года была дэпартаваная ў Казахстан.

25 кастрычніка 1939 года Лаўрэнцій Цанава інфармаваў кіраўніка савецкай Беларусі Панцеляймона Панамарэнку, што ў Лідзе затрыманы фабрыкант Столе, які падчас следства прызнаўся ў арганізацыі контррэвалюцыйных арганізацый «Праца польска» і «Харцэрскі саюз». У дакуменце таксама адзначалася, што «працоўныя, якія не жадалі ўваходзіць у гэтыя арганізацыі, страчвалі працу». Паводле справаздачы НКУС, пасля страйку 1935 года Столе звольніў з працы і аддаў пад суд шмат працоўных. Таксама «фабрыканта» абвінавачвалі ў тым, што ён штрафаваў працоўных за дробныя правіннасці.

Гутарка ідзе пра тэхнічнага дырэктара фабрыкі шкла «Нёман» у Бярозаўцы Феліксa Чэслава Столе. Падчас Першай сусветнай вайны ён служыў у другім пяхотным палку Першага польскага корпусу ў Бабруйску. Падчас польска-бальшавіцкай вайны ваяваў у палку швалежэраў. У міжваеннае дваццацігоддзе сям'я Столе зрабіла ўсё, каб фабрыку ў Бярозаўцы ведалі на ўсім свеце, а яе вырабы прадаваліся ў шматлікія краіны свету.

28 верасня 1939 года Фелікс Столе быў арыштаваны НКУС, утрымліваўся ў турмах у Лідзе і Баранавічах. Далейшы яго лёс невядомы. У лістападзе 1939 года савецкімі спецыяльнымі органамі быў арыштаваны і родны брат Фелікса — Браніслаў. У следчай справе, якая да сённяшняга дня захоўваецца ў архіве КДБ па Гродзенскай вобласці, адзначаецца, што «Браніслаў Столе быў арыштаваны і абвінавачаны ў контррэвалюцыйнай прапагандзе супраць СССР і камуністычнай партыі. У адпаведнасці з 72-м артыкулам Крымінальнага кодэкса БССР, ён быў прысуджаны да 8 гадоў лагеру.

Дадому ён так і не вярнуўся і згінуў у ГУЛАГу. Сын Фелікса Чэслава Столе Лех ваяваў у Арміі Краёвай на Навагрудчыне. У верасні 1944 года ён трапіў у рукі НКУС, утрымліваўся ў турмах у Лідзе і Мінску і быў прысуджаны да 10 гадоў працоўна-папраўчых лагераў. Зняволенне адбываў у Карагандзінскай вобласці, а ў 1955 годзе рэпатрыяваў у Польшчу.

17 кастрычніка 1939 года ў Вільні быў арыштаваны былы сенатар Другой Рэчы Паспалітай Вячаслаў Багдановіч. Ён нарадзіўся ў 1878 годзе ў Дзісне. Быў адным са стваральнікаў Беларускай гімназіі ў Вільні. У 1927–1930 гадах быў кіраўніком грамадска-рэлігійнай арганізацыі «Праваслаўнае беларускае дэмакратычнае аб'яднанне» ў Вільні. Пасля арышту савецкімі спецорганамі Багдановіч знаходзіўся ў турме ў Мазыры. Далейшы яго лёс невядомы.

У кастрычніку 1939 года ў рукі НКУС трапіў беларускі грамадскі і палітычны дзеяч Ян Пазняк. У міжваеннае дваццацігоддзе ён займаўся выданнем беларускіх газет. У прыватнасці, ён стаяў у пачатках першай беларускай каталіцкай газеты «Беларус», быў рэдактарам выдання «Беларуская крыніца», удзельнічаў у выданні часопісу «Самапомач». Пасля арышту савецкімі спецорганамі ён знаходзіўся ў турмах у Вільні, а пазней у Чэрвені. У красавіку 1940 года быў перавезены ў Мінск. Пра гэта ўзгадваецца ў дакументах 15-й брыгады канвойных войскаў НКУС СССР. Далейшы лёс гэтага чалавека невядомы.

## Сведкі з магілы

Па меркаванні большасці замежных і айчынных даследчыкаў, прадстаўнікі «польскага кантынгенту», якія знаходзіліся ў мінскіх турмах увесну 1940 года, былі расстраляны ў Курапатах і іншых прыгарадах беларускай сталіцы. Пацвярджэннем гэтага з'яўляюцца асабістыя рэчы і прадметы адзення, знойдзеныя падчас эксгумацыйных прац у раёне Лагойскага тракту.

Так, сярод іншага, у раскопах былі знойдзены калошы англійска-польскай фірмы «Gentleman», польскай фабрыкі «Pepege», варшаўска-рыжскай фабрыкі «Rygawar». Акрамя гэтага, на некаторых ахвярах быў абутак з абцасамі, зробленымі на фірме «Sanok», а таксама боты чэхаславацкай фірмы «Bata».

Сярод асабістых рэчаў людзей, забітых у Курапатах, былі знойдзены грабяні і расчоскі еўрапейскіх фірм «Durabit Garantie», «Rubonit Prima», «Matador Garantie», а таксама кубак варшаўскай фірмы «Wulkan».

Безумоўна, гэтыя рэчы маглі належаць «перабежчыкам» з Заходняй Беларусі, якія беглі ў БССР у сярэдзіне 1930-х гадоў, і якіх савецкія ўлады запісвалі ў шпіёнаў і дыверсантаў. Але на адным з грэбняў, знойдзеных у Курапатах, быў надпіс па-польску: «Цяжкія хвіліны ў турме. Мінск, 25.04.1940. Думка пра вас прыводзіць мяне ў вар'яцтва. 26 IV расплакаўся. Цяжкі дзень». Як бачым, пасланне было напісана вясной 1940-га. Менавіта ў гэты час у розных частках СССР пачынаюцца сумнавядомыя катынскія расстрэлы...

# На золку французскай беларусікі: Рэнэ Мартэль

Уладзіслаў ГАРБАЦКІ

**Мы ўжо пісалі пра Антуана Мартэля. Сёння прапануем вам пазнаёміцца з Рэнэ Мартэлем. Антуан і Рэнэ сталі на самым золку франкамоўнай беларусікі. Яны — не браты і нават не родныя, у іх проста падобнае прозвішча. А таксама пра іх абодвух амаль забыліся.**

«Па-французску не існуе да сённяшняга дня жаднага агульнага ці адмысловага даследавання пра Беларусь і беларусаў», — пісаў Рэнэ Мартэль у 1929 годзе. З 1929 года, канечне, з'явіліся некаторыя творы па-французску пра Беларусь, але ў нечым сцверджанне Рэнэ Мартэля застаецца праўдзівым — дасюль даследаванняў мала, і напісаныя яны часта не зусім грунтоўна. А таксама праўда ў тым, што Беларусь як частка еўрапейскай культуры, як еўрапейская краіна дасюль менш вядомая ў Францыі за магрыбскую ці цэнтральна-афрыканскую культуры, напрыклад. Еўропа дасюль слаба ведае самую сябе — ці не таму еўрапейскі крызіс ідэнтычнасці рэгулярна ўсплывае ў позве дня? З 1920-х гадоў, насамрэч, нічога не памянялася ў дыялогу Францыя—Беларусь, нават пасля таго, як Беларусь набыла незалежнасць.

А таму сімвалічным і вельмі актуальным з'яўляецца голас забытага француза-беларусафіла Рэнэ Мартэля, які больш за 80 гадоў таму напісаў не проста першую досыць поўную працу пра Беларусь, але ўзняў голас супраць Расіі і Польшчы, якія вынішчалі беларускую культуру і хавалі сваё злачынствы ад Еўропы. Рэнэ Мартэль прароча зазначыў яшчэ ў 1929 годзе ў сваёй працы «Les Blancs-Russes. Etude historique, géographique, politique et économique» аб тым, што Францыя зусім не ведае Беларусі, аб тым, што Францыя сляпая праз сваю паланафільства.

Французскі гісторык, публіцыст, журналіст Рэнэ Мартэль (1893–1976) часта блытаецца з іншым славістам, мовазнаўцам і ў пэўнай ступені беларусістам Антуанам Мартэлем (1899–1931), выкладчыкам з Ліля. Абое жылі і пісалі пра Усходнюю Еўропу, пра Беларусь у адзін час — у 1920-я гады. Але ў другой палове XX стагоддзя імя Рэнэ Мартэля было амаль выкраслена з памяці. І вось чаму.

Падчас Другой сусветнай вайны гісторык, публіцыст і рэдактар газеты «Paris-Soir» пасіўна супрацоўнічаў з немцамі. У выніку ў 1945 годзе ён быў вырачаны на 10 гадоў прымусовых працаў і пазбаўлены грамадзянскіх правоў. І да смерці ў 1976 годзе гісторык будзе забыты і выкінуты з гісторыі. У існасці, па сёння працягваецца маўчанне вакол ягонага імя: так, у франкамоўным сеціве амаль адсутнічаюць звесткі пра Рэнэ Мартэля, тое-сёе можна наскрэбці хіба ў нямецкамоўным сеціве. Больш інфармацыі атрымалася адшукаць у архівах прэсы («Paris-Soir», «Le Monde Nouveau»), дзе друкаваўся гісторык і публіцыст.

Пры гэтым варта пазначыць, што пачынаў Рэнэ Мартэль цалкам годна і перспектыўна: авіятар падчас Першай сусветнай вайны, змагар за вольную Францыю, шчыры і адкрыты еўрапеец з кагорты Луізы Вэйс, сарбонавец, даследнік Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, знаўца народаў і культураў Усходу Еўропы (перадусім Беларусі, Украіны, Румыніі). Выдатны знаўца Банату, русінскай культуры наагул, біёграф Мазэпы і адзін з галоўных даследнікаў у 1920–1930-х гадах савецкай антырэлігійнай палітыкі.

Ягоныя шматлікія эсэ (больш за 20) карысталіся попытам, на іх спасылаліся палітыкі Лігі Нацыяў, праеўрапейскіх арганізацыяў, французскія дэпутаты і сенатары. Ягоныя працы аб месцы авіяцыі ў вядзенні вайны, польскім пытанні, забытых і маргіналізаваных народах Усходняй Еўропы (русінах Закарпацця і беларусах) перакладаліся на нямецкую, англійскую, іспанскую, украінскую, польскую мовы. Калі часам працы і былі агульныя, то гэта не мінімізавала важнасці і актуальнасці, што прысутнічалі ў пасланні. Аўтар заўсёды, акрамя простага і неабходнага азнаямлення чытачоў з новым матэрыялам, удала выстаўляў палітычныя, ідэалагічныя акцэнты і выкрываў хібы Еўропы.

Так, адной з галоўных хібаў Еўропы аўтар лічыў няведанне еўрапейцамі Еўропы. Ён крытыкаваў заходніх еўрапейцаў за тое, што яны не ведаюць усходніх еўрапейцаў, якія ў сваёй гісторыі не саступаюць у еўрапейскасці ані французам, ані англічанам. І, падаецца, гэтая хіба не выпраўленая і ў XXI стагоддзі. У працы, якія былі прысвечаныя ці то беларусам, ці то русінам, ці то ўкраінцам, ці то румынам, ці то венграм, Рэнэ Мартэль укладваў адно важнае пасланне — пашырыць веды аб Еўропе, пазнаёміць заходнікаў з іншай Еўропай. І ў 1920–1930-я гады яму гэта ўдавалася, якраз на гэтай глебе Рэнэ Мартэль сышоўся з рэдакцыяй часопіса «Le Monde Nouveau», з Панеўрапейскім хаўрусам, стаўшы, такім парадкам, адным з вястуноў і распаўсюднікаў панеўрапейскай ідэі.

Праўда, паступова — і на прыкладзе ўласных эсэ гэта бачна асабліва выразна — аўтар стаў касабочыць: так, слушная крытыка Польшчы і яе палітыкі ў дачыненні да беларусаў і ўкраінцаў па хуткім часе перакінулася ўхваленнем Германіі нямецкай палітыкі ў Цэнтральнай Еўропе. Да ўсяго панеўрапейскасць Рэнэ Мартэля часта пераходзіла ў




антыамерыканізм: ЗША з-пад пяра француза маляваліся як «янкі-скоцтва» ці «yankee-barbarie», а амерыканскія палітыкі абвінавачваліся ў занападзе Еўропы. Апагеем радыкалізму Рэнэ Мартэля стала нямецкафільская праца «Les Principes du national-socialisme» («Прынцыпы нацыянал-сацыялізму»), якая з'явілася ў 1941 годзе. Якраз гэтая праца і стала асноўным фактам на судзе 1945 года.

І тым не менш, не ў якасці рэабілітацыі, а ў якасці гістарычных кур'ёзу і справядлівасці, варта вярнуцца ў канец 1920-х гадоў, калі Рэнэ Мартэль вандраваў па Усходняй Еўропе і пісаў працы пра Беларусь. Рэнэ Мартэль разам з Антуанам Матэлем сталі, насамрэч, на самым золку французскай беларусікі, а таму варта вярнуцца да першых франкамоўных тэкстаў аб Беларусі. Тут нас цікавіць перадусім узгаданае ўжо эсэ «Les Blancs-Russes. Etude historique, géographique, politique et économique». Таксама цікавым для беларусаў могуць быць працы аўтара аб Польшчы і Украіне, у якіх паўстае шмат цікавай інфармацыі пра наш рэгіён наагул: «La Pologne et nous: la légende et l'histoire chimères et réalités» (1928), «La France et la Pologne; réalités de l'Est européen» (1931), «Vie de Mazeppa» (1931), «La Ruthenie subcarpathique» (1935).

Цікава, што француз слушна пачынае эсэ пра Беларусь з таго, што ўводзіць чытачоў у даўні, але важны для разумення Беларусі канфлікт паміж Захадам і Усходам, паміж Рымам і Візантыяй, «ваяўнічым каталіцтвам» і «захопніцкім праваслаўем». Першы француз, які пісаў пра Беларусь, чытаў не толькі польскія і расійскія тэксты, як гэта адбываецца часта сёння, але і беларускія тэксты (У. Пічэты, А. Сапунова, Я. Карскага ды іншых). Смелы француз, дарэчы, крытыкуе не толькі палякаў і расейцаў, але і летувісаў, тлумачачы французам, што назва ВКЛ хутчэй блытае, чым дэманструе праўду, бо панятак «літоўскі» ў гэтай назве вельмі спрэчны — «насамрэч, беларускі элемент у гэтай дзяржаве дамінаваў».

**Рэнэ Мартэль крытыкуе не толькі палякаў і расейцаў, але і летувісаў, тлумачачы французам, што назва ВКЛ хутчэй блытае, бо панятак «літоўскі» ў гэтай назве вельмі спрэчны — «насамрэч, беларускі элемент у гэтай дзяржаве дамінаваў»**

Вельмі захапляльна і творча падае Рэнэ Мартэль гісторыю беларускай мовы, на якой пісаліся тэксты мастацкія («Песня пра паход князя Ігара») і канцылярскія (Статуты ВКЛ). Удала параўноўвае далей занапад беларускай мовы з занападам правансальскай мовы, якія сталі «простымі мовамі» ці «мовамі сялянскімі». Не менш цікава аўтар апісвае гісторыю беларускай літаратуры, пісанай на розных мовах. Асаблівую ўвагу Рэнэ Мартэль скіроўвае на пярліну беларускай літаратуры — «Шляхціца Завальню». І як шкадуе, што гэты шэдэўр не перакладзены на французскую мову!

Ёсць у эсэ і смешныя памылкі: так, у апісанні беларускай літаратуры XX стагоддзя класік Змітрок Бядуля падаецца як пісьменніца, «дачка беднага жыдоўскага вяскоўца». Хутчэй за ўсё, канчатак «-а» ў прозвішчы «Biadulia» проста заблытаў даследніка, адкуль і смешны кур'ёз.

У іншай працы — «La Pologne et nous: la légende et l'histoire chimères et réalités» («Польшча і мы. Легенда і гісторыя. Хімеры і рэальнасць») — найбольш удалай і моцнай часткай кнігі сталася палітычная гісторыя беларусаў, асабліва палітычная гісторыя беларусаў за Польшчай. У працы падаюцца і падрабязна апісваюцца «рафінаваныя здзекі» і гвалт польскай паліцыі. Аўтар параўноўвае Польшчу з Расійскай імперыяй і называе яе «новай вязніцай народаў». Французскі гісторык складае ці не першы беларускі спіс ахвяраў польскай тыраніі і заклікае французскі ўрад «расплюшчыць вочы на нібыта цывілізаваную Польшчу».

У сваіх закліках гісторык абапіраецца адначасова на прамовы польскіх пасолў-беларусаў, на антыбеларускія расісцкія тэксты польскай арыстакратыі, якая друкавала свае пасланні па-французску, напрыклад, у «L'Europe Nouvelle», а таксама на польскую прэсу ўсёй ідэалагічнай палітры. Рэнэ Мартэль ставіць пад сумнеў добрыя гістарычныя адносіны паміж Францыяй і Польшчай, бо ў іх заўсёды «прысутнічала нешта недамоўленае, схаванае».

Гісторыку проста сорамна за тое, што кожная беларуская ахвяра ў польскай вязніцы на французскім сумленні, бо сваім маўчаннем Францыя апраўдвае і падтрымлівае польскую тыранію. Кніга завяршаецца выбачэннямі перад беларусамі, украінцамі, летувісамі за дэмакратычную і рэвалюцыйную Францыю, якая здзейсніла непапраўнае — патуранне.

Але гэтаму ёсць адна прычына, на думку гісторыка, — няведанне. І зноў заўвага Р. Мартэля гучыць амаль па-прароцку і актуальна: па сёння няведанне застаецца праблемай для самой Еўропы. Для Францыі, якая не ведае Еўропы па-за межамі ЕС. Для Беларусі, якая не ведае сваіх герояў і даследнікаў па-за межамі краіны. Для Францыі і для Беларусі, якія забылі імёны тых, хто спрабаваў закінуць масткі паміж нашымі культурамі.

# Год «Арт Сядзібы»

**24 снежня 2016 года «Арт Сядзібе» споўніцца 5 гадоў. Яе аўтары прапануюць грамадскасці далучыцца да рэалізацыі шматлікіх ідэй і праектаў гэтай культурніцкай прасторы, стаць генеральнымі спонсарамі праектаў альбо партнёрамі.**




«Арт Сядзіба» прапануе ў 2016 годзе:

1. Вялікі музычны фестываль «Каго Любіш? Люблю Беларусь!».
2. «МРБ — Мая Радзіма Беларусь» — серыя кніг-размалёвак для творчасці і адпачынку.
3. Вялікі «Спеўны сход».
4. «Багач» — першую беларускамоўную эканамічную настолку.
5. Трэці фестываль «Дзень вышыванкі» ў мінскім Парку Горкага.
6. Стварэнне серыі беларускіх мяккіх цацак для дзяцей і дарослых.
7. Новы спектакль «Францішак» ад тэатру «Арт Сядзібы».
8. Супольны музычны праект з элементамі рэаліці-шоў «Радзіма дае!».
9. Шэсць экспедыцый з канкрэтным вынікам «Сімвалы Беларусі».
10. Выданне кнігі «Аўтастопам па Азіі» па выніках падарожжаў Аляксандра Гойшыка.
11. Распрацоўку і распаўсюд прома-прадукцыі з нацыянальнымі сімваламі Беларусі.
12. Калядны фестываль «Арт-Сядзіба збірае сяброў».

«Арт-Сядзіба» звяртаецца да беларускіх прадпрыемстваў, СМІ, айцішнікаў, міжнародных карпарацый, якія працуюць у нашай краіне, індывідуальных прадпрымальнікаў, бізнесоўцаў, суайчыннікаў за мяжою і проста неабыякавых людзей: калі вас зацікавіў хоць адзін з 12 прапанаваных праектаў, і вы гатовыя стаць генеральнымі спонсарамі, партнёрамі, інвестарамі ці мецэнатамі, то дайце знак!

Кантакты: artsiadziba@gmail.com, тэл.: +375-29-782-88-81.




Фота аўтара

# Дзікае паляванне Савіцкага працягваецца

Сяргей ПІЛІПЧЭНЯ

**У Рэспубліканскім тэатры юнага гледача адбыўся грамадскі прагляд спектакля Уладзіміра Савіцкага «Дзікае паляванне караля Стаха». Прэм'ера запланаваная на 27 сакавіка, на Дзень Тэатра.**

Роўна 10 гадоў таму рэжысёр ужо звяртаўся да гэтага твора, калі ставіў яго на Малой сцэне Купалаўскага тэатра.

Новае творчае пераасэнсаванне класічнага твора Караткевіча ўражвае сваёй экспрэсіяй. Прытым здзіўляе ў першую чаргу сцэнаграфічна. Выдатны (на жаль, нябожчык) мастак Віктар Цімафееў стварыў арыгінальную дэкарацыю: драўляны памост, у якім дошкі ажываюць, падымаюцца, з іх шчылін з'яўляюцца рукі, галовы, узнікаюць шэрыя, пацукападобныя постаці. Гэта — дом Надзеі Яноўскай. Шляхецкі дом, які амаль цалкам згніў, разваліўся. Засталася толькі гэтая страшная падлога, пад якой і жывуць дзіўныя постаці: дэградаваная шляхта, якая і ператвараецца ў Дзікае паляванне.

Першая дзея ўвогуле здзіўляе віртуознай дакладнасцю рытмаў, пластыкі, рухаў, што з'яўляецца рэдкасцю для нашай сцэны, і для Тэатра юнага гледача асабліва. Вось узнікаюць з-пад дошак рукі і адбіваюць страшны рытм, і ў гэтым рытме ўгадваецца пошчак капытоў д'ябальскіх дрыкгантаў, вось Ахмістрыня (надзвычай удалая роля Ганны Казловай!) выплывае з цэнтральнай шчыліны памоста і разлівае віно Беларэцкаму (Аляксандр Гладкі) і Яноўскай (незвычайная Марта Шантар), а вось Берман Гацэвіч (дзівосны Андрэй Каралевіч), як сапраўдны пацук, крадзецца за Яноўскай і гатовы схапіць яе... За такую выключную пластыку трэба дзякаваць Яўгеніі Кульбачнай, аўтару пластычнага вырашэння.

Перад намі праходзіць любімы матыў Уладзіміра Савіцкага: цёмныя, атрутныя, бы чума, сілы ахапілі наш край і выпіваюць з яго ўсю кроў, робяць яго хворым і змарнелым. Дзікае паляванне — як сімвал шатанскай чумы. І гэта ўражвае.



**Новае творчае пераасэнсаванне класічнага твора Караткевіча ўражвае гледачоў сваёй экспрэсіяй**

На вялікі жаль, другі акт (хоць у ім шмат крычалі, лавілі і знішчылі Дзікае паляванне) не так уражвае. Ствараецца адчуванне, што рэжысёр усю сваю энергію і творчую фантазію здолеў выявіць толькі ў першай частцы, а на другую проста не хапіла сілаў. За выключэннем шыкоўна пастаўленых і сыграных сцэн з удзелам Ганны Казловай і Андрэя Каралевіча — астатняе патанае ў тлуме агульнай невыразнасці і адчуванні паспешнасці. Не вельмі зразумела, як гэтае паляванне было знішчана. Беларэцкі глядзеўся вельмі пасіўна (спачуваем Аляксандру Гладкаму, якому было нялёгка цалкам выявіць свой талент у такой роўнай ролі).

Тым не меней, спектакль варты ўвагі. Створана па-сапраўднаму таленавітая рэжысёрская хорар-гісторыя (што цалкам адпавядае Караткевічу) з выключнай працай мастака, дзе кожны рух і кожны жэст (асабліва ў першай дзеі) пластычна выразныя.

Будзем спадзявацца, што ўжо падчас прэм'ерных паказаў (27 і 29 сакавіка), удасканаленая пастаноўка «Дзікае паляванне караля Стаха» здзівіць і ўразіць нас па-новаму.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**
**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.
**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 625 57 51; +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81; novychas@gmail.com
**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 278

Падпісана да друку 25. 03. 2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.